ЯК ДЗЯЛІЦЬ СПАДЧЫНУ РУСІ?

МУЗЫКА НА КАСЦЯХ

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 www.nn.by

# Наша Гісторыя

№ 3 – 2019

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

ISSN 2617-2305

ДАРАГІ ЛЕАНІД ІЛЬЧ І ЯГО НЕСМЯРОТНЫЯ ТВОРЫ

КАНСТАНЦІН СІМАНАЎ: НЕ ПЛАКАЎ ПА ЖОНЦЫ, ПЛАКАЎ ПА СТАЛІНУ

ЯК РАСІЯ БЛАКАВАЛА РЭФОРМЫ Ў РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ

КАРОЛЬ І ЯГО КАМАНДА СТАНІСЛАЎ АЎГУСТ ПАНЯТОЎСКІ

## КАСЦЮШКА

ГЕРОЙ ДВУХ КАНТЫНЕНТАЎ, але НЕ ШЧАСЛІВЫ ЧАЛАВЕК



БАБЫ І БАБКІ

16+

Наша Гісторыя
3/2019
www.history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Паўліна Скурко, кандыдат гістарычных навук

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — партрэт Тадэвуша Касцюшкі пэндзля невядомага мастака. 1850-я гады.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X,
УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** nn@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 11.03.2019.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 0223/19.
Наклад 6 400 асобнікаў.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916. ЛД 02330/78 ад 03.03.2014 да 9.03.2019.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.

## Ад рэдакцыі

Чаму дзяржавы слабеюць і гінуць? Калі мінае той момант невяртання, пасля якога дзяржаву ўжо не ўратаваць? Чаму беларусаў вучыць у гэтым сэнсе наша гісторыя?

Сёлета адзначаецца 225-годдзе паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Касцюшку шануюць палякі і амерыканцы. Ён герой, наш вялікі зямляк. Але ягоны і ягоных паплечнікаў гераізм не ўратаваў Рэчы Паспалітай ад падзелу. Ці можна было той заняпад прадухіліць? Ці магла дзяржава вырвацца з залежнасці ад магутных суседзяў, у якую трапіла яшчэ пры канцы XVIII стагоддзя?

І біяграфія — няпростая — Касцюшкі (**старонка 4**), і аналіз дзеянняў апошняга кіраўніка Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага (**старонка 18**) даюць нам адказ на гэтыя пытанні.

Суседнія дзяржавы старанна блакавалі любыя спробы рэфармаваць краіну (**старонка 16**). Ім было выгадна захаваць тую ўяўную «стабільнасць», пры якой год за годам падточваўся фундамент дзяржавы. У выніку да крытычнага моманту Рэч Паспалітая падышла, не маючы ні структур, здольных яе абараніць, ні рэсурсаў для супраціву.

Элітам Рэчы Паспалітай здавалася, што яны зноў і зноў здолеюць у буру прайсці сухімі між сценамі дажджу. Пасля падзей XVII стагоддзя шляхта паверыла ў несмяротнасць Рэчы Паспалітай. Маскоўскі цар тады дайшоў да Вільні, шведы — да Брэста, Хмяльніцкі адарваў Украіну, — але краіна ўваскрэсла з попелу.

Мы вельмі здзівілі б караля Станіслава Аўгуста, прадказаўшы такі лёс ягонай дзяржаве нават за пару гадоў да падзелу. Між тым з гістарычнай перспектывы гэта здаецца непазбежным: адставанне ў эканоміцы, кансервацыя анахранічных сацыяльных адносін, эгаізм магнатаў-«алігархаў», слабасць арміі — такім патрыётам, як Касцюшка, там проста не знаходзілася месца, і ён стаў генералам у вайне за незалежнасць ЗША.

...Касцюшка — знакавы персанаж еўрапейскай гісторыі. Слаўна, што за апошнія гады з'явілася два беларускія помнікі яму: адзін у швейцарскім Залатурне, дзе ён памёр, другі ў беларускай Мерачоўшчыне, дзе ён вырас. Што важна: у абодвух выпадках ініцыятыва ўсталявання належала грамадскім дзеячам, а грошы збіраліся па людзях. Памятаючы пра памылкі мінулага, трэба памятаць і пра яго рыцараў. Яны не былі такімі, як мы, яны думалі і гаварылі інакш, але мы ўсе — адной зямлі.


Tadevuš Kasciuška
1746-1817
4


32


28


24




60


38


48


73
NIALL
FERGUSON
Civilization
THE WEST and the REST


44


88




ВЫЯЎЛЯЙЦЕ ШКОДНІКА БУЛЬБЫ-
КАЛАРАДСКАГА ЖУКА.
ПАВЕДАМЛЯЙЦЕ АГРАНОМУ!




96

«Такая доля людская нешчаслівая, што ніякіх правоў народу дамагчыся няможна без дарагіх сэрцу ахвяр...»

# Касц
# геро
## двух кантын
## але не шча
## ча



Помнік Тадэвушу Касцюшку ў Акадэмыі Вест-Пойнт, ЗША.

# цюшка

# ой

# нентаў

# аслівы
# алавек

**Апошні герой Рэчы Паспалітай толькі чатыры гады дарослага жыцця пражыў у сваім доме, хоць усё жыццё ваяваў за тое, каб мець Радзіму. Пра аднаго з самых вядомых выхадцаў з Беларусі напярэдадні 225-годдзя паўстання Касцюшкі піша Андрэй Скурко.**

Падзеі мінулага падаюцца нам прадвызначанымі. Напрыклад, падзелы Рэчы Паспалітай. Раз быў першы, значыць, лагічна мусілі быць і наступныя — аж пакуль краіна не знікне. Але мы вельмі здзівілі б нават караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, прадказаўшы такі лёс ягонай дзяржаве пасля першага падзелу.

Мала хто думаў тады, што за гады застою давядзецца заплаціць незалежнасцю. Тым больш што пасля падзей XVII стагоддзя шляхта паверыла ў несмяротнасць Рэчы Паспалітай. Маскоўскі цар тады дайшоў да Вільні, шведы — да Брэста, Хмяльніцкі адарваў Украіну, — але краіна ўваскрэсла з попелу.

Спробы рэфармаваць дзяржаўны лад рабіліся ад сярэдзіны XVIII стагоддзя. Сойм 1764-га, абраўшы каралём Панятоўскага, пастанавіў абмежаваць шляхецкае самаўпраўства, умацаваць цэнтральную ўладу, наладзіць збор падаткаў і стварыць сучаснае войска. Каб навучаць афіцэраў, Панятоўскі заснаваў Варшаўскі кадэцкі корпус — «рыцарскую школу». Яна рыхтавала вайсковых інжынераў.

Кароль шэфстваваў, а кіраваў «рыцарскай школай» князь Адам Чартарыйскі, яго стрыечны брат. Нібыта да яго і звярнуўся сенатар Юзаф Сасноўскі з просьбай узяць у элітную вучэльню свайго небагатага суседа, 19-гадовага шляхціца Тадэвуша Касцюшку, сына Тэклі, уласніцы маёнтка Сяхновічы пад Брэстам.

WIKIMEDIA COMMONS

Прозвішча «Касцюшка» пайшло ад памяншальнай формы імя Канстанцін

### Сяхновіцкія

З Сяхновічамі (цяпер ваколіцы Жабінкі) Касцюшкі былі звязаныя ад пачатку. Патрыярх роду, баярын Канстанцін Хведаравіч, згадваецца ў дакументах пад 1509-м, калі вялікі князь падараваў яму Сяхновічы і трох людзей: Кісяля, Перку і Ляховіча. «Касцюшка» — гэта і ёсць памяншальнае ад Канстанціна.

Вядома, што Касцюшка меў брата Гурку (Рыгора) і сястру Ждану, што ён парадніўся з Ягелонамі, узяўшы за жонку ўдаву Ганну Гальшанскую. Яны нажылі дванаццаць дачок і двух сыноў — Івана і Хведара.

Касцюшка меў у наваколлі такі аўтарытэт, што нашчадкі, якія са з'яўленнем прозвішчаў пісаліся Сяхновіцкімі, ужывалі і яго імя. Прозвішчы Радзівілаў, Кішкаў, Гаштольдаў таксама ўтварыліся ад балцкіх імёнаў пачынальнікаў дынастый.

Касцюшкі былі праваслаўнымі і, відаць, мелі славянскае паходжанне. Яны паланізаваліся, разам з усёй шляхтай, у пачатку XVII стагоддзя. У дакументах 1622 года Рыгор Касцюшка ўжо падпісваецца па-польску. А сын Рыгора Ян пакідае праваслаўе.

Сярод продкаў Тадэвуша не было выбітных ваяроў. Віхуры XVII стагоддзя яго прадзед Аляксандр Ян перажыў за мірнымі заняткамі. Тым больш што ні маскоўцы, ні шведы, ні казакі не дапялі да яго маёнтка.

Ваявалі Касцюшкі між сабой. «Року 1656 ліпеня 11 дня маёмасць маю Сяхновічы ад пана Мікалая Тэлятыцкага, брата цётчынага, адабраў... і гаспадаранне пачаў, дай Божа шчасліва!» — занатоўваў Аляксандр Ян.

Да канца жыцця ён нагаспадарыў, апроч Сяхновіч, вёскі Канатопы, Сцяпанкі і Астраўкі ды пляц з домам у Берасці. Яго сын Амбражэй быў падчашым, кобрынскім войтам, брэсцкім земскім пісарам, адзначыўся ў шляхецкіх баталіях: на сойміку ўдарыў у галаву будучага ваяводу віленскага. І гаспадарку занядбаў, ажно яго сыну, Людвіку Касцюшку, давялося прадаць фамільныя Сяхновічы, а потым, пры канцы жыцця, выкупляць іх: валодаць радавым гняздом было справай гонару. ▸



**Небагаты юнак Тадэвуш быў пратэжэ сенатара Юзафа Сасноўскага.** Сасноўскі зрабіў кар'еру, дзякуючы таму што стаў платным агентам пасла Расіі Рапніна.



**Людвіка Сасноўская, дачка сенатара Сасноўскага.** Яны з Касцюшкам кахалі адно аднаго, але яе бацькі не далі згоды на шлюб з небагатым Тадэвушам.

### Салей уцёк

Бацькі Тадэвуша валодалі 31 сям'ёй прыгонных — гэта няшмат — у вёсках Сяхновічы, Навасёлкі, Сцяпанкі і Канатопы. У інвентарах захаваліся іх прозвішчы: Цыпурык, Лось, Несцярук, Гень, Яўхімук, Ярошык, Каробка, Кабяха, Кот, Прывіцень, Мазюк, Літвін. А таксама Салей, Максімюк, Белазорык, Саляюк, Амельянюк, Матвяюк, Салівянюк, Гарасімюк, Нічыпарук.

У Рэчы Паспалітай дзейнічалі сярэднявечныя законы ў дачыненні да прыгонных. Але сведчанняў негуманнасці да мужыкоў з боку Людвіка Касцюшкі не захавалася. Наадварот, здаючы ў арэнду маёнтак, ён упісваў усе павіннасці прыгонных, каб арандатар іх не павялічыў. Сяхновіцкія сяляне мелі адносна лёгкую паншчыну, але ўсё ж селянін Андрэй Салей уцёк з Сяхновічаў з пяццю сынамі.

### Папуліст Панятоўскі

У кадэцкім корпусе да Касцюшкі прыклеілася мянушка Швед — за гарачы, як у Карла XII, нораў. Тадэвуш ледзь не выклікаў на дуэль ваяводу, які падчас танцаў штурхнуў аднаго з кадэтаў і не выбачыўся. Справа дайшла да караля. Той, выслухаўшы Касцюшку, змусіў ваяводу прасіць прабачэння.

Панятоўскі любіў прыгожыя жэсты. Тым часам рэформы абараніць не змог. У 1768-м новы сойм пад ціскам Расіі аднавіў «залатую вольнасць». Гэта пазбаўляла Рэч Паспалітую кіраванасці, рабіла яе крызіс бясконцым. Імператрыцы Кацярыне II заставалася толькі чакаць, калі еўрапейская дзяржава сама скоціцца ёй пад ногі. Кароль жа тым часам ездзіў у стан расійскага войска і раздаваў генералам Кацярыны ўзнагароды. Спадзяваўся абхітрыць...

### Пераломны момант

Першы падзел Рэчы Паспалітай заспеў Касцюшку ў Францыі. Ён па стыпендыі вывучаў у Парыжы мастацтва ды нудзіўся, што не ўдалося працягнуць вайсковую адукацыю. Тадэвуш не падазраваў, што з малявання будзе есці хлеб, калі не будзе карміць служба.

Войска Рэчы Паспалітай тады налічвала ўсяго 11 тысяч — Расіі і Прусіі важна было, каб суседняя краіна заставалася безабароннай, таму ўладкавацца на службу Касцюшка, які вярнуўся дадому ў 1774-м, не змог. Тут і прыдалося маляванне: Тадэвуш стаў хатнім настаўнікам у дачок свайго дабрадзея, сенатара Юзафа Сасноўскага.

Той Сасноўскі быў расійскі агент, але Касцюшка гэтага не ведаў. Яго думкі займала вучаніца, Людвіка Сасноўская. У яе 28-гадовы настаўнік закахаўся. Але Сасноўскі неяк падчас гульні ў карты з князем Любамірскім, ваяводам кіеўскім, дамовіўся выдаць Людвіку за яго сына Юзафа.

Пазней тая гісторыя абрасла легендамі: тут і начное выкраданне нявесты, і збіццё Касцюшкі слугамі Сасноўскага. Паказвалі нават

**Касцюшка рваўся служыць у арміі Рэчы Паспалітай, але яго не бралі: не было месца**

**Тымелеон Карынфскі**
змагар з тыраніяй, найбольш захапляў Касцюшку сярод дзеячаў Антычнасці.

Палаца, які стаіць на гары, у часы дзяцінства Касцюшкі не было. Яго збудаваў багаты прадпрымальнік Вандалін Пуслоўскі ў XIX стагоддзі. **Месца ён выбраў не выпадкова.**



SHUTTERSTOCK, BY DAMIRA

### На якой мове гаварыў Касцюшка?

Хоць род і быў спаланізаваны, а ў жыцці і перапісцы Касцюшка карыстаўся польскай мовай, але паразумецца з сялянамі, «канечне, умеў, як умее кожны шляхціц, што жыве сярод рускага люду», адзначаў біёграф Касцюшкі Тадэвуш Корзан.

мост, на якім дагналі ўцекачоў. Гэтыя танныя меладрамы капіююцца і ў свежых інтэрнэт-публікацыях.

Княгіня з дочкамі проста выехала ў іншы маёнтак. Касцюшка ж, не заспеўшы Людвікі, зразумеў намёк. Гэта магло адбыцца ўвосень 1775-га, калі Сасноўскі атрымаў, дзякуючы расійскаму спрыянню, пасаду гетмана польнага і зрабіўся персонай цалкам недасяжнай для беднага шляхціца.

Захаваліся пазнейшыя лісты ад Людвікі, княгіні Любамірскай, да Касцюшкі. Яна ўспамінае іх асабістую дату — 21 мая (відаць, дзень прызнання), успамінае іх альтанку. Бацькам яна не даравала да канца жыцця.

Для Касцюшкі гэтая гісторыя стала паваротнай. Узрушаны, ён з'язджае за мяжу, не падзяліўшы нават спадчыну з братам пасля смерці маці.

### Вярбоўшчык Бамаршэ

У той самы год амерыканскія калоніі абвясцілі незалежнасць ад Брытанскай кароны. Францыя, даўняя суперніца англічан, заснавала гандлёвы дом, праз які амерыканцам агромністымі аб'ёмамі пастаўляліся зброя і амуніцыя. Кіраваў працэсам чыноўнік і паэт П'ер Бамаршэ, аўтар камедыі «Вяселле Фігара». Ён дастаўляў у Новы Свет гарматы, вайсковыя караблі, рэкрутаваў афіцэраў. Мусіць, праз яго трапіў на службу ў ЗША і Касцюшка.

Тут прыдаліся інжынерныя веды, атрыманыя ў кадэцкім корпусе. Зброяй Касцюшкі была не шабля, а аловак, нівелір і рыдлёўка.

### Герой з алоўкам

Касцюшка амаль не хадзіў у атаку (за сем год вайны быў паранены толькі раз — штыком у ягадзіцу падчас няўдалага штурму форта), ён праектаваў умацаванні. Цяпер земляныя рэдуты і траншэі падаюцца дробяззю, але паваленыя дрэвы і разбураныя яго камандай платціны дапамаглі затрымаць наступ брытанцаў на Філадэльфію, а ўдалае размяшчэнне рэдутаў — выйграць бітву пад Саратогай, якая пераламала ход вайны.

Сам Джордж Вашынгтон шанаваў экспертнае меркаванне Касцюшкі, падараваў яму два пісталеты, але ніяк не мог запомніць прозвішча. (У адным з лістоў назваў яго нават «*Cosiecki*».) Такую праблему меў не ён адзін. Французскі інжынер у Вест-Пойнце зваў яго «месье Касці», а правадыр Малая Чарапаха расказваў сваім індзейцам, што стаў сябрам бледнатварага, якога завуць «*Касчо*». І Касцюшка падараваў правадыру два пісталеты з наказам прымяняць іх супраць кожнага, хто захоча паняволіць яго народ. ▶

### Мерачоўшчына

Частка біёграфаў пісала, што Тадэвуш Касцюшка нарадзіўся ў Сяхновічах. Аднак на час яго нараджэння бацькі Тадэвуша Людвік і Тэкля валодалі Мерачоўшчынай, што побач з Косавам. На карысць Мерачоўшчыны кажа і тое, што хрысцілі малога Тадэвуша ў Косаве, адкуль з Сяхновіч — больш за сто кіламетраў. **Арыгінальны маёнтак у Мерачоўшчыне згарэў, але захаваўся на малюнку Напалеона Орды і быў адноўлены ў 2000-я.** Цяпер там музей-сядзіба Касцюшкі. У гэтых прыгажэнных — лес на гары і поплаў у даліне — ваколіцах прайшлі яго дзіцячыя гады.



**Тадэвушу тут 15 гадоў.** Пра гэты перыяд яго жыцця звестак амаль няма. Аўтар партрэта невядомы.



**Грыпі, афрыканскі прынц**

Ардынарцам Касцюшкі ў амерыканскай арміі быў 18-гадовы Агрыпа Хал, або проста Грыпі. Хал паходзіў з Масачусэтса, але маніў, што ён сын афрыканскага князя. Аднойчы Касцюшка выправіўся ў інспекцыю, а Грыпі запрасіў да яго на кватэру рабоў з наваколля на гулянку. Ён надзеў Касцюшкаў парадны мундзір, віно лілося ракой. Касцюшка нечакана вярнуўся. Госці выскачылі праз вокны, а Грыпі паваліўся ў ногі з лямантам «Merci! Merci!» («Злітуйцеся! Не карайце!»). Касцюшка, смеючыся, падаў яму руку: «Валяцца ў нагах — ніжэй за годнасць афрыканскага князя!» Пасля вайны Грыпі вярнуўся дамоў і на атрыманыя ад урада ЗША грошы купіў зямлю. Захаваўся яго партрэт у сталым веку.

За сем гадоў амерыканскай службы Касцюшка атрымаў званне брыгаднага генерала, 12 тысяч даляраў і 500 акраў зямлі (больш за 200 гектараў; нагадаем вам, што тыповая беларуская дача — гэта 0,05 гектара).

Над асабістым па-ранейшаму вісеў фатум. Касцюшка западаў на дзяўчат з занадта высокім статусам. У Вест-Пойнце ён заляцаўся да дачкі генерала, аднак яна выйшла за Аляксандра Гамільтана, без пяці хвілін прэзідэнта ЗША. Зрэшты, Касцюшка не быў абдзелены жаночай увагай. У лісце да сяброў успамінаў, як вясёлыя паненкі з Поўдня, якіх ён забаўляў музыкай і дэкламацыяй, змусілі маляваць іх партрэты. Калі праца была скончаная, папрасілі намаляваць іх яшчэ раз — аголенымі.

Чаму ж ён вярнуўся з Амерыкі, дзе мог, асабліва атрымаўшы ўзнагароду за службу, уладкаваць свой лёс? «У душы яго азвалася цяга да Айчыны», — піша біёграф.

### Уласны дом

А ў Айчыне па-ранейшаму не было працы для «генерала замежных войскаў». Касцюшка чатыры гады жыў у Сяхновічах.

Захавалася апісанне яго маёнтка: «Дом стары і крыты саломай. Справа ад увахода ў сені вялікі пакой, за ім другі, падзелены на спальню і гардэроб. У першым пакоі — стол і некалькі драўляных крэслаў, пры дзвярах — старасвецкая адзежная шафа; у спальні — ложак пасярэдзіне і пры ім столік, на якім кніжкі, чарніліца і папера; паднос для падавання кавы, точаны рукой пана Касцюшкі з яблыні, некалькі паўміскаў і талерак яго ўласнай работы складалі ўсю мэблю».

За гаспадыню ў Сяхновічах была старая цётка Касцюшкі Зузана, прыслуга складалася з лёкая і фурмана. «За домам быў садок, у ім пара фруктовых дрэваў і горка, парослая ляшчэўнікам... была і сажалка, зарослая аерам, у ёй пладзіліся дзікія качкі, якіх гаспадар не дазваляў палохаць». У садзе быў уладкаваны, паводле моды тых часоў, раслінны лабірынт. У маёнтку выраблялiся галандскія сыры.

Гэткі быў адзіны ўласны дом, які Касцюшка меў у дарослым жыцці. Астатні час жыў у вайсковых лагерах ды па чужых кутах — ці былі гэта палацы дабрадзеяў, ці месцы зняволення, ці пакоі, прызначаныя для хатняга настаўніка.

### «Хіба я не ліцвін?»

«Пейзанскае» жыццё скончылася ў 1788-м, калі ў Варшаве сабраўся сойм, які пасля назавуць Чатырохгадовым ці Вялікім.

Першай пастановай дэпутаты павялічылі рэгулярнае войска да 100 тысяч чалавек. Касцюшка паступіў на службу ў званні генерал-маёра з жалаваннем 12 000 злотых у год.

Ён быў залічаны ў кароннае войска. У лісце да генерала Несялоўскага Касцюшка напраміл бог прасіў вярнуць яго ў ВКЛ: «Хіба я не ліцвін, не зямляк ваш?» Касцюшка наракаў на ганарыстасць тых, з кім даводзілася сутыкацца на службе ў Польшчы: «Словам няма да каго сказаць... што за гасконцы!» Ён нават пагражаў «штосьці кепскае сабе зрабіць».

Але наступныя падзеі адсунулі праблемы камунікацыі «ліцвіна» з палякамі на другі план.

**Касцюшка не аналізаваў гульні міжнародных інтарэсаў, бо ў палітыцы не разбіраўся, паводле ўласнага прызнання**

### Расія ідзе з козыраў

3 мая 1791 года сойм прыняў Канстытуцыю Рэчы Паспалітай. Быў ліквідаваны федэратыўны лад — Карона і ВКЛ станавіліся адзінай дзяржавай. Адмянялася «ліберум вета», уводзіўся падзел уладаў — выканаўчая аддавалася каралю.

У адказ пры ўдзеле графа Грыгорыя Пацёмкіна ды спрыянні Кацярыны II была ўтвораная Таргавіцкая канфедэрацыя (у рэальнасці яна была ўтвораная не ў гэтым прыгранічным мястэчку, а ў Пецярбургу). Мэты яе ўдзельнікаў былі розныя: «алігарх» Шчасны Патоцкі хацеў яшчэ больш узбагаціцца, патрыёт Севярын Ржавускі прагнуў вяртання «шляхецкіх вольнасцяў», а па факце пад прыкрыццём яе Расія ўвяла ў Рэч Паспалітую статысячнае войска.

Станіслаў Аўгуст мог супрацьпаставіць ім усяго толькі 37 тысяч жаўнераў. Пазіцыйныя

перамогі пад Зяленцамі і Дубенкай, дзе Касцюшка спыніў корпус генерала Кахоўскага, а таксама пад Міром, Зэльвай, Войшкамі, Брэстам толькі запавольвалі наступ расейцаў, але не маглі яго спыніць.

Кароль пасля перамогі пад Зяленцамі, якая магла натхніць неабстралянае войска, адмовіўся прыехаць у лагер, бо не быў упэўнены, што яму забяспечаць належныя камфорт і харчаванне...

Калі ж войска адышло за Буг і рыхтавалася да абароны, кароль і сам далучыўся да Таргавіцкай канфедэрацыі. Такая была тактыка Станіслава Аўгуста: узначаліць тое, чаму не можаш супрацьдзейнічаць, каб не страціць усё. Але ўрэшце ён усё ж страціў усё і памёр у Пецярбургу...



WIKIMEDIA COMMONS



NATIONAL PARK SERVICE

**Прыехаўшы ў 1796-м у Філадэльфію, змучаны Касцюшка загадаў сакратару Юльяну Нямцэвічу знайсці малыя, танныя і зацішныя апартаменты.** Спыніў выбар на гэтым пакойчыку ў пансіёне Эн Рэльф. Выходзіў адтуль вельмі рэдка, але ў яго часта былі госці: віцэ-прэзідэнт Томас Джэферсан, правадыр народа маямі Вялікая Чарапаха, правадыр магаўкаў Джозэф Брант. Музей адкрыты па выхадных, наведванне бясплатнае.

Тая ж вайна скончылася другім падзелам Рэчы Паспалітай.

## Французская місія

Касцюшка ў знак пратэсту выйшаў у адстаўку. Пасля Дубенкі за ім ляцела слава найлепшага палкаводца краіны. У маёнтку Чартарыйскіх дамы сімвалічна ўсклалі яму на галаву вянок з лісця дуба, пасаджанага каралём Янам Сабескім. У Львове кабеты натоўпамі хадзілі за ім, мастакі малявалі і прадавалі яго партрэты. Княгіня Замойская паабяцала яму руку сваёй дачкі Ганны, але ксёндз-духоўнік адгаварыў.

Касцюшка зноў наведаў Францыю: патрыёты Рэчы Паспалітай шукалі хаўруснікаў, каб працягнуць барацьбу. З амерыканскага досведу Касцюшка вынес, што Францыя здольная дапамагаць грашыма і зброяй змагарам з «тыраніяй». Але Парыжу, ужо не каралеўскаму, а ахопленаму рэвалюцыйнай неразбярыхай, было не да яго.

Касцюшка быў супраць таго, каб пачынаць у 1794-м непадрыхтаванае паўстанне. Але войска Рэчы Паспалітай раставала. Яго змушалі прысягаць Расіі, у тым ліку праз запалохванне: камандзіра ўланаў Дабрачынскага, што кінуўся з шабляй на прарасійскага генерала,




**Кава**
была любімым напоем Касцюшкі. Ён прывучыўся да яе ў Францыі. Захаваўся яго ўласны кубак.

пасля знайшлі нежывым. Ідэолагі паўстання Гуга Калантай і Ігнацый Патоцкі асцерагаліся, што хутка паўставаць не будзе з кім.

Касцюшка прыбыў у Кракаў і 15 сакавіка 1794-га абвясціў на плошчы Рынак Акт паўстання грамадзян.

Сам ён стаў «Найвышэйшым начальнікам нацыянальных узброеных сіл»: каб пазбегнуць жахаў тэрору рэвалюцыйнай Францыі, было вырашана аддаць кіраўніцтва ў адны рукі.

## Руціна паўстання

Дзейнасць «Найвышэйшага начальніка» была кіраваннем дзяржавай у экстрэмальных умовах. Касцюшка выдаваў адозвы, якія рыхтаваў разам з сакратаром і земляком Юльянам Урсынам Нямцэвічам (ён таксама быў з-пад Брэста, у Скоках, на поўнач ад горада, захаваўся мілы палац і парк Нямцэвічаў). Універсаламі яны спрабавалі запоўніць прагалы Канстытуцыі 3 мая.

Так, Паланецкім універсалам Касцюшка дэклараваў асабістую свабоду прыгонных сялян ды ўдвая скараціў паншчыну.

У іншай адозве ён абяцаў спрыянне праваслаўнаму духавенству: «Цяпер вы з цэлым народам маскоўскія нявольнікі, з намі будзеце шанаванымі святарамі», — пісаў ён.

Ёсць і кароткі, але праніклівы зварот да жанчын: «Аздоба роду чалавечага!» Касцюшка заклікаў іх натхняць мужчын на барацьбу, бо «такая доля людская нешчаслівая, што ніякіх правоў народу ▶




**48 гадоў**

Мы ўяўляем, што ў часе паўстання Касцюшка заставаўся маладзёнам з каштанавымі хвалістымі валасамі. Але ў 1794-м яму было ўжо 48, ён пачынаў сівець і лысець. 48 гадоў у той час адпавядае біялагічнаму ўзросту гадоў з 60 у нашы часы. Так Касцюшка выглядаў у апошнія гады жыцця.

▶ дамагчыся няможна без прыкрых і дарагіх сэрцу ахвяр...»

Выразная палітычная лінія была ў дачыненні да Вялікага Княства Літоўскага. Касцюшка скасаваў Найвышэйшую літоўскую раду на чале з Якубам Ясінскім, утвораную ў Вільні. Тая Рада пачала сваю дзейнасць, павесіўшы на ліхтарным слупе гетмана Сымона Касакоўскага, які прадаўся Расіі. Невядома, чаго больш асцерагаўся Касцюшка: «якабінства», на якое нагледзеўся ў Парыжы, ці самакіраванасці Вялікага Княства. Стварыўшы падкантрольную сабе Цэнтральную дэпутацыю ВКЛ, Касцюшка захаваў і цудоўныя адносіны з Ясінскім, якога ў лістах называў «мой дарагі генерал».

### Хто стварыў касінераў

Паўстанне 1794-га не было «народнай вайной». Пад рукой Касцюшкі былі атрады рэгулярнага войска Рэчы Паспалітай. Ён яго рэфармаваў. Пабачыўшы ў Амерыцы атрады дапаможнай міліцыі, Касцюшка арганізаваў касінераў. Узброеныя пікамі і косамі сялянскія дружыны сталі легендай паўстанцкага руху XIX стагоддзя і мастацкім вобразам у беларускай і польскай культуры.

Атака касінераў пад Рацлавіцамі вырашыла зыход бою на карысць паўстанцаў. Загінула тысяча рускіх салдат — сяляне не ведалі слова «пардон» і дабівалі тых, хто спрабаваў здацца.

Тактыка паўстанцаў у Кароне і Літве, дарэчы, рознілася. Літвіны аддавалі перавагу партызанскім рэйдам за расійскую мяжу. Міхал Клеафас Агінскі, будучы аўтар славутага паланэза, хадзіў так да Браслава, Мінска і Паставаў, Стафан Грабоўскі — аж да Бабруйска. Яны знішчалі гарнізоны і папаўнялі атрады мясцовай шляхтай. Партызаны не мелі праблемы з правіянтам і фуражом: край карміў іх.

### Ці мог Касцюшка выйграць?

У іншай замежнапалітычнай абстаноўцы, магчыма, удалося б захаваць хоць штосьці ад дзяржавы. Але Расія замірылася з Турцыяй, і гэта дазволіла Кацярыне II перакінуць на Беларусь з турэцкай мяжы Аляксандра Суворава...



**Малюнак-схема з вайсковага трактата «Навука пра пікі і косы»,** тэарэтычнай распрацоўкі часоў паўстання Касцюшкі, прысвечанай касінерам.

Апошнім горадам Беларусі, які заставаўся пад кантролем касцюшкаўцаў, было Гродна. Сюды сышліся разбітыя атрады, пераехала з захопленай Вільні Цэнтральная дэпутацыя. Тут Касцюшка ўручаў узнагароды героям паўстанцкіх баёў. Адсюль пашкамутаныя сілы адыходзілі бараніць Варшаву.

**Прысягнуў імператару Паўлу ўзамен за вызваленне, але, калі выехаў за мяжу, адрокся прысягі і нават спрабаваў вярнуць грошы**

Касцюшка здолеў адбіць ад сталіцы расійскія і прускія войскі, але пад гарадком Мацяёвіцы быў разбіты і трапіў у палон. Карнета Лысенку з Харкаўскага гусарскага палка, які, не пазнаўшы, параніў яго шабляй, пасля судзілі.

Касцюшку ж праз Кіеў, Чарнігаў, Гомель, Магілёў, Шклоў, Оршу і Віцебск адправілі ў Пецярбург. Везлі таемна, пад фальшывымі дакументамі.

Варшаву з другога заходу ўзяў Суворау, выразаўшы ў прадмесці Прага 20 тысяч чалавек.

### Пісталет не стрэліў

Пад Мацяёвіцамі паранены Касцюшка спрабаваў забіць сябе. Але ўсунуты ў рот пісталет не стрэліў. У Петрапаўлаўскай крэпасці ён перастаў есці — ці то збіраўся замарыць сябе голадам, ці то даймала дэпрэсія. Ажно ▶



SHUTTERSTOCK, BY SERGEY POZHOGA

**Помнік Касцюшку ў Мерачоўшчыне**, грошы на які людзі сабралі праз краўдфандынг.



WIKIMEDIA COMMONS

**Помнік у Філадэльфіі** стварыў польскі скульптар Мар'ян Канечны ў 1977 годзе. Сюды Касцюшка прыехаў пасля вызвалення з палону.



WIKIMEDIA COMMONS

**Касцюшка ў Вашынгтоне, сталіцы ЗША, з планамі фартыфікацыі ў руках аглядае мясцовасць.** Пад бронзавым генералам — чатыры алегарычныя фігуры. Спераду Амерыка — арол з распасцёртымі крыламі, які абараняе сцяг, шчыт і меч. Ззаду Рэч Паспалітая — арол адчайна змагаецца са змяёй. Па баках — амерыканскія салдаты і паўстанцы 1794 года, шляхціц ды селянін. Помнік усталявалі ў 1910-м за народныя грошы.




WIKIMEDIA COMMONS

ANDSPEAKINGOFWHICH.BLOGSPOT.COM

**Такі знак вітае на ўездзе ў гарадок Касіа́скаў у штаце Місісіпі**, названы ў гонар нашага героя ў 1830-я гады. Касіа́скаў трапіў у кнігу «100 найлепшых гарадкоў ЗША» падарожніка Нормана Крэмптана. Жыве тут каля 7 тысяч чалавек. Сярод знаных ураджэнцаў — Опра Уінфры, знакамітая тэлевядучая. У горадзе ёсць і помнік Касцюшку, які ніколі не бываў у Місісіпі.



WIKIMEDIA COMMONS

**Арыгінальная драўляная скульптура ў горадзе Шыдлаў** Свентакшыскага ваяводства Польшчы.



WIKIMEDIA COMMONS

**Помнік у Дэтройце** — копія кракаўскага, створанага ў 1889 годзе. Копію адлілі ў 1978-м да 200-годдзя ЗША.



PINTEREST.COM

**Помнік у Вільямс-парку ў горадзе Сэнт-Пітэрсберг,** штат Фларыда — месца тусоўкі байкераў. У парку жывуць гарадскія бяздомныя. Праходзячы паўз Касцюшку, трэба моцна трымацца за кашалёк.



SHUTTERSTOCK, BY MARIUSZ S. JURGIELEWICZ

**Помнік у Чыкага** быў створаны ў 1904 годзе на грошы мясцовай польскай супольнасці. Помнік стварыў Казімір Хадзінскі, вучань Матэйкі. На адкрыццё сабралася 50 000 чалавек.

### Цела Касцюшкі

пахавалі спачатку ў Швейцарыі, пасля перанеслі ў Кракаў і паклалі ў саборы Святых Станіслава і Вацлава, поруч з каралямі. Яго сэрца, якое ён запавядаў апошняй вучаніцы, Эміліі Цэльтнер, яе нашчадкі таксама перадалі ў Польшчу, урна з ім знаходзіцца ў Каралеўскім замку ў Варшаве. Унутраныя органы Касцюшкі, вынятыя з цела падчас бальзамавання, пахаваныя на могілках у Цухвілі (Швейцарыя).

▶ Кацярына II, якая называла Касцюшку «бестыяй», загадала перавесці яго з казематаў у палац за высокім плотам.

Смерць паўстанцкага правадыра ў турме была б іміджавым ударам па «імператрыцы-асветніцы».

Сын Кацярыны, імпульсіўны Павел I, Касцюшку вызваліў, падараваў 12 тысяч рублёў, футра і сані. Узамен Касцюшка склаў прысягу імператару, чым «выкупіў» з палону таварышаў. Спрошчана было б думаць, што Павел I выпусціў Касцюшку толькі таму, што ва ўсім дзейнічаў насуперак маці. Імператар бачыў, што Расіі трэба разрадка.

Апынуўшыся ў Францыі, Касцюшка напісаў цару дзёрзкі ліст, адрокся прысягі і нават спрабаваў вярнуць грошы.

### Ад «правадыра» да «дурня»

Наступныя дваццаць год Касцюшка, якому было ўжо за 50, шукаў месца ў жыцці. Пабываў у Амерыцы, жыў у Францыі. Палітыкі наступных пакаленняў спрабавалі прыстасаваць яго да сваіх камбінацый.

З ім двойчы сустракаўся Напалеон, ангажуючы ў стварэнне польскіх легіёнаў. Але Касцюшка бачыў, што легіёны выкарыстоўваюцца для чаго заўгодна, толькі не для вызвалення Рэчы Паспалітай. Карсіканец, які называў Касцюшку «правадыром поўначы», змяніў эпітэт на «дурня, які пераацэньвае свой уплыў».

Калі Напалеона выправілі на востраў Святой Алены, пытаннем былой Рэчы Паспалітай заняўся расійскі імператар Аляксандр I. Ён сустрэўся з Касцюшкам і на словах быў згодны аднавіць дзяржаву з усходнімі межамі па Дняпры і Дзвіне. Але па факце

### Асабістае няшчасце Касцюшкі

было няшчасцем чалавека саслоўнай эпохі, калі статус і маёмасць мелі большае значэнне за пачуцці. Не спрыяла спакойнаму стварэнню сямейнага гнязда і абраная прафесія вайскоўца ў гістарычны час, на які прыпала сталасць героя: войны, паўстанне. З гадамі, асабліва пасля раненняў і зняволення, падключыліся хваробы. Касцюшка прапусціў перыяд свайго жыцця, у які мог стварыць сям'ю.
У грашовых пытаннях Касцюшка выглядаў альтруістам, узгадаваным на ідэалах Асветніцтва: чаго вартае яго распараджэнне аддаць амерыканскую маёмасць на справу вызвалення чарнаскурых рабоў. Маёмасцю, што засталася на радзіме, ён не мог карыстацца з прынцыпу, зламаўшы прысягу расійскаму цару. Зрэшты, жыццёвыя звычкі Касцюшкі, апісаныя сучаснікамі, дазваляюць зрабіць выснову пра яго салдацкую сціпласць у побыце, нясхільнасць да назапашвання і раскошы. На жыццё ж яму хапала.

стварылі марыянетачнае Царства Польскае на частцы польскіх зямель.

SHUTTERSTOCK, BY SHU BA

**Найвышэйшая ў Аўстраліі гара Касцюшка** (2228 метраў) атрымала сваю назву ў 1840 годзе, бо яе першым даследаваў і апісаў паляк Павел Эдмунд Стшалецкі. Да прыходу белых на кантынент яна ніякай абарыгеннай назвы не мела.



Казімір Вайнякоўскі. Прыжыццёвы партрэт, дата невядомая. **Мастак Вайнякоўскі быў удзельнікам паўстання 1794 года.**

— Гэты партрэт найбольш блізкі да рэчаіснасці: **Касцюшка быў мініяцюрны**, субтыльны, далікатнага выгляду. Мастакі наступных эпох усё больш гераізавалі яго, і на амерыканскім партрэце XX стагоддзя ён ужо сапраўдны волат.
Ён паўстае прагрэсіўным чалавекам. Мы бачым яго не вусатым шляхціцам у кунтушы (хоць у тую эпоху нямала людзей так хадзіла) — ён апрануты на французскі манер.
**Цюрбан** з лёгкай баваўнянай тканіны быў вельмі модным на хвалі захаплення Усходам, так уяўлялі сабе персідскую чалму. Наперадзе ўстаўлялася пяро і замацоўвалася аграфам — спецыяльнай спражкай.
**Шаўковая хустка** і адсутнасць парыка дэманструюць ягоны дэмакратызм, але і ўвагу да тагачаснай моды.
Чамарка на ім — паліто з шарага сукна — простая, шляхецкая, перашытая ў народным стылі.
Касцюшка **выглядае франтам**. Але не ў напудраным парыку, як Сувораў, не зашпілены на ўсе гузікі, а такі крыху расхрыстаны, casual, — **мастацтвазнавец Сяргей Харэўскі расказаў, на што звярнуць увагу на Касцюшкавых партрэтах.**



Гэты партрэт — пераход ад рамантызму да сімвалізму. Касцюшка на фоне неба, і гэта не проста неба — набліжаецца навальніца. Ідуць перамены.

**Рэмень**, які ёсць на ўсіх партрэтах, — гэта партупея. Яна падтрымлівае рэмень, на якім трымаецца шабля. Яе не проста было насіць на баку — кавалерыйскія шаблі цяжэйшыя, чым былі ў папярэднюю эпоху.

**Мастак невядомы. Каля 1850 года.**



Карл Готліб Швайкарт. Каля 1802 года. **Касцюшка паказаны з арлом ордэна Цынцыната** — арганізацыі найлепшых прадстаўнікоў амерыканскага грамадства. Касцюшка адным з першых атрымаў гэту ўзнагароду.

— **Тады ў модзе былі завітыя валасы**. Буклі рабілі спецыяльнымі шчыпцамі, разагрэтымі на вуголлі. Гэтым трэба было займацца пастаянна — больш чым на дзень-два завіўкі не хапала. Людзі той эпохі прысвячалі знешнасці шмат часу.



Гэта стылістыка ар-дэко, мадэрну. Такое дэкаратыўнае, лубочнае бачанне. Стыль быў модны ў ЗША напярэдадні Другой сусветнай вайны, а для Еўропы ў той час быў ужо састарэлым, несучасным.

Артур Шык, польска-амерыканскі мастак-ілюстратар. 1938 год. **Адна з мініяцюр, напісаных для ўпрыгожвання польскага павільёна на Сусветнай выстаўцы ў Нью-Ёрку ў 1939 годзе.**

### Амерыканская спадчына Касцюшкі

У 1798 годзе Касцюшка, пакідаючы ЗША, напісаў запавет, загадаўшы ўсю сваю амерыканскую маёмасць і грошы вытраціць на вызваленне і адукацыю чарнаскурых рабоў. Выканаўцам волі ён прызначыў Томаса Джэферсана. Але 77-гадовы Джэферсан перадаручыў маладзейшым. Справа цягнулася да 1852-га. Ільвіная доля грошай сышла на адвакатаў. Рэшткі выплацілі сваякам Касцюшкі ў Польшчы. Яшчэ ў 1847-м маёмасць ацэньвалася ў $43 504, але адшукаць удалося толькі $5 680. Для XIX стагоддзя і гэта была агромністая сума, але ж колькі з'елі юрысты!

### Асвета «русінаў» праз «польскі дух»

Апошнія гады ён пражыў у Швейцарыі, у прыязнай сям'і. Вучыў юных дачок маляванню, але гэта была хутчэй сінекура для 70-гадовага ваяра, якому няма дзе прыхінуцца. Адной з навучэнак, Эміліі, згодна з тастаментам, Касцюшка літаральна аддаў сваё сэрца.

У пачатку кастрычніка 1817-га Касцюшка захварэў на «эпідэмічную нервовую гарачку» і сканаў. Яго цела, пахаванае спачатку ў швейцарскім Залатурне, пасля перанеслі ў Кракаў, у каралеўскую пахавальню.

Параза Касцюшкі, гібель Рэчы Паспалітай запусціла працэсы, вынікам якіх стала з'яўленне на яе абшарах новых нацый: беларускай, украінскай, літоўскай, польскай — са сваімі палітычнымі патрабаваннямі і прагай дзяржаўнага будаўніцтва. Наўрад ці гэта было б магчыма, каб палітычны паляк Касцюшка перамог. Ён лічыў, што асвета «русінаў» магчымая толькі тады, калі «польскі дух у іх увойдзе». Але лёс распарадзіўся іначай, а XX стагоддзе скарэктавала яго ідэі, паказаўшы, што поруч з сацыяльным ідзе і нацыянальнае вызваленне.




У запавеце Касцюшка прызначыў выканаўцам сваёй волі **амерыканскага прэзідэнта Томаса Джэферсана.** Гэты ж партрэт быў напісаны рукой паўстанца.




JIVEBELARUS.NET

**Трафарэтнае графіці з выявай Касцюшкі** ў цэнтры Мінска.

Але ўсё ж у Купалавым праграмным «Людзьмі звацца!» чуецца водгулле і Касцюшкавых універсалаў. І беларусам не варта аддаваць вялікага чалавека іншым народам. Ён герой і Амерыкі, і Францыі, і Польшчы, і наш. ◆

### Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка

(1746, Мерачоўшчына, Беларусь – 1817, Залатурн, Швейцарыя) — ачольнік паўстання 1794 года, нацыянальны герой Беларусі, Польшчы і ЗША. Удзельнік барацьбы Рэчы Паспалітай супраць Расіі і Прусіі, а таксама вайны за незалежнасць ЗША.
Скончыў кадэцкі корпус у Варшаве, вучыўся ў Францыі. Па вяртанні на радзіму быў хатнім настаўнікам у дачок сенатара Сасноўскага. Не атрымаўшы згоды на шлюб з Людвікай Сасноўскай, у 1776-м завербаваўся ў армію ЗША. У якасці вайсковага інжынера займаўся будаўніцтвам умацаванняў, у тым ліку форта Вест-Пойнт, стаўкі галоўнакамандуючага. У 1783-м атрымаў званне брыгаднага генерала.
У 1784–1789 жыў у сваім маёнтку Сяхновічы. У 1789-м паступае ў войска Рэчы Паспалітай у званні генерал-маёра. Удзельнік вайны з Расіяй. Аўтар перамогі пад Дубенкай: маючы 5300 салдат, спыніў 25-тысячны корпус генерала Міхаіла Кахоўскага. Пасля капітуляцыі падаў у адстаўку.
У Лейпцыгу і Парыжы шукаў падтрымкі для далейшага змагання супраць акупацыі Рэчы Паспалітай. 24 сакавіка 1794-га ў Кракаве абвясціў пра паўстанне і стаў «найвышэйшым начальнікам» паўстанцкіх сілаў. Выйграў бітву пад Рацлавіцамі (4 красавіка), выдаў Паланецкі ўніверсал, у якім даў грамадзянскія правы прыгонным. Абараняў Варшаву ад расійскіх і прускіх войскаў. У бітве пад Мацяёвіцамі (10 кастрычніка) паранены і ўзяты ў палон. Вызвалены імператарам Паўлам I.
У 1797–1798 наведаў ЗША. Пасля жыў у Францыі. З Напалеонам не паразумеўся, пасяліўся пад Парыжам і дыстанцыяваўся ад палітыкі. Пасля жыў у Вене (Аўстрыя), Залатурне (Швейцарыя), дзе працаваў хатнім настаўнікам. Памёр 15 кастрычніка 1817-га.

# Як Расія блакавала рэформы ў Рэчы Паспалітай

**Каб Рэч Паспалітая захавалася як дзяржава, ёй трэба было змяніць як палітычны лад, так і эканамічнае жыццё, і адначасова сістэму абароны і бяспекі. У Пецярбурзе і Берліне тое разумелі і таму старанна пільнавалі, каб у РП нічога не мянялася.**

Спробу рэфармаваць Рэч Паспалітую ў 1760-я звязваюць з імем Адама Казіміра Чартарыйскага — аднаго з найуплывовейшых магнатаў, кіраўніка «Фаміліі» Чартарыйскіх, якая была нечым накшталт кіроўнай палітычнай партыі ў краіне. Пасля смерці караля Аўгуста III Саксонскага карону мог атрымаць і сам Адам Чартарыйскі, але палічыў за лепшае застацца ў цяні і адмовіўся на карысць свайго стрыечнага брата Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Каб перамагчы канкурэнтаў, партыю Патоцкіх, Чартарыйскія звярнуліся па дапамогу да Расіі.

Канвакацыйны сойм 1764 года ў Варшаве, на якім Панятоўскі быў абраны каралём, адбываўся пад аховай расійскіх войскаў з гарматамі. Частка дэлегатаў пакінула яго. Чартарыйскія скарысталіся адсутнасцю апазіцыі, каб арганізаваць галасаванне за рэформы. Іх пералік дапамагае зразумець асноўныя праблемы краіны на той час.

Сойм пастанавіў скасаваць права ліберум вета; забараніць магнатам збіраць прыватныя мыты (і збіраць толькі дзяржаўныя, у бюджэт); забараніць на неакрэслены час утвараць канфедэрацыі; стварыць у Кароне і ВКЛ цэнтральныя органы ўлады — скарбовыя і вайсковыя камісіі; скасаваць прысягу будучых паслоў у сойм на «пасольскіх інструкцыях» на мясцовых сойміках; уніфікаваць сістэму мер і вагаў; удасканаліць падаткаабкладанне яўрэйскіх кагалаў; абмежаваць уладу гетманаў; упарадкаваць дзяржаўную зямельную маёмасць; зменшыць магнацкія прыватныя войскі — тагачасныя «ЧВК», прыватныя вайсковыя кампаніі — да 300 чалавек.

Узамен за расійскую падтрымку сойм прызнаў за Кацярынай II тытул «імператрыцы Усяе Русі». Гэтая дробненькая, здавалася б, саступка дазволіць ёй у будучыні прэтэндаваць на землі сучаснай Беларусі і Украіны падчас падзелаў Рэчы Паспалітай.

За наступныя чатыры гады, адзначалі назіральнікі, нягледзячы на складаныя ўмовы, эканамічнае жыццё ў краіне ажывілася, пачалася падрыхтоўка сучасных вайсковых кадраў,



**Гуга Калантай**, будучы ідэолаг рэформаў, Канстытуцыі 1791 года і паўстання Касцюшкі, абурана глядзіць на Панятоўскага. Насамрэч, Калантаю на той момант было 23 гады і ён вучыўся ў Вене і Рыме.

**Кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі** сышоў з трона, упрыгожанага белым арлом, і разгублена стаіць. У яго руцэ гадзіннік, які адлічвае апошнія гадзіны Рэчы Паспалітай.

**Міхал Фрэдэрык Чартарыйскі**, кіраўнік «Фаміліі» Чартарыйскіх, магнацкага роду і палітычнай партыі, якая прывяла да ўлады Панятоўскага.

**Магнат Францішак Патоцкі** ідзе, выставіўшы рукі, нібы сляпы. За ім ідаць **Караль Радзівіл (Пане Каханку).** Яны ў выразных сармацкіх строях і ўвасабляюць «залатыя вольнасці», магнацкае свавольства, якое прывяло краіну да заняпаду.

**Пасол Расіі Мікалай Рапнін.** Ад 1769-га ўжо не працаваў у Рэчы Паспалітай, але стаў сімвалічнай фігурай расійскага ўмяшання ў справы дзяржавы. Арганізаваны ім сойм 1768 года адмяніў абвешчаныя раней рэформы і паглыбіў стагнацыю Рэчы Паспалітай, яго нават называлі пазней «рапнінскім».

**Ізабэла Чартарыйская**, жонка Адама Казіміра Чартарыйскага, каханка Панятоўскага, а пасля і Рапніна. Казалі, што Рапнін быў бацькам яе сына Адама Ежы Чартарыйскага, міністра замежных спраў імперыі пры Аляксандру I.
Паводле іншай версіі, гэта **Альжбета Грабоўская**, каханка, а пасля і жонка Станіслава Аўгуста, якая схіліла караля да Таргавіцкай канфедэрацыі.

**Сам Матэйка** змясціў на карціне свой аўтапартрэт са скрушна ўзнятай рукой.

**Малады паўстанец** уздымае шаблю і шапку-канфедэратку. Абагулены вобраз змагання за аднаўленне Рэчы Паспалітай у часы Касцюшкі і цягам усяго XIX стагоддзя. Паводле адной з версій, гэта **Самуэль Корсак**, яшчэ адзін пасол Навагрудскага ваяводства, пазней удзельнік паўстання Касцюшкі, загінуў, абараняючы Варшаву ад войска Суворава.

**Партрэт імператрыцы Кацярыны II**, якая пад маркай «вяртання гістарычных земляў» у 1772-м далучыла да Расіі 92 тысячы кв. км з Полацкам, Мсціславам і Віцебскам, дамінуе над усёй кампазіцыяй.

пазначыліся пазітыўныя зрухі ў палітычным жыцці.

Гэта не ўваходзіла ў планы суседніх дзяржаў, якія збіраліся ў перспектыве падзяліць Рэч Паспалітую. Расійскі пасол Мікалай Рапнін пад'юджваў кансерватыўную частку магнатаў супраць караля, на ўтварэнне Радамскай канфедэрацыі пад лозунгам вяртання ▶

Карціна Яна Матэйкі **«Рэйтан, або Заняпад Польшчы»** прысвечаная падзеям сойма 1773 года, які скончыўся першым падзелам Рэчы Паспалітай.



**Тадэвуш Рэйтан**, пасол ад Навагрудскага ваяводства, гарачы патрыёт Рэчы Паспалітай, лёг у дзвярах са словамі «Забіце мяне, не забівайце Айчыну».

**Князь Адам Панінскі** абурана глядзіць на Рэйтана. Панінскі быў платным агентам расійскага пасольства і маршалкам (спікерам) сойма 1773 года, які прывёў да першага падзелу Рэчы Паспалітай.

**Расійскія салдаты** напагатове стаяць за дзвярыма.

**Станіслаў Шчасны Патоцкі**, будучы лідар Таргавіцкай канфедэрацыі 1792 года, вынікам якой стала ўвядзенне ў Рэч Паспалітую статысячнага расійскага войска. У яго руках — падпісаныя дакументы, якія ўзаконьваюць падзел дзяржавы. На самай справе Патоцкі не прысутнічаў на Сойме 1773 года, яму тады быў толькі 21 год.

**Гетман Францішак Ксаверы Браніцкі**, прарасійскі палітык, праціўнік рэформаў і Канстытуцыі 1791 года. Падчас паўстання Касцюшкі яго завочна асудзілі да кары смерцю. Хавае твар у далонях, бо Матэйка не ведаў, як выглядаў Браніцкі.

**Перакуленае крэсла** сімвалізуе заняпад Рэчы Паспалітай. Як і агульны стан залы, у якой адбываецца сойм: выцвілыя шпалеры, засмечаная падлога, па якой у бок Панінскага коціцца манета — намёк на асабісты грашовы інтарэс прыхільнікаў падзелу дзяржавы.

▶ даўнейшых шляхецкіх вольнасцяў. Следам прайшоў і сойм, які атрымаў назву «рапнінскага». На мясцовых сойміках, шляхам узброенага ціску і подкупу, абіраліся прарасійскія дэлегаты. Сойм сабраўся ў 1767 годзе ў Варшаве, ізноў пад кантролем расійскіх войскаў.

У лютым 1768 года дэлегаты ўхвалілі «Кардынальныя правы», якія адмянялі пастановы рэфарматараў і пацвярджалі старажытныя прывілеі шляхты. Ізноў заканадаўча былі замацаваныя выбарнасць каралёў, захаванне «на вечныя часы» ліберум вета, выключнае права шляхты на заняцце свецкіх і духоўных пасад, непарушнасць яе феадальных уладанняў, удзел у кіраванні дзяржавай нароўні з каралём і сенатарамі. Усё гэта вяртала Рэч Паспалітую ў часы «Генрыкавых артыкулаў», у XVI стагоддзе.

У тыя самыя дні ў аточанай расійскімі войскамі Варшаве кароль Станіслаў Аўгуст падпісаў трактат пра «вечную дружбу» з Расіяй. Гэтая дамоваператварала Рэч Паспалітую ў расійскі пратэктарат.

Супраць замежнага ўмяшання паўстала Барская канфедэрацыя. Расійскія войскі яе аператыўна задушылі, і ў 1772 годзе адбыўся першы падзел Рэчы Паспалітай.

Апошняя спроба правесці кардынальныя рэформы ў краіне была зроблена падчас Чатырохгадовага сойма 1788–1791 гадоў. Сойм прыняў першую ў Еўропе канстытуцыю, якая дэкларавала ператварэнне Рэчы Паспалітай у канстытуцыйную манархію, скасоўвала ліберум вета і права шляхты на канфедэрацыю, выразна вызначала функцыі выканаўчай, заканадаўчай і судовай уладаў.

Але забяспечыць рэалізацыю прыгожага праекта ўжо было немагчыма. У абарону «шляхецкіх вольнасцяў» арганізавалася Таргавіцкая канфедэрацыя, інспіраваная Расіяй. Канфедэраты запрасілі ў Рэч Паспалітую статысячнае расійскае войска. Кароткая вайна скончылася капітуляцыяй караля і другім падзелам дзяржавы. ◆

АС

**Мы прывыклі думаць пра Станіслава Аўгуста Панятоўскага як пра слабака, а ён быў хітрым, толькі гэтага аказалася мала**

# Кароль і яго каманда

**Разваліў краіну, круціў інтрыжкі з Кацярынай II, думаў, што гэтым уратуецца. Але пры ім краіна нарэшце стала спрабаваць рэфармавацца. Толькі што было запозна, піша магістр гісторыі з Гродна Дзмітрый Станкевіч.**

Першы падзел Рэчы Паспалітай быў шокам. Падзялілі — і нават піскнуць не паспелі. Стала ясна, што сітуацыя з дзяржавай — крытычная.

У краіне хаос, а манархі суседніх дзяржаў маюць большы ўплыў, чым уласны кароль.

Найперш трэба было ўпарадкаваць дзяржаўнае кіраванне. Права вета, калі любы пасол сойма мог накласці забарону на любы закон, прывёў да катастрофы. За першую палову XVIII стагоддзя не было прынята аніводнага істотнага закона. Дзяржаўная казна пусцела. Дзяржава мусіла павялічваць падаткі, якія кладліся на плечы мяшчан і сялян.

### Спадзяванне на сябра

Шляхта меркавала, што кіруе краінай яна. Але кароль бачыў, што рэальная ўлада належыць некалькім магнацкім групоўкам: Чартарыйскім, Радзівілам, Браніцкім, Сапегам. Папярэднія каралі з саксонскай дынастыі (Аўгуст II Моцны і Аўгуст III) клапаціліся толькі, як выцягнуць больш рэсурсаў з гэтай чужой краіны, сядзелі ў Дрэздэне, а кіравалі тым часам магнаты.

Панятоўскі стаў думаць, што можа змяніць. Да партыі сваіх сваякоў — «Фаміліі» — ён ставіўся з недаверам: ёю кіравалі Чартарыйскія, якія мелі ўласныя палітычныя амбіцыі. Пачаўшы шукаць іншую апору, Станіслаў Аўгуст знайшоў яе ў асобе маладога падскарбія Антонія Тызенгаўза, не проста адукаванага чалавека, але і свайго найлепшага сябра. На аснове гэтага сяброўства і ўзнікла ў Вялікім Княстве пракаралеўская партыя. Дзякуючы Тызенгаўзу каралеўская адміністрацыя змагла рэалізаваць многія праекты, у тым ліку адукацыйныя.

Андрэй Вашкевіч у артыкуле «Апошні план паратунку Рэчы Паспалітай: чаму ўсё пайшло не так» («Наша гісторыя» №1 за 2018 год) раскрыў эканамічна-сацыяльны бок рэформаў Антонія Тызенгаўза. Гродзенскі староста адразу падпарадкаваў сабе мясцовую ўладу — павятовыя соймікі. Ён раздаваў пасады блізкім, а многія соймікі

**Чатырохгадовы сойм** распачаўся ў 1788 годзе і доўжыўся да 1792-га, пакуль не ўмяшалася Расійская імперыя.

папераносіў у свае рэзідэнцыі — Гродна і Паставы. Яму ўдалося атрымаць падтрымку 19 з 22 соймікаў, не скарыліся толькі Слонім, Ліда і Коўна. Дзякуючы Тызенгаўзу каралеўская партыя здолела кантраляваць усю тэрыторыю ВКЛ.

Супраць такіх метадаў склалася апазіцыя. Не раз каралю прысылалі на Тызенгаўза скаргі. Урэшце і сам Панятоўскі засумняваўся ў правільнасці курсу колішняга фаварыта. І не столькі з-за эканамічных правалаў, колькі з-за іміджавых страт. Аўтарытарныя метады маглі падарваць давер да каралеўскай улады, таму, прыкрываючыся правaламі ў эканамічнай палітыцы, кароль у 1780-м адлучыў былога сябра ад дзяржаўнага апарату.

Сучаснікі не заўсёды былі задаволеныя Антоніем Тызенгаўзам, але цяперашнія гарадзенцы дзякуюць яму за архітэктурную спадчыну, што ўпрыгожвае Гродна.

### Іншая лінія: Храптовіч

Іншым надзейным чалавекам, які ўвасабляў каралеўскую палітыку ў ВКЛ, быў Іаахім Храптовіч. Пасля 15 гадоў хатняй адукацыі ён яшчэ 7 адвучыўся ў Рэчы Паспалітай (Нясвіжскі калегіум, Віленская акадэмія) і за мяжой. У выніку стаў чалавекам энцыклапедычных ведаў.

Да 1780-х Храптовіч ужо паказаў сябе як дасведчаны палітык. У 1764 годзе, падтрымаўшы кандыдатуру Панятоўскага, ён атрымаў пасаду сакратара Вялікага Княства Літоўскага. Калі Барская канфедэрацыя выступіла супраць умяшання Расіі ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай, сам магнат трымаў нейтралітэт. Але як сакратар ён не дазваляў паслам адкрыта прасіць дапамогі ў еўрапейскіх краін. Улады імкнуліся не дапусціць іншыя дзяржавы да канфлікту: выступленне канфедэрацыі магло ператварыцца ў чужую вайну.



**Панятоўскі на чале войска.** XIX стагоддзе. Аўтар невядомы.



**Іаахім Храптовіч,** найбліжэйшы паплечнік караля. На яго сядзібе меўся надпіс «Мір і свабода». Мастак Іосіф Грасі. 1795 год.

Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай кароль прызначыў Храптовіча падканцлерам, а ў 1793-м — канцлерам. Натхнёны ідэямі Асветніцтва, той стварыў дзяржаўную сістэму асветы і першае ў Еўропе міністэрства адукацыі — Адукацыйную камісію. Таксама павялічыў колькасць школ розных узроўняў і надаў навучанню свецкі характар.

За агульнадзяржаўнымі справамі Храптовіч не забываўся пра малую радзіму і адначасова з палітычнай дзейнасцю займаўся мадэрнізацыяй свайго маёнтка ў Шчорсах на Наваградчыне, стварыўшы ўзор панскай капіталістычнай гаспадаркі па прынцыпе «добра працуе той, хто зацікаўлены ў выніку». Можна сказаць, што са сваіх маёнткаў ён зрабіў прыбытковае прадпрыемства: сыры, піва, хлеб — усё гэта ішло на экспарт. На будынку сядзібы Храптовічаў нават красаваўся надпіс «Мір і свабода». Гэта быў прынцып тых, хто імкнуўся зрабіць жыццё іншых лепшым.

### Паляўнічая дыпламатыя

Сярод дыпламатычных заслуг Храптовіча — поспех сойма 1784 года. Гэта быў першы сойм ▶

Панятоўскага, які праводзілі ў Вялікім Княстве Літоўскім, у Гродне (кожны трэці сойм Рэчы Паспалітай павінен быў праводзіцца менавіта тут). Кароль надаваў гэтаму сойму вялікае значэнне, а таму нават паездка на яго была нестандартная. Па дарозе Станіслаў Аўгуст наведаў магнацкія рэзідэнцыі Сапегаў у Ружанах, Агінскіх у Слоніме. Але найбольш важным пунктам быў радзівілаўскі Нясвіж, дзе кароль прабыў 6 дзён. Пісьменнік Юзаф Ігнацы Крашэўскі прысвяціў гэтай сустрэчы цэлую кнігу.

У Нясвіжы Караль Станіслаў Радзівіл Пане Каханку зладзіў для караля вялікі баль. Гісторык Адам Нарушэвіч, які вёў дзённік падарожжа Панятоўскага на сойм, адзначае, што караля найбольш уразіла Радзівілава багацце і спектакль «Узяцце Гібралтара» з сапраўдным войскам і сапраўднымі баявымі дзеяннямі. Сюжэт апавядае пра аперацыю англійска-галандскага флоту па захопе іспанскай крэпасці Гібралтар у 1704 годзе.

**Неабходнасць змен разумела толькі моладзь. Старая шляхта баялася за свае правы, але ўрэшце страціла іх разам з дзяржавай**

І для «літоўскага каралька» Радзівіла, і для караля Панятоўскага гэтая сустрэча была вельмі важнай. Пасля яе варожыя дагэтуль бакі збольшага памірыліся. Пане Каханку, праўда, так і не стаў прыхільнікам караля, але, спрыяючы апазіцыі, ён не падтрымліваў ідэю сілавога ўмяшання ў працу Вялікага сойма 1788–1792 гадоў.

А сойм 1784 года паказаў, што большасць дэлегатаў ставіцца да караля прыхільна. Магчыма, на гэта дадаткова паўплывала паляванне ў Белавежы, куды манарх запрасіў амаль усіх дэлегатаў. Каралеўскае паляванне ў той час — справа фешэнебельная, і арганізаваць такое мерапрыемства каштавала вялікіх грошай, мільёны злотых пайшлі з казны. Але затое потым ніводзін ягоны ўдзельнік не выказваўся кепска пра караля і яго палітыку, а некалькі чалавек перад выступленнем нават выказалі падзяку! Гэты сойм узмацніў статус караля і стаў пунктам адліку для наступных рэформ.

## Спроба пасябраваць з апазіцыяй

Для Станіслава Аўгуста было важна прыцягнуць не толькі прыхільнікаў, але і апазіцыю. Прыклад — Казімір Нестар Сапега. Маці Альжбета і дзядзька Францішак Ксаверый Браніцкі выхоўвалі ў ім непрыняцце каралеўскай палітыкі (і такое выхаванне можна назваць тыпова магнацкім). Найперш з яго гадавалі вайскоўца, а гэта 5 гадоў у Рыцарскай школе ў Варшаве, падобнай да сённяшняга Сувораўскага вучылішча. У першай палове 1770-х ён падарожнічаў па Парыжы і вывучаў вайсковую справу, філасофію і права.

Палітычная дзейнасць Казіміра Сапегі — паказальнік яго цвёрдай грамадзянскай пазіцыі, прывітай з дзяцінства. Ужо з 1784 года Сапега ўзначальваў апазіцыйны блок. Ён прытрымліваўся старых сармацкіх поглядаў, хадзіў на пасяджэнні ў традыцыйнай шляхецкай вопратцы — жупане, не прымаючы новыя тэндэнцыі еўрапейскай моды.

Ён адстойваў самастойнасць ВКЛ: напрыклад, на сойме 1778 года выступаў за захаванне асобнага войска. Яго амбіцыйнасць і ўменне трымацца на публіцы выклікалі давер. На Вялікім сойме 1788–1792 гадоў Сапега стаў маршалкам канфедэрацыі ВКЛ — прадстаўляў інтарэсы ўсяго Вялікага Княства. І вельмі актыўна: прасіў слова 760 разоў.



**Казімір Нестар Сапега** прытрымліваўся старых поглядаў, хадзіў на соймы ў жупане, не прымаючы новыя тэндэнцыі еўрапейскай моды.

Але кароль Рэчы Паспалітай працаваў і з такімі. У 1790-я Панятоўскі падорыць маладому палітыку Брэсцкае староства і атрымае падтрымку самага аўтарытэтнага прадстаўніка велікакняскай шляхты. У выніку актыўны прыхільнік самастойнасці ВКЛ таксама падтрымаў Канстытуцыю 3 мая 1791 года, якая аб'ядноўвала Карону і Княства.

## І ўсё адно не зберaглі

Паміж першым і другім падзеламі Рэч Паспалітая здолела стаць на шлях рэформ. Такія рэформы маглі аб'яднаць краіну і нейтралізаваць уплыў знешніх сіл. Але неабходнасць змен разумелі адзінкі — маладыя магнаты ды шляхта, выхаваныя ў духу асветніцкіх тэндэнцый. Старыя шляхціцы баяліся страціць свае палітычныя правы, але ўрэшце страцілі іх разам з дзяржавай. ◆




**Жонка кажа, што хопіць пісаць у фэйсбук, а лепш пачытай цікавы часопіс.**

Андрэй Дзмітранок

## «Давайце створым горны маршрут па мясцінах “Альпійскай балады”»

Прачытаў нумар часопіса пра Васіля Быкава. Адразу ўспомнілася, як некалькі год таму чытаў дачцэ «Альпійскую баладу» (яна праходзіла гэты твор у школе). Адрозненне ўспрымання гэтага тэксту дарослым чалавекам і тое, што я памятаў са школы, вельмі вялікае. Я б у рэальнасці ўбачыў тыя горы, прайшоў той шлях, перажыў з героямі ўсё. І вось якія ўзніклі пытанні, прапановы.

Ці ведае хто з даследчыкаў гісторыю напісання гэтай аповесці? Мяне цікавіць геаграфічная рэальнасць гэтых падзей. І нават калі Быкаў пісаў абстрактны раён Аўстрыі, то ў мяне прапанова для тых людзей, што арганізуюць экскурсіі: арганізуйце маршрут, блізкі да апісанага ў аповесці, які маглі б прайсці не альпіністы, а звычайныя людзі. Назавіце яго «Сцежкамі Быкава», вазіце туды экскурсіі. Так мы створым гістарычную легенду. Я абавязкова прайшоў бы па гэтым шляху.

Калі я падзяліўся гэтымі думкамі з братам, то ён прапанаваў яшчэ адзін цікавы маршрут — «Па слядах Янкі Маўра»: востраў Ява, Новая Гвінея (жарт).

Пасля прачытання дачка не магла зразумець, адкуль у Джуліі з’явіўся сын і чаму гэта сын Івана (бо малая).

З нецярпеннем буду чакаць новыя нумары «Нашай гісторыі».

**Стась Лойка, Мікелеўшчына, Мастоўскі р-н**

## Дакладнасць мусіць быць

У «Нашай гісторыі» № 5 у артыкуле «Справа Разанава» напісана: «Трэці беларускі» — пад такой назвай увайшоў у гісторыю той самы зорны курс філфака, а непасрэдна — аддзяленне беларускай і рускай мовы і літаратуры БДУ 1968–1969 гадоў... Па алфавітным збегу абставінаў у адной групе сабраліся, па сутнасці, усе паэты курса: Генадзь Пашкоў, Алесь Разанаў, Яўген Хвалей, Яўгенія Янішчыц, Віктар Ярац. Разанаў і Янішчыц у далейшым стануць лаўрэатамі Дзяржаўнай прэміі...» Але ж лаўрэатам «у далейшым» стаўся і Генадзь Пашкоў. Дадае гэта зорнасці ці не — асобнае пытанне, але ж дакладнасць мусіць быць.

**Аксана Спрынчан, Мінск**

## У школе нам пра гэта не расказвалі

На першых жа старонках студзеньскага часопіса «Наша гісторыя» ўразілася жыццёвым шляхам доктара Яўгена Клумава, імем якога названыя 3-я гарадская клінічная бальніца, сквер і вуліца ў Мінску. І адкрыццё: гэта Клумаў стаў правобразам доктара з рамана Івана Шамякіна «Сэрца на далоні». У школе пра гэта нам не расказвалі, на жаль.

**Марына Яўсейчык**

## Прэзідэнт Гаваяў з Магілёва

Добры дзень, рэдакцыя «Нашай гісторыі». Хачу прапанаваць болей пісаць пра нашых знакамітых землякоў. Заслугоўвае ўвагі асоба Мікалая Судзілоўскага — знакамітага беларускага лекара з Магілёва, доктара медыцыны, які ў 1901 годзе стаў кіраўніком Гаваяў!

**Валянціна Іванаўна, Стоўбцы**




**Прывітанне! З часопісам «Наша гісторыя» і іншымі кніжкамі час у дарозе ідзе хутчэй і цікавей. Вялікі дзякуй за такія цікавыя часопісы.**

Фота з паркінга, з Даніі.
Ваш, nesterd

## «Ім першае месцы на паліцы»

Люблю гісторыю. Люблю ад школьных часоў. Падсеў на часопіс «Наша гісторыя». Цікава, па-беларуску, ды і мова вельмі сучасная. Заходжу сёння ў шапік «Саюздруку». «У вас ёсць “Наша гісторыя”?» Цётачка так ажывілася: «Ёсць!» Пытаюся, ці бяруць. «Канешне! Першыя нумары — за дзень, і потым аж дасталі пытацца. Цяпер, дзякуй Богу, нам іх болей прывозяць. Зараз ім галоўнае месца на паліцы», — шматзначна прамовіла цётачка. Поспехаў! Усім раю!

**Зміцер Назараў, Брэст**

* * *

— Аддай мне, аддай! — крычыць Станька і выдзірае з маіх рук толькі што куплены нумар «Нашай гісторыі». — Тут ёсць новая «Пластыляндыя»!

— О, вось гэтыя коміксы і пачытаеш мне сёння ўголас! — ужо я радуюся.

Да дому тэпаць яшчэ метраў 200. Увесь гэты час сын не выпускае часопіс з рук. Амаль перад самым пад'ездам Станька такі грымнуўся на лёдзе, бо ўсю дарогу разглядаў «Гісторыю». Няслаба пабіў каленку і локаць. Часопіс зрэшты загарнуў і стаў глядзець на дарогу.

Ідэя «Пластыляндыі» шыкоўная, слімакі — першабытныя людзі — супер! Гагаталі з сынам ад душы.

**Вольга Жарнасек**

# Адказы на звароты

**С.У., Калінкавічы.** Вялікі дзякуй Вам за дасланыя тэксты. З цікавасцю з імі азнаёміліся. Што да магчымасці іх друку ў часопісе, то артыкулы пра канстытуцыю і мову для нас зусім нефарматныя — гэта, хутчэй, газетны матэрыял. Што датычыць тэкстаў пра паходжанне назваў вёсак, то яны нас зацікавілі і пры магчымасці мы пастараемся іх выкарыстаць.

**М.І., Лоеў.** Дзякуй за цікавасць да часопіса! Мы прымаем да друку краязнаўчыя матэрыялы, але яны мусяць быць інакш пабудаваныя. Прынцып пабудовы артыкула «такая і такая з'ява ў межах такой і такой адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі» ў нашым выпадку зусім не працуе. Бо гэта, вядома, можа зацікавіць жыхароў Вашага раёна, але мы хочам, каб нашыя матэрыялы былі цікавыя больш шырокаму колу чытачоў — па ўсёй Беларусі. А такое магчыма тады, калі ў цэнтры артыкула, напрыклад, цікавыя лёсы асобных людзей, звязаных з рэгіёнам. Не проста поўная біяграфія асобы, збудаваная паводле прынцыпу энцыклапедыі, а канцэнтрацыя на ключавых і найбольш яскравых момантах з жыцця. Каб герой не быў «зашпілены на ўсе гузікі», а паўставаў як жывы, з вартасцямі і недахопамі. Прытым не абавязкова гэта мусіць быць нейкі значны чалавек, герой-ардэнаносец і да т. п. Можна распавесці і пра лёс чалавека па сутнасці простага, але з незвычайным лёсам. Натуральна, артыкул можа быць не толькі пра персаналіі. Галоўнае — каб у тэксце была дынаміка.

**В.К., Маладзечна.** Дзякуй вялікі за Ваш допіс і дасланы матэрыял. Мы абавязкова яго скарыстаем для аднаго з наступных нумароў, толькі крыху перапрацаваўшы пад наш фармат, бо ў цяперашнім выглядзе ён не цалкам пасуе. ◆




**Архіварыус. Зборнік навуковых паведамленняў і артыкулаў. Выпуск 16.** — Мінск: НГАБ, 2018. — 358 с.

Пабачыў свет новы, 16-ы выпуск зборніка «Архіварыус», які штогод выдаецца Нацыянальным гістарычным архівам Беларусі. Нечаканыя знаходкі, адкрыцці, новыя імёны, вынікі генеалагічных даследаванняў, праверка археалагічных дадзеных архіўнымі крыніцамі — пра ўсё гэта можна даведацца са спецыялізаванага архівазнаўчага выдання.
І ў новым выпуску шмат цікавых арыгінальных матэрыялаў. Глеб Берастаўы і Яўген Глінскі разблытваюць складаныя радаводы баярскіх і зямянскіх родаў Наваградскага ваяводства. Мікола Волкаў разбіраецца з гісторыяй забудовы Верхняга замка ў Слуцку. Алег Еўстрацьеў дзеліцца апісаннямі багатых архіваў Курляндскага герцагства ў архівах Варшавы. Дзяніс Лісейчыкаў падае невядомыя апісанні цэркваў Гарадзенскага павета 1690-х. Дзмітрый Матвейчык публікуе лісты і фотаздымкі з сібірскай ссылкі ўдзельнікаў паўстання 1863–1864 гадоў. Вадзім Урублеўскі апісвае нормы сэксуальнага жыцця сялянства Мінскай губерні ў другой палове XIX стагоддзя.
Сярод аўтараў нумара — Зінаіда Антановіч, Маргарыта Кароль, Юрый Лаўрык, Аляксандр Лукашэвіч, Андрэй Мацук, Аляксандр Радзюк, Сяргей Рындзін, Наталля Сліж, Кірыл Сыцько, Галіна Флікоп-Світа, Фёдар Чарняўскі.

Гэты і іншыя выпускі зборніка можна набыць у мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, 72), а таксама ў **Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі** (г. Мінск, вул. Крапоткіна, 55, каб. 24).

**Караленак, Уладзімір. Нясвіж. Палацава-паркавы ансамбль. Сады і паркі.** Кніга-альбом на беларускай, рускай і англійскай мовах. — Мінск: А.А. Аляксееў, 2018. — 274 с.




Памятаеце артыкул пра амерыканскага гангстара ў Нясвіжы (№4, 2018)? Яго аўтар, нясвіжскі гісторык Уладзімір Караленак, выдаў кнігу. Зусім не пра гангстараў, а пра сады і паркі.
Кожны чуў, што Нясвіж знакаміты архітэктурнымі помнікамі, звязанымі з родам Радзівілаў: замкам, касцёлам Божага Цела з пахавальняй, ратушай. У кнізе аўтар звярнуў увагу на яшчэ адзін шэдэўр радзівілаўскай архітэктуры — паркі. Парк — гэта таксама архітэктура, няхай і дынамічная, жывая, не такая пастаянная, як мураваныя палацы. Гісторыя радзівілаўскіх паркаў налічвае больш за трыста гадоў. За гэты час адбылася эвалюцыя ад італьянскіх садоў праз французскія рэгулярныя паркі да англійскіх пейзажных паркаў. На жаль, убачыць італьянскія і французскія паркі часоў Рэчы Паспалітай сёння магчыма, толькі пільна ўглядаючыся ў пажоўклыя старонкі рукапісных інвентароў і планы іх стваральнікаў. Што тычыцца англійскіх паркаў XIX–XX стагоддзяў, то яны таксама згубілі значную колькасць аранжарэй, скульптур і кветнікаў, якія, аднак, былі захаваныя на шматлікіх фотаздымках, што дазволіла паказаць іх у кнізе.
Асаблівая ўвага нададзена стваральнікам паркаў. Пра многіх радзівілаўскіх работнікаў ужо напісаныя артыкулы з падрабязнымі біяграфіямі. Даволі добра вывучана тэма радзівілаўскіх балетмайстраў, капельмайстраў, архівістаў. А вось садоўнікі адсунутыя ў цень гісторыі. Хоць сюды прыязджалі славутыя майстры, якія на беларускіх землях, на жаль, знаходзілі адно галечу і смерць. Вельмі часта садоўнікі гадамі не атрымлівалі заробку. А плён іх працы — выдатныя паркі — на іх вачах знішчаліся войскамі і бандамі. Аўтар аддаў даніну памяці людзям, якія стаялі ля вытокаў садова-паркавага мастацтва Беларусі.
Гэтая кніга дазваляе значна лепш зразумець развіццё садова-паркавага мастацтва. Важнае дапаўненне — уступны артыкул доктара мастацтвазнаўства Вольгі Бажэнавай, якая паказала еўрапейскі кантэкст радзівілаўскіх паркаў. Вытанчанасць кнізе надаюць фотаздымкі Аляксандра Аляксеева і Алега Лукашэвіча, якія падрыхтавалі ўжо трэці альбом у серыі выданняў музея-запаведніка «Нясвіж».

Кніга прадаецца ў мінскай кнігарні «**Акадэмкніга**», а таксама ў краме **Нясвіжскага музея-запаведніка**.

# Як дзяліць спадчыну Русі?

## *І ці трэба?*


SHUTTERSTOCK, BY MAKALEX69

**У жыцці большасці людзей адзін з самых складаных момантаў настае, калі прыходзіць час дзяліць бацькоўскую спадчыну. Часам падзел вясковай хаты ці гарадской трохпакаёўкі канчаецца тым, што браты і сёстры абрываюць між сабой усе адносіны на доўгія гады. Нешта падобнае адбываецца і тады, калі народам даводзіцца дзяліць гістарычную спадчыну. Пра спадчыну Старажытнай Русі разважае кандыдат гістарычных навук Вячаслаў Насевіч.**

### Старажытнаруская дзяржава

Варта зразу адзначыць, што ў тагачаснай мове не існавала слова «дзяржава» ў тым сэнсе, як мы ўжываем яго цяпер. Калі трэба было пазначыць тэрыторыю, падпарадкаваную агульнай палітычнай уладзе і знітаваную адзіным заканадаўствам, ужывалі паняцце «зямля». Таму калі людзі гаварылі ці пісалі «Руская зямля», то мелі на ўвазе менавіта дзяржаву.

Факт яе існавання ў той час сумненняў не выклікаў. Нават калі ў кожнай частцы гэтай дзяржавы з'явілася свая ўлада і стала магчымым казаць пра асобныя Наўгародскую ці Полацкую землі, яны ўсё адно заставаліся часткамі Рускай зямлі. І для іншых краін, што суседзілі і ваявалі з гэтымі землямі, яны былі Руссю.

Мноства прыкладаў таму можна знайсці ў летапісах і замежных хроніках, у зборы заканадаўства, які паўсюдна называўся «Руская праўда», у літаратурных творах. Самы яскравы ўрывак дайшоў да нас з той пары, калі гэтая дзяржава ляжала ўжо ў папялішчах, разбураная татарскім нашэсцем. Называўся гэты твор — «Слова пра пагібель Рускай зямлі». Не Чарнігаўскай і не Кіеўскай, а менавіта Рускай: «ад вугор і да ляхаў, да чэхаў, ад чэхаў да ятвязі і ад ятвязі да літвы, да немцаў, ад немцаў да карэлы, ад карэлы да Усцюга, дзе там ёсць тоймічы паганыя, і за Дышачым морам; ад мора да балгар, ад балгар да буртасаў, ад буртасаў да чарамісаў, ад чарамісаў да мардвы».

І нават калі той дзяржавы не стала, нашчадкі яе яшчэ некалькі стагоддзяў называлі сябе рускімі,

а суседзі звалі іх русінамі, рутэнамі ці ўрусамі. Так зваліся насельнікі Закарпацця ў складзе Венгерскага каралеўства, Галічыны ў складзе Польшчы, так называлі палонных з нашых земляў на нявольніцкіх рынках Крымскага ханства.

### У Ардзе і Літве

Асноўная ж тэрыторыя Рускай зямлі ў XIV стагоддзі аказалася падзеленай паміж дзвюма новымі дзяржавамі, якія коратка называліся Ардой і Літвой. Былі ў іх і больш доўгія афіцыйныя назвы. Арду яе заснавальнікі называлі «Улус Джучы», пазней «Улуг Улус» («Вялікая дзяржава»). Татарскія ханы захавалі ў якасці сваіх васалаў мясцовую дынастыю Рурыкавічаў і нават марыянеткавую пасаду вялікага князя ўладзімірскага. Гэта дало магчымасць рускім ставіцца да Арды як да чагосьці знешняга: маўляў, ёсць Арда, а ёсць побач з ёй Русь. Але ў палітычным сэнсе ўваходжанне Русі ў склад Арды сумненняў не выклікае.

**У палітычным сэнсе ўваходжанне Русі ў склад Арды сумненняў не выклікае**

Літва ж афіцыйна называлася спачатку Вялікім Княствам Літоўскім і Рускім, а з XV стагоддзя — «Вялікім Княствам Літоўскім, Рускім, Жамойцкім і іншых». Цяпер гісторыкі скарочана пішуць ВКЛ. Становішча рускіх княстваў у яе складзе было не такім, як у Ардзе. Імі кіравалі літоўскія князі, родзічы вялікага князя. І іх улада не абапіралася толькі на ваенную сілу.

Такая сітуацыя адпавядала і інтарэсам рускага насельніцтва. Альтэрнатывай было б падпарадкаванне Ардзе з яе больш жорсткім падатковым гнётам і пастаяннай пагрозай карных нашэсцяў. Літоўскія ж князі, лічачы нованабытыя землі сваімі вотчынамі, кіравалі імі больш ашчадна. Іх нашчадкі праз адно-два пакаленні русіфікаваліся і часам нават адстойвалі мясцовыя інтарэсы насуперак агульнадзяржаўным.

Іншымі словамі, стан Русі ў складзе ВКЛ ствараў падставы для паступовай інтэграцыі з карэннымі літоўскімі землямі. А стан Русі ў складзе Арды, наадварот, пакідаў надзею на аднаўленне палітычнай незалежнасці. Гэтая надзея была рэалізавана на працягу стагоддзя — ад Кулікоўскай бітвы 1380 года да канчатковага спынення выплаты даніны ў 1480-м. З часу пазбаўлення ад ардынскай залежнасці можна казаць пра існаванне новай дзяржавы — Вялікага Княства Маскоўскага.

У гэты перыяд змест паняцця «зямля» змяніўся. Яго сталі ўжываць для вызначэння рэгіёнаў, правінцый, таму і згадваліся «рускія землі» ў множным ліку. Саму дзяржаву ў ВКЛ вызначалі словам «гаспадарства», у Маскве — «государство», у Польшчы — «паньство».

### Барацьба за спадчыну: сілавая і ідэйная

Тут і настаў час для падзелу гістарычнай спадчыны Русі паміж гэтымі трыма дзяржавамі. Акалічнасці барацьбы за рускую спадчыну сучаснаму чытачу зразумець складана. Узяць хаця б выпадкі, калі рускае (маскоўскае) войска было пабіта рускім (з ВКЛ) князем (кшталту Канстанціна Астрожскага) ці рускім ваяводам (кіраўніком Рускага ваяводства ў складзе Польшчы, з цэнтрам у Львове), якога, у сваю чаргу, білі рускія (украінскія) казакі.

Ваеннае супрацьстаянне ў выніку скончылася на карысць Маскоўскай дзяржавы, якая на той момант ператварылася ўжо ў Расійскую імперыю. Да 1795 года амаль уся тэрыторыя колішняй Рускай зямлі апынулася пад яе уладай. Але барацьба за спадчыну Русі на гэтым не скончылася — яна працягвалася ў форме ідэйнай спрэчкі.

**Не адчуваючы сябе, у адрозненне ад украінцаў, здольнымі змагацца з Расіяй за спадчыну Русі, нашы нацыянальныя дзеячы проста адмовіліся ад яе**

На той час у Расійскай імперыі ўжо існавала моцная навуковая супольнасць. Прадстаўнікі яе распрацавалі канцэпцыю, паводле якой імперыя была натуральным працягам Вялікага Княства Маскоўскага, а тое, у сваю чаргу, — адзіным спадкаемцам Рускай зямлі, якую пачалі называць Старажытнарускай дзяржавай. Прызнавалася існаванне адзінага рускага народа, а ўсе мясцовыя асаблівасці лічыліся другаснымі і падлягалі асіміляцыі.

Насуперак расійскай імперскай ідэалогіі паўстала ідэалогія польскага нацыяналізму, прыхільнікі якой імкнуліся да аднаўлення дзяржаўнасці Рэчы Паспалітай. Рускае (як, дарэчы, і літоўскае) насельніцтва гэтай адноўленай дзяржавы таксама павінна было страціць свае этнічныя адметнасці, засвоіўшы пры гэтым польскую мову і ўліўшыся ў склад польскай нацыі.

У сярэдзіне XIX стагоддзя, калі ідэі нацыяналізму і нацыянальнай дзяржаўнасці апанавалі грамадскую думку па ўсёй Еўропе, адукаваныя выхадцы з Украіны і Беларусі пачалі прымяраць іх да сваёй сітуацыі. Для іх аднолькава непрымальнымі ▶

выглядалі як расійскі, так і польскі нацыянальныя праекты. Больш прывабнай падалася адбудова ўласных нацый.

### Беларускі праект

У асяроддзі тых інтэлектуалаў, якія абралі для сябе беларускую ідэнтычнасць, паступова склалася пэўная гістарычная канцэпцыя. Беларусы прызнаваліся прамымі нашчадкамі полацкіх крывічоў, тэрыторыя рассялення якіх ва ўяўленнях XIX стагоддзя памылкова распаўсюджвалася на ўсю этнічную тэрыторыю беларусаў. Пачатак жа беларускай дзяржаўнасці звязваўся з Полацкім княствам, якое ўзнікла незалежна ад Русі і было толькі часова заваявана князем Уладзімірам. У далейшым полацкім князям, «Рагваложым унукам», нібыта ўдалося цалкам аднавіць незалежнасць.

Вакол гэтай канцэпцыі надалей і гуртаваўся беларускі нацыяналізм. Не адчуваючы сябе, у адрозненне ад украінцаў, здольнымі змагацца з Расіяй за спадчыну Русі, нашы нацыянальныя дзеячы проста адмовіліся ад яе і засяродзіліся на барацьбе з літоўцамі за спадчыну Вялікага Княства. Пэўныя вынікі такая стратэгія прынесла. Але фактычная адмова ад рускай спадчыны мела і шкодныя наступствы.

**Сёння наспеў час беларусам прыняць і засвоіць спадчыну Русі такой, як яна ёсць — сумеснай для беларусаў, украінцаў і рускіх, але ў той жа час і своеасаблівай для кожнага народа**

Удакладненне тэрыторыі рассялення крывічоў паказала, што з этнічнай тэрыторыяй беларусаў яна супадала толькі часткова. Гэтаксама і тэрыторыя Полацкага княства ніколі не ахоплівала такія беларускія рэгіёны, як Палессе, Берасцейшчына, ваколіцы Гомеля і Мсціслава. Наадварот, была відавочнай іх прыналежнасць да Рускай зямлі.

Казытлівым стала і пытанне, чаму незалежнае Полацкае княства, не з'яўляючыся часткай Рускай дзяржавы, тым не менш успрымалася як Русь. На такія нязручныя факты прыходзілася проста закрываць вочы. Што, у сваю чаргу, непазбежна адштурхоўвала ад нацыянальнай ідэі людзей, для якіх акурат рускі чыннік меў важнае значэнне.

Сёння наспеў час беларусам прыняць і засвоіць спадчыну Русі такой, як яна ёсць — сумеснай, але ў той жа час і своеасаблівай для кожнага народа-спадкаемцы. Варта паспрабаваць здзейсніць нарэшце такі памяркоўны і ўзважаны падзел гэтай спадчыны, які б пайшоў на карысць, а не на шкоду. ◆





УНП 192461994



# БЕЛОРУССКАЯ КУХНЯ
## ГАСТРОНОМИЧЕСКИЙ ПУТЕВОДИТЕЛЬ




**Займальна і смачна — пра багатую гістарычную спадчыну беларускай кухні: стравы і напоі, іх рэцэпты і гістарычныя прыгоды.**

**Наноў адкрыць магію беларускай кухні, адправіцца ў вялікае кулінарнае падарожжа ў часе ад мінулага да сучаснасці і паказаць, што наша гастраномія багатая, шматгранная і не абмяжоўваецца дранікамі і мачанкай. Такая мэта гэтага выдання, якое мае не толькі адукацыйнае, але і прыкладное значэнне. Ідэя ўвасобілася ў жыццё дзякуючы саюзу папулярнага пісьменніка і гісторыка беларускай кухні Алеся Белага з выдавецтвам «РэнесансПаблішынг».**

**Нацыянальныя скарбы — боршч, верашчака, зразы... А яшчэ — мотальскія каўбасы і палескія журавіны, высакародная старка і вострая зуброўка, «аптэчкі прыемныя» і бунтарская кава — тут сабраны самыя смачныя і знакавыя арыенціры. А для большага гастранамічнага задавальнення выдаўцы прывялі рэкамендацыі па спалучэнні страў з трэндавымі сёння напоямі, якія змогуць ярка адцяніць смак і каларыт беларускіх спецыялітэтаў.**

# АД ГІСТОРЫІ ДА ПАПУЛЯРНАГА!

ТАА «РЭНЕСАНСПАБЛІШЫНГ» МІНСК, ВУЛ. ЦІМІРАЗЕВА, 65А, ОФ. 529 +375 (17) 369-57-42 BESTBELARUS.BY




БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

# Дарагі Леанід Ільіч *і яго несмяротныя творы*

**Гэты здымак зроблены падчас дэманстрацыі да 62-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі 7 лістапада 1979 года ў Светлагорску. Кадр сімвалізуе ўвесь абсурд брэжнеўскага застою. Піша Аляксандр Пашкевіч.**

У пачатку 1976 года Леанід Брэжнеў, які ўжо стаяў на чале КПСС больш за 11 гадоў, быў пераабраны на пасаду генеральнага сакратара.

Паводле яго лекара, акадэміка Яўгена Чазава, з 1973 года ў Брэжнева з'явіліся праблемы з цэнтральнай нервовай сістэмай, бяссонне. Але на пенсію Брэжнеў ісці не хацеў. Спрабуючы даць рады, ён пастаянна піў таблеткі і ўрэшце стаў залежны ад іх. Гэта спрыяла дэградацыі асобы, зніжала крытычнае ўспрыманне сябе. Савецкі лідар усё больш адрываўся ад рэчаіснасці.

## Вядомыя беларусы — пра творы Брэжнева

**1-ы сакратар ЦК КПБ Пятро Машэраў:**

«Кніга "Малая зямля" аднолькава каштоўная і дарагая для людзей і старэйшага пакалення, і моладзі... Нашым юнакам і дзяўчатам яна дае магчымасць сэрцам далучыцца да неўміручага подзвігу, зверыць свае справы, учынкі і імкненні па шкале маральна-ідэйных каштоўнасцей сацыялізму самай высокай, самай чыстай пробы...»

**Народны пісьменнік БССР Кандрат Крапіва:**

«Успаміны напісаны без стылістычных упрыгожанняў, без установкі на эфект, проста і мудра. Пішучы іх, Леанід Ільіч, як заўсёды, думаў пра народ, клапаціўся аб тым, каб яго слова дайшло да розуму і сэрца савецкага чалавека. Так яно і адбылося...
Твор "Цаліна" пачынаецца словамі народнай мудрасці: "Будзе хлеб — будзе і песня". На працягу ўсяго жыцця Леанід Ільіч аддае ўсе сілы на тое, каб у народа былі хлеб і песня. Але жыццярадасная песня, як вядома, можа гучаць толькі пад ясным мірным небам, ва ўмовах мірнай працы. Вось за гэта — за дабрабыт і шчасце народа, за мір ва ўсім свеце і дружбу народаў — нястомна і змагаецца Леанід Ільіч».

Ягонае атачэнне было не заўсёды маладзейшым і не надта здаравейшым за «правадыра». І таксама не хацела ягонага сыходу. Бо змена старога і нямоглага лідара непазбежна прывяла б да грунтоўных перастановак і на ніжэйшых прыступках. Не ўсе захавалі б нагрэтыя месцы. Куды прасцей было пакінуць на найвышэйшай пасадзе здзяцінелага старога, а з-за яго спіны кіраваць самім. Фармальнага лідара,

Тыповы прыклад савецкай двухаблічнасці — два выказванні народнага пісьменніка БССР Івана Шамякіна. Адно прагучала ў публічным выступленні, другое запісана ў дзённіку:

**Выступленне на рэспубліканскім сходзе ідэалагічнага актыву, скліканым для абмеркавання кніг Брэжнева, 3 мая 1978 года:**
«Малая зямля» — гэта твор, які пераканаўча паказвае, як можна і як трэба пісаць аб вайне сёння. Успаміны Леаніда Ільіча напісаны на адным подыху, яны глыбока эмацыянальныя, хвалююць высокай публіцыстыкай, пафасам самаадданасці і гераізму ўсяго савецкага народа, выключнай мужнасці абаронцаў Малой зямлі...
Кніга «Малая зямля» — незвычайныя мемуары. Гэта — дакумент велізарнага палітычнага значэння. Савецкія людзі і нашы сябры за рубяжом знаходзяць у ім думкі і выказванні, якія з'яўляюцца асноватворнымі для канкрэтнай работы. Нікога не пакінуць раўнадушным выдатныя словы Леаніда Ільіча з заключнай часткі расказу: «Быць вайны не павінна ніколі».

**Дзённік, запіс за 10 сакавіка 1981 года:**
Рыхтуецца навуковая канферэнцыя на тэму: «Значэнне гістарычнага вопыту КПСС, роздуму і парад, што выкладзены ў кнізе Л. І. Брэжнева "Успаміны", для патрыятычнага і інтэрнацыянальнага выхавання працоўных». Во размах! АТК (Аляксандр Трыфанавіч Кузьмін, сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі. — *Рэд.*) прыслаў мне пісьмо Леаніду Ільічу, каб я паправіў. Але ж даўно выпрацаваўся стэрэатып, ад якога не дазволена адыходзіць. Я паправіў стыль, не больш. Ён учора на актыве гаворыць: «Зрабі ты гэта, каб было па-чалавечы».
Зрабіў па-чалавечы — не падобна на ўсе іншыя пісьмы, асабліва па форме. Але адчуваю: не пройдзе, пабаяцца.
А ў першым варыянце было, напрыклад, такое: «Сердца всех жителей республики преисполнены чувством глубокой благодарности за Ваши теплые, проникновенные слова о "неброской, но за сердце берущей красоте белорусских пейзажей"».
Не разумею, чаго тут больш: «верноподданнического» глупства альбо здзеку са старога чалавека, які расчуліўся ад успамінаў пра ўласную маладосць, калі ўсё «брало за сердце»?

каб ён паслухмяна іграў сваю ролю, залагоджвалі ліслівасцю і падарункамі.

У апошнія гады жыцця Брэжневу ўвесь час уручалі дзяржаўныя ўзнагароды. Адных толькі зорак Героя Савецкага Саюза ён меў чатыры штукі (больш не меў ніхто, а столькі сама — толькі знакаміты маршал Жукаў). Не кажучы пра іншыя медалі, ордэны і проста ганаровыя значкі. У дзяржаўных установах і на вуліцах развешвалі партрэты Брэжнева, выстаўлялі стэнды і транспаранты з цытатамі з ягоных прамоў і твораў. Вялікія і малыя начальнікі, журналісты, навукоўцы — усе стараліся ўставіць у выступленні і творы цытаты з «дарагога Леаніда Ільіча».

## Новая зорка на літаратурным небасхіле

Але нават у падхалімстве патрэбна разнастайнасць. Камусьці з паплечнікаў Брэжнева прыйшла ідэя зрабіць Леаніда Ільіча яшчэ і культавым пісьменнікам. Тым больш сам ён не пярэчыў, сказаўшы аднойчы Яўгену Чазаву: «Таварышы пераканалі мяне апублікаваць успаміны пра перажытае, аб працы, вайне, партыі. Гэта патрэбна народу, патрэбна нашай моладзі, якая выхоўваецца на прыкладзе бацькоў».

Напісаць за генсака ўспаміны было даручана групе найлепшых маскоўскіх журналістаў, поўны склад якой невядомы дагэтуль. Вядома, што асноўнымі аўтарамі былі супрацоўнікі газет «Известия», «Правда» і «Комсомольская правда» Анатоль Аграноўскі, Аляксандр Мурзін і Аркадзь Сахнін.

Вынікаў працы доўга чакаць не давялося. У 1978 годзе адна за адной выйшлі тры часткі брэжнеўскіх «мемуараў». Першая, «Малая зямля», была прысвечана ўдзелу Брэжнева ў вайне на поўдні СССР, пад Новарасійскам. У другой, «Адраджэнне», гаворка ішла пра пасляваеннае аднаўленне гаспадаркі на поўдні Украіны, калі Брэжнеў кіраваў Запарожскім абкамам партыі. Нарэшце, у трэцяй, «Цаліне», была апісана распачатая ўжо пры Мікіту Хрушчове кампанія асваення цалінных стэпаў у Казахстане. Брэжнеў быў тады 1-м сакратаром ЦК мясцовай кампартыі.

Усе тры часткі «ўспамінаў» былі невялікія — па 100–150 старонак. Перад тым, як выйсці кнігамі, яны публікаваліся ў літаратурных ▶



**Брэжнеў выступае на XVIII з'ездзе камсамола.** Красавік 1978 года.

часопісах і ў газетах. З мастацкага боку гэта была даволі якасная публіцыстыка.

На раскрутку і папулярызацыю быў кінуты магутны прапагандысцкі апарат савецкай краіны. Кнігі выдаваліся вялікімі накладамі, іх уключылі ў школьную праграму. Па ўсёй краіне ішлі ідэалагічныя канферэнцыі, кіраваныя начальнікамі ўсіх узроўняў, дзе абмяркоўвалі глыбіню твораў і іх карыснасць для ўсіх без выключэння грамадзян. Ну і, вядома, кнігі адразу ж перакладаліся. Беларускамоўныя пераклады з'яўляліся амаль адначасова з арыгіналамі.

У красавіку 1979-га за гэтую трылогію Брэжневу была прысуджана найпрэстыжнейшая ў СССР Ленінская прэмія.

### Ад трагедыі да камедыі

Культ Брэжнева знешне нагадваў колішні культ Сталіна, але па сутнасці значна адрозніваўся. Бо культ Сталіна ўспрымаўся і падтрымліваўся большасцю. Апорамі яго былі два элементы: вера ў тое, што пад кіраўніцтвам Сталіна савецкі народ выконвае вялікую гістарычную місію, — і страх, не заўсёды ўсвядомлены. Але ў часы культу Брэжнева ўсё гэта страціла ранейшае значэнне.

Да 70-х ідэя будаўніцтва камунізму стала ў СССР чыста рытуальным элементам. Пра гэта шмат гаварылі і пісалі, але веру ў тое, што камунізм маячыць недзе на гарызонце, захоўвалі хіба толькі самыя наіўныя ідэалісты.

Зусім не такі быў і градус страху. Пасля смерці Сталіна савецкая дзяржава адышла — і, як аказалася, назаўсёды — ад практыкі шырокамаштабных рэпрэсій. Савецкі Саюз заставаўся таталітарнай дзяржавай, якая імкнулася трымаць пад кантролем усе галіны жыцця. І адкрытыя




GALYAMIN SERGEJ, SHUTTERSTOCK.COM

**Людзі калектыўна і з жывой зацікаўленасцю нібыта чытаюць адну з кніг Брэжнева.** Такія пастановачныя прапагандысцкія фота былі ў той час вельмі распаўсюджаныя, але ў рэальным жыцці падобны сюжэт быў неверагодны. Тым больш што тут «чытаюцца» нават не «ўспаміны» Брэжнева, якія прынамсі напісаныя былі дастаткова жыва і цікава, а зборнік ягоных занудных прамоў, падрыхтаваных да розных афіцыёзных мерапрыемстваў. Сапраўдным аўтарам гэтых прамоў таксама быў не сам Леанід Ільіч — іх ад першага да апошняга слова пісалі ягоныя рэферэнты.



Бачачы на экранах такога Леаніда Ільіча і слухаючы ягоную неразборлівую гаворку без адрыву ад паперкі, **савецкі народ не надта верыў, што кнігі, якія ўзносяцца да нябёс прапагандай і ўшаноўваюцца прэстыжнымі дзяржаўнымі прэміямі, напісаныя сапраўды ім.** І не памыляўся.

ворагі сістэмы жорстка падаўляліся. Але абурацца на кухні можна было без наступстваў. Калі нехта надта распускаў язык, яго маглі выклікаць на размову, але не саджалі і тым больш не расстрэльвалі. Галоўнае — каб чалавек трымаўся правіл гульні і выконваў усе рытуалы. Гэта рабіла савецкага чалавека вельмі крывадушным — ён мог думаць адно, гаварыць другое, а рабіць трэцяе.

Значэнне мела і тое, што Сталіна пераважная большасць ніколі не бачыла. Тэлебачання не было, а газеты і кінахроніка стваралі ідэалізаваны вобраз. Брэжнева ж савецкія людзі рэгулярна бачылі на тэлеэкранах. У пачатку таго самага 1978-га, калі пачалася кар’ера Брэжнева-пісьменніка, крамлёўскі функцыянер Анатоль Чарняеў пазначыў у дзённіку: «Леанід Ільіч, па-мойму, у поўным маразме. За месяц з лішкам яго паказалі ў натуры адзін раз... Выгляд — поўнага распаду».

Праз некалькі месяцаў: «Брэжнева на ўрачыстасцях з нагоды 60-годдзя камсамола ўжо адкрыта называюць “вялікім правадыром партыі і народа”. А ён сядзіць — на экране тэлевізара — жаласна і тупа ўсміхаецца, не вельмі, відаць, разумеючы, што да чаго. Пляскае ў далоні, калі яго ўзносяць і славасловяць, аглядаючыся пры гэтым на сваіх калег у прэзідыуме. Маўляў, калі яны пляскаюць — так і трэба. Усім відавочна, што ён не цяміць, што гаворыць па паперцы».

Такога Брэжнева бачыў і народ.

«Не толькі шафёры таксі, але і цэкоўскія шафёры смяюцца з усяго гэтага... Адчуванне такое, нібыта жывеш у атмасферы густога старэчага маразму... і поўнай пагарды да думкі народнай».

Відаць, і светлагорскія мужыкі з загалоўнай фоткі пасля заканчэння ўрачыстасцей запасліся моцнымі напоямі і пайшлі адзначыць да кагосьці на кухню. А ўзяўшы па чарцы, весялілі сябе і сяброў свежымі анекдотамі і пра маразматыка Брэжнева, і ягоныя несмяротныя творы, выявы якіх гадзіну таму горда неслі каля трыбуны.

Да смерці Брэжнева заставалася тры гады, да пачатку гарбачоўскай перабудовы — пяць з паловай, да распаду СССР — дванаццаць... ◆

## Анекдоты пра творы Брэжнева

У сувязі з юбілеем Пушкіна быў абвешчаны конкурс на праект помніка. Трэцюю прэмію атрымаў помнік Пушкіну, які чытае кнігу Брэжнева. Другую — Брэжневу, які чытае Пушкіна. Першую — помнік Брэжневу, які чытае кнігу Брэжнева.

Сядзіць у кабінеце Брэжнеў і трымае ў руках значок «Лаўрэат Ленінскай прэміі». Уваходзіць Суслаў.
— Слухай, Міхаіл Андрэевіч, ты «Малую зямлю» чытаў?
— Чытаў, Леанід Ільіч! Цудоўны твор! Ён вельмі патрэбен нашаму грамадству.
— Ты мяне не падманваеш?
— Хіба я вас калі-небудзь падманваў?
— Не памятаю. Тады пакліч Чарненку.
Уваходзіць Чарненка.
— Канстанцін Усцінавіч! Ты маю «Малую зямлю» чытаў?
— Чытаў! Выдатны твор! Я трэці раз перачытваю.
Леанід Ільіч, гуляючы значком лаўрэата, задуменна гаворыць:
— Усім падабаецца мой твор. Можа, і мне прачытаць?..

Эпіграф да мемуарнай кнігі Брэжнева: «Что-то с памятью моей стало: всё, что было не со мной, помню».

У кнігарні: «У вас ёсць “Малая зямля”, “Цаліна” і “Адраджэнне”?» — «Фантастыка — у суседняй зале».

1978 год, прыём у партыю. «На Малой зямлі ваявалі?» — «Не, на Курскай дузе адседжваўся».

Кнігу Брэжнева «Адраджэнне» друкуюць у газеце італьянскіх камуністаў «Уніта». У перакладзе на італьянскую мову кніга называецца «Рэнесанс», а імя аўтара — Леанарда.

Папулярны народны вершык пра Брэжнева: «Он и маршал, и Герой, и писатель молодой».



Сіманаў і сын Аляксей. 1944 год.

# Не плакаў па жонцы, плакаў па Сталіну: КАНСТАНЦІН СІМАНАЎ

**Пра тонкі талент і душэўную глухату знакамітага пісьменніка расказвае гісторык Аляксей Бацюкоў.**

Канстанціну Сіманаву 25 гадоў. Ён батальённы камісар, ваенны карэспандэнт, і ім паступова авалодвае адчай. Некалькі дзён таму ён бездапаможна хаваўся ад бамбёжак, кіламетры за кіламетрамі адступаў па беларускіх дарогах у натоўпе, які цяжка было лічыць войскам. Назіраў, як няўклюдныя савецкія бамбардзіроўшчыкі загараюцца і падаюць ад кулямётных маланак імклівых «месершмітаў» — загараюцца і падаюць, падаюць...

Яму нават прыйшлося страляць у свайго. Чырвонаармеец ашалеў і, вырачыўшы вочы, кідаўся на афіцэраў з крыкам «Бяжыце! Акружылі немцы! Прапалі!». Сіманаў і астатнія будуць паліць па салдаце са сваіх наганаў, нарэшце, лепш трэніраваны афіцэр прыкончыць панікёра трыма трапнымі стрэламі.

Сіманавым авалодвае адчай тым больш, чым больш ён удзельнічае ў гэтай горкай катастрофе 1941 года. У мемуарах ён прастадушна запіша, што ўсе першыя тыдні вайны шукаў тое месца, дзе Чырвоная армія — як пра гэта пішуць у газетах — стаіць на сваіх рубяжах непахісна і б'е немца.

### «Дыверсанты?»

І нарэшце такое месца знайшоў. У бясконцых паездках па Магілёўшчыне ён разам з выпадковым спадарожнікам, фотакарам Паўлам Трошкіным, атрымае скупую вестку: зусім блізка, пад Магілёвам, толькі што добра так далі немцам па зубах. Не асабліва разлічваючы на ўдачу — колькі ўжо было гэтых пыхлівых і самазаспакаяльных гісторый, далёкіх ад рэчаіснасці, — яны проці ночы выпраўляюцца на паўднёвы захад ад Магілёва, трымаючыся на правым, высокім беразе Дняпра.

Гэта будзе поле бою, на якім Сіманаву не давялося змагацца. Калі яны з Трошкіным позні вечарам 12 ліпеня прыехалі да зямлянкі камандзіра 388-га стралковага палка, што вёў абарону на Буйнічах, усё ўжо было скончана. Камандзір, палкоўнік Сямён Куцепаў, спачатку паклаў карэспандэнтаў тварам у зямлю: «Якія яшчэ карэспандэнты мне тут? Дыверсанты? Будзеце так да раніцы на зямлі ляжаць!» Гэты прыём моцна адрозніваўся ад усяго, што дагэтуль Сіманаў бачыў на фронце. Пасля праверкі дакументаў Куцепаў палагаднеў і, разам з карэспандэнтамі чакаючы світанку, сказаў некалькі рэчаў, якія перавярнулі ўспрыманне Сіманавым вайны.

Па-першае, вайна — гэта ніякая не мешаніна з панікі, дыверсантаў, хаосу і бездапаможнасці. Вайна — гэта парадак і дысцыпліна, і калі яно так — то не будзе ні панікі, ні дыверсантаў, ні іншага. Па-другое, калі пяхота акапалася і вырашыла стаяць, то ніякія танкі яе выкалупаць не змогуць. «А мы іх б'ём! І будзем біць!» Незалежна ад таго, што робіцца справа і злева ад нас.

Сіманаў потым узгадваў у сваіх мемуарах, што Буйніцкае поле дало яму галоўнае, што патрабавалася ў першыя дні вайны, — пункт апоры.

## Бой на Буйніцкім полі

12 ліпеня 1941 года — адзін з самых яркіх эпізодаў абароны Магілёва. У гэты дзень лінію абароны горада з паўднёвага захаду атакавалі падраздзяленні 3-й танкавай дывізіі Гудэрыяна. Паводле савецкіх крыніц, на працягу 14-гадзіннага бою былі падбітыя і знішчаныя 39 адзінак танкаў і бранятэхнікі вермахта. Частку падбітай тэхнікі немцы пакінулі на полі бою, што дазволіла фотакарэспандэнту Паўлу Трошкіну ўпершыню з пачатку вайны зафіксаваць на камеру знішчаную тэхніку праціўніка.
Паводле паведамленняў 6-га палка 3-й танкавай дывізіі Гудэрыяна, на ўчастку ў раёне Буйніч дзейнічалі 5-я, 7-я і 8-я танкавыя роты, з якіх найбольшага поспеху дасягнула 8-я, замацаваўшыся паміж чыгункай на Гомель і Бабруйскай шашой, у той час як 5-я рота страціла ўсе баявыя машыны 2-га і 4-га ўзводаў. Пасля такога адпору камандаванне танкавай дывізіі прыняло рашэнне пакінуць поле бою пад Магілёвам, перадаць свой участак 1-й кавалерыйскай дывізіі, а танкавыя падраздзяленні павесці ў кірунку на Стары Быхаў.

Толькі намацаўшы яго, ён змог вярнуцца да сваёй журналісцкай місіі. Настане раніца, і Сіманаў з Трошкіным папросяцца да краю лініі фронту, каб пабачыць нарэшце гэтыя самыя падбітыя танкі. Цяпер ім ёсць пра што пісаць. Сіманаву трэба распытаць байцоў, але ён кідае гэтую справу: нямецкая тэхніка магнетызуе карэспандэнтаў. Яны падыходзяць зусім блізка, фатаграфуюць, пакуль Трошкін не нарываецца на абстрэл з нямецкага самалёта.

### Мы не ўмеем манеўраваць

Справа зроблена, і цяпер назад, у Маскву. Неўзабаве на старонках газеты «Красная звезда» выйдзе артыкул «Гарачы дзень», які зробіць несмяротным подзвіг салдат на Буйніцкім полі. Але рэфлексіі Сіманава па тэме вайны і ўсяго ўбачанага ў гэтыя першыя дні толькі пачнуцца.

Спрабуючы самастойна прааналізаваць падзеі вакол сябе і самога сябе, ён потым падыме такое пытанне. Нямецкія генералы ў пасляваенных мемуарах нярэдка з пагардай ставіліся да тактычных рашэнняў савецкіх камандзіраў — ператварыць падраздзяленне ці ўчастак фронту ў пэўную цытадэль сярод усеагульнага адступлення. Маўляў, яны насамрэч ператвараліся ў лёгкую здабычу. Усяго толькі трэба было цяпер — абысці іх з бакоў і, акружыўшы, знішчыць у катле. Менавіта так адбудзецца і з абаронай Магілёва. «Дык ці трэба было вось так стаяць і біцца насмерць?» — задаецца пытаннем Сіманаў у мемуарах. І сам жа адказвае, што, на яго *адчуванне*, трэба было.

Але чаму? Чаму трэба было геранчна паміраць, замест таго, каб геранчна выжываць і перамагаць? Тут трэба ўлічваць наступныя акалічнасці. Калі калектыўны нямецкі генерал разважаў у межах дыхатаміі «стаяць насмерць» ці «манеўраваць», то відавочна, што першы варыянт выглядаў дурасцю. Але савецкі калектыўны военачальнік гэтага часу разважаў у межах іншай дыхатаміі — «стаяць насмерць» альбо «панічна і дэзарганізавана адступаць». У межах гэтай дыхатаміі Сіманаў выбірае першы варыянт. Мы не ўмеем манеўраваць — як бы дае зразумець ён, — то нам цяпер трэба проста ўсім стаць.

**«Дык ці трэба было вось так стаяць і біцца насмерць?» — задаецца пытаннем Сіманаў у мемуарах**

Але чаму мы не ўмеем манеўраваць? Гэтая другая рэфлексія працінае ўсю свядомасць Сіманава, калі ён зноўку і зноўку думае аб вайне. І як праз туман, праз дробязі акалічнасцяў, праз куродым прыватных назіранняў і асабістых ацэнак, перад ім вырастае глабальная фігура, якая фарміруе гарызонт разумення ўсяго таго жыцця, якім жыў Сіманаў і людзі яго пакалення, — Сталін.



Пасля бою на Буйніцкім полі.

ФОТА П. ТРОШКІНА

### Зачараваны сучаснасцю

Сіманаву 25 гадоў, зусім хутка стане 26. Зараз ён пакіне перадавую, вернецца ў Маскву, і ўжо напрыканцы ліпеня 1941-га на лецішчы пісьменніка Льва Касіля ў Перадзелкіне напіша верш «Жди меня»: «Жди меня, и я вернусь. Только очень жди...». Той Сіманаў, якога мы цяпер ведаем, таленавіты пісьменнік, паэт і драматург, ▶

кан'юнктурны публіцыст і рупар лініі партыі ў цэнтральнай прэсе, чыноўнік у літаратуры — ён пачнецца адгэтуль. Кім ён быў раней? «Дваранскі отпрыск» — як пісаў пра сябе сам, сын афіцэра царскай арміі, што загадкава знік на самым пачатку Грамадзянскай вайны недзе ў Польшчы. Пасынак савецкага ваенспеца і просты хлопец з заводскіх ускраін Саратава. Студэнт-фэзэушнік і токар.

## Юная душа была зачараваная каласальнай сучаснасцю

Яго ранняя маладосць прыйшлася на самыя змрочныя часы краіны, часы рэпрэсій другой паловы 1930-х гадоў, якія суб'ектыўна ім перажываліся зусім іначай, як часы неверагоднага ўздыму — рамантычнае юнацтва, першыя пяцігодкі, індустрыялізацыя.

У сваіх успамінах Сіманаў не хавае дваістасці гэтага адчування. Ён бачыў, ведаў, разумеў тое выродлівае, што адбывалася ў грамадстве. Айчыма на некалькі месяцаў арыштавалі і прымушалі прызнаць віну (не прызнаў, вытрымаў), цёткі па маці былі выселеныя з Ленінграда з-за дваранскага паходжання, і дзве з іх памерлі ў Арэнбургскай вобласці. Нешта не тое адбывалася, адчуваў ён, калі савецкая дэлегацыя браталася з немцамі ў 1939-м, ды і вайна з Фінляндыяй не пакідала празрыстага адчування справядлівасці. Але гэта ўсё трывожыла ледзь-ледзь. Юная душа была зачараваная сваёй каласальнай сучаснасцю. Пазней ён і сам будзе ствараць такую самую каласальную сучаснасць, пяром, а пакуль што падобнага граху ён не адчувае і з чыстым сумленнем кідаецца ў вір падзей сваёй эпохі.

Як прадстаўнік рабочай моладзі, што праявіў інтарэс да літаратуры, ён быў тым самым матэрыялам, з якога савецкая ўлада ляпіла новы прадукт — творчую інтэлігенцыю, якая павінна была ствараць новае культурнае поле. У 1934 годзе 19-гадовы Сіманаў, учорашні токар, адпраўляецца ў творчую камандзіроўку на Беламорканал. І бачыць там перавыхаванне. Ва ўспамінах «Вачыма чалавека майго пакалення» ён потым са скрухай будзе прызнавацца: сапраўды ўспрымаў гэта як агромністую школу перавыхавання. І перажываў, што так мала яе пабачыў, не дабраўся да самай сутнасці. Чакаў, на якую яшчэ падобную грандыёзную будоўлю яму ўдасца патрапіць неўзабаве. Можа, пачнуць новы канал?

**Беламорска-Балтыйскі канал** працягласцю 227 км злучае Белае мора з Анежскім возерам. Будаваўся ў 1931–1933 гадах сіламі зняволеных ГУЛАГу. Колькасць людзей, што загінулі на яго будаўніцтве, дагэтуль невядомая. «З канцом працоўнага дня на трасе застаюцца трупы. Снег засыпае твары. Хтосьці скруціўся пад перавернутай тачкай, схаваў рукі ў рукавы — так і замёрз. Замерзлі двое, прыціснуўшыся адзін да аднаго спінамі. Гэта сельскія хлопцы, найлепшыя работнікі, якіх толькі можна ўявіць», — расказваў пісьменніку Аляксандру Салжаніцыну вязень Дзмітрый Віткоўскі.
Каб увекавечыць слаўнае будаўніцтва, улады прыдумалі выпускаць танныя цыгарэты «Беламорканал».

Літаратурны інстытут патрабаваў менавіта такіх студэнтаў, ад станка. Сіманаў вучыцца, публікуецца, спакваля становіцца модным маладым паэтам. Дадаткова атрымлівае спецыялізацыю ваенкара і неўзабаве праходзіць баявое журналісцкае хрышчэнне на Халхін-Голе.




### Яго жанчыны

У гэты самы час ён жэніцца першы раз, з пісьменніцай Наталляй Гінзбург, якой у 1938 годзе прысвеціць паэму. У 1939 жэніцца другі раз, з рэдактаркай Яўгеніяй Ласкінай родам з Оршы. Ад другога шлюбу ў яго народзіцца адзіны сын, Аляксей. І Сіманаў закахаецца зноўку.

У другой палове 1930-х краіна жыла навінамі з іспанскай вайны. Савецкія ваенспецы, што ваявалі на баку Народнага фронту Іспаніі, на радзіме станавіліся героямі масавай свядомасці і масавай культуры. Такім героем быў лётчык-ас Анатоль Сяроў. Актрыса, харкаўчанка Валянціна Палавікова ўжо праз восем дзён знаёмства з героем пагадзілася выйсці за

яго замуж. Маладая сям'я была шчаслівай менш за год — Сяроў гіне падчас выпрабавальнага палёту. Аднадчасова ўзыходзіць зорка ягонай жонкі — Валянціна Сярова грае галоўную ролю ў камедыйным фільме «Дзяўчына з характарам». Удава Героя Савецкага Саюза і героя іспанскай вайны, зорка кіно становіцца прадметам захаплення маладога моднага паэта.

Сіманаў зноў разводзіцца. Не прапускае ніводнага спектакля ў Тэатры працоўнай моладзі, дзе выступае Сярова, на кожным ён сядзіць у першым шэрагу з агромністым букетам у руках. Сярова становіцца прататыпам галоўнай гераіні, а яе нябожчык-муж — прататыпам галоўнага героя ў папулярнай п'есе Сіманава «Хлопец з нашага горада».

У гэтай п'есе малады і ўпарты хлопец абірае сабе ў нявесты суседку-прыгажуню, патрабуе, каб чакала яго два гады, едзе вучыцца на танкіста і становіцца героем грамадзянскай вайны ў Іспаніі. А ў гэты самы час суседская прыгажуня робіцца знакамітай актрысай.

Сярова не змагла граць галоўную ролю ў гэтай п'есе, пастаўленай яе тэатрам напярэдадні вайны, — не адпускала памяць пра мужа.

Лёгкі, імпульсіўны, модны, папулярны — такім Сіманаў увахоздзіць у новы, ваенны этап свайго жыцця. Маладая гарэзлівасць сочыцца і з яго франтавых лістоў бацькам, апублікаваных зусім нядаўна.

«Давялося бачыць: авіябамбёжку, падчас якой былі немцамі разбомбленыя шарсцяныя кальсоны і кашуля вашага сына і ў дзіравым выглядзе закінутыя на тэлеграфныя правады. Сын ваш застаўся цэлым з прычыны сваёй прыроджанай ахайнасці, паколькі ў гэты час ён мыўся ў лазні, а разбамбіла прылазнік...

Сын ваш меў гонар пазнаёміцца з марскімі разведчыкамі, якія пасля ваганняў з прычыны таго, што ён пісьменнік і можа нагадзіць, усё ж узялі яго з сабой у выведку ў глыбокі тыл немцаў, дзе ён, не хаваючы глыбокага задавальнення, асабіста падпальваў нямецкія склады з правіянтам і боепрыпасамі...»

Валянціна Сярова пагодзіцца стаць жонкай Сіманава ў 1943 годзе. Яны пражывуць разам пятнаццаць гадоў, і гэта будзе не бясхмарны час. У канцы вайны Валянціну Сярову звяжуць рамантычныя адносіны з военачальнікам Канстанцінам Ракасоўскім. Энкавэдысты паведамілі Сталіну пра сувязь і спыталі, што цяпер рабіць — хацелі атрымаць санкцыю на арышт, у іх да Ракасоўскага былі свае рахункі. Але Сталін адказаў: «Што рабіць будзем? Зайздросціць будзем». Яшчэ пазней, ужо далёка пасля вайны, Сіманаў не раз заспеў яе са спеваком Маркам Бернэсам.


LIVELIB.RU

Першая жонка **Наталля Сакалова (Гінзбург).**


JEWAGE.ORG

Другая жонка **Яўгенія Ласкіна і сын Аляксей.**


KINO-TEATR.RU

Трэцяя жонка **Валянціна Сярова.**

**Баі на рацэ Халхін-Гол** на тэрыторыі Манголіі вяліся паміж Чырвонай арміяй і японцамі з вясны па восень 1939 года. Прычынай іх была спрэчка, звязаная з дэлімітацыяй межаў марыянеткавых дзяржаў: Мангольскай Народнай Рэспублікі (сатэліт СССР) і Манчжоў-го (сатэліт Японіі). Заключная бітва адбылася ў канцы жніўня, і яна скончылася разгромам японскіх войскаў.

## Сына Сяровай ад першага мужа Сіманаў не прыняў і прымусіў адправіць у інтэрнат, за Урал. Там хлопец сап'ецца і памрэ ў 36 гадоў

### Не па-людску

Не па-людску абышліся зорныя сужэнцы з дзецьмі. Сына Сяровай ад першага мужа Сіманаў не прыняў і прымусіў адправіць яго ў інтэрнат, за Урал. Там Анатоль (названы ў гонар бацькі) сап'ецца, стане крымінальнікам і памрэ ў 36 гадоў.



З чацвёртай жонкай Ларысай.

Іх агульную дачку Марыю возьме сабе на выхаванне маці Валянціны, знакамітая актрыса Маскоўскага тэатра драмы Клаўдзія Палавікова. Клаўдзія Палавікова даб'ецца, каб Валянціна Сярова не бачылася з дачкой, «пакуль не перавыхаваецца». У 1957 годзе Сярову кіне і Сіманаў.

Гэтыя пятнаццаць год падзення іх шлюбу прынята лічыць часам імклівага падзення самой Сяровай. Шумныя і вясёлыя кампаніі ў гасцінным доме Сіманава і Сяровай перапыняліся на час частых і доўгіх камандзіровак паэта. І тады Сярова піла адна. І не адна.

## Рука партыі

Сіманаву дваццаць пяць гадоў. Зараз ён напіша свой самы знакаміты верш, а следам за ім яшчэ, і яшчэ — цэлую кнігу франтавой лірыкі, прысвечаную Валянціне Сяровай. Гэта чыстая і шчырая паэзія, сапраўдная літаратура. Так ён пісаў у тыя часы, калі заставаўся шчырым сам з сабой, калі яго яшчэ не тачыла пачуццё віны. Сярова ў гэты час у Сярэдняй Азіі, у эвакуацыі, у Фергане. Іх адносіны жывуць у ліставаннях, у гарачых і інтымных прызнаннях, у гэтых вершах. Вершы з кнігі «З табой і без цябе» стануць глытком такой неабходнай, асабістай пяшчоты для мільёнаў салдат па ўсіх франтах, для мільёнаў іх жанок і каханых дзяўчат, што чакалі ў тыле.

Першапачаткова верш «Жди меня» савецкая прэса не наважвалася публікаваць. Лічылася, што такая яркая індывідуальная лірыка будзе перашкаджаць савецкаму чытачу з дастатковай доляй сур'ёзнасці ўспрымаць цяжкасці часу. А высветлілася, што менавіта такая лірыка і патрэбная ўсёй краіне падчас вайны. Потым, калі Сіманаў у складзе пісьменніцкай дэлегацыі будзе наведваць ЗША, амерыканскія журналісты натоўпамі будуць хадзіць паглядзець на яго — на паэта, які сваім адным вершам удыхнуў прагу да жыцця і перамогі ў душу савецкага салдата.

Адразу пасля вайны Сіманава набліжаюць да найвышэйшага кіраўніцтва краіны. Пакуль што як аднаго з найлепшых паэтаў і драматургаў, паступова — як выдатнага — у сэнсе прыдатнага — функцыянера ў літаратуры.

Ён выконвае свае функцыі бліскуча. Ездзіць па ЗША і Канадзе, па Еўропе, каб з усёй пераканаўчасцю заявіць, што рускія вайны не хочуць.

Сталін ставіць задачу — трэба змагацца з пакланеннем перад Захадам. Неабходна літаратурнымі сродкамі высмеяць і раскрытыкаваць гэтае ганебнае інтэлігенцкае нізкапаклонства. Выкараніць яго. І Сіманаў піша п'есу. Яе галоўны герой — самазакаханы вучоны-бактэрыёлаг, які цешыў сваю ганарыстасць публікацыямі ў заходніх навуковых часопісах і нават не заўважыў, што адна з публікацый дала заходнім вучоным магчымасць стварыць новую бактэрыялагічную зброю. Ганьба такому вучонаму — вырашае Сіманаў і фіналізуе п'есу жорсткім выракам бактэрыёлагу. Але Сталін супраць. У тэлефоннай размове ён



**Сіманаў у Магілёве.** 1970-я гады.



Попел яго развеяны на Буйніцкім полі пад Магілёвам

тлумачыць Сіманаву, як павінна закончыцца п'еса: найвышэйшае кіраўніцтва краіны навукоўцу даравала. Мудрае і гуманнае кіраўніцтва.

Югаслаўскі лідар Іосіп Броз Ціта стаў дрэнна сябе паводзіць — заўважае Сталін падчас аднаго з пасяджэнняў, прысвечаных уручэнню Сталінскіх прэмій. І Сіманаў піша востры памфлет супраць Югаславіі ў «Літаратурную газету», галоўным рэдактарам якой нядаўна стаў. Памфлет, за які яму будзе сорамна потым усё жыццё. І не толькі за яго. Сорамна будзе за словы, за маўчанне, за тэксты, за падпісаныя яго рукой у друк нумары газеты.

Сіманаў бачыць: штогадовыя літаратурныя прэміі — як дырыжыраванне аркестрам. Сталін чытае амаль усё, што друкуецца ў краіне, і адорвае, адорвае многіх і многіх, прыгаворваючы, што трэба больш такой літаратуры — пра побыт працоўных, пра савецкую вёску, пра жыццё нацыянальных ускраін, і іншае, і іншае.

Сталін, як дырыжор, кіруе гэтым аркестрам і ўсімі іншымі — і ўся краіна грае яго музыку, штосекунды азіраючыся на кіраўніка, — ці правільна ўгадаў ты ноту. «Ты іграй, іграй, — усміхаецца Сталін, — а я паслухаю», — кажуць яго вочы.

## Жахлівы і вялікі

Кім быў Сталін для Сіманава? У дзень смерці правадыра народаў наш «дваранскі отпрыск» будзе рыдаць. У дні развітання па некалькі разоў будзе ціснуцца ў ганаровую варту. Праз некалькі месяцаў пасля смерці, калі астатнія паступова пачнуць здымаць партрэты Сталіна са сцен у кабінетах, Сіманаў пабачыць цудоўную фатаграфію — здымак аднаго з помнікаў Сталіну. І павесіць яго ў сваім кабінеце, падкрэсліваючы такім чынам: калі ў вас вісеў, дык у мяне не вісеў, а калі вы ўсе здымаеце партрэты, я, бачыце, наадварот, вешаю.

Сталін быў для яго космасам. Так, гэта тая фігура, якая як цень ляжала пад нагамі ўсяго грамадства. Ірацыянальны страх і тэрор 30-х гадоў, развал арміі перад вайной, паказуха і хлусня ва ўсіх сферах — гэта ўсё ён, Сталін. «Жахлівы і вялікі» — такім эпітэтам некалькі разоў прапячатвае яго Сіманаў. Жахлівы — і вялікі. Для яго ён сапраўды быў вялікім. Чалавекам, які акрэсліў небакрай яго жыцця.

Пяцьдзясят трэці год, сакавік. Калісьці токар-фэзэушнік, цяпер знакаміты паэт і пісьменнік, Сіманаў плача. Багемны, багаты, элітны партфункцыянер, ён зачыняецца ў кабінеце, каб напісаць на смерць Сталіна верш, але рукі не слухаюцца яго і ўсё цела скаланае плач. Пазней, калі адыдзе ў лепшае жыццё Валянціна Сярова, яго самая знакамітая і яркая муза, ён не будзе праліваць слёзы, і нават не прыедзе на пахаванне, толькі адправіць 58 ружаў — па колькасці пражытых ёю, паводле пашпарта, гадоў.

Калі будзе паміраць ён сам, то распарадзіцца, каб яго прах вярнуўся туды, у яго 25 гадоў — на Буйніцкае поле, у яго шчырыя і чыстыя 25 гадоў.

## Пасля яго

У апошнія гады жыцця Сіманаў больш не быў аблашчаны, як пры Сталіне. Пры Хрушчове яго кляймілі як сталініста, але нічога не маглі зрабіць з яго аўтарытэтам. Па смерці паэта прадстаўнікі партыі і чуць нічога не хацелі пра захаванне праху на нейкім Буйніцкім полі. У некралогу выразна значылася, што Сіманаў будзе пахаваны на Новадзявочых могілках у Маскве. Ёсць звесткі, што ўдава Сіманава, яго чацвёртая жонка Ларыса Жадава, выкрала прах і разам з дочкамі Сіманава ад розных жанчын, роднымі і нероднымі, разам з сынам Аляксеем — будучым кінарэжысёрам і дзеячам дэмакратычнага руху— паехала выконваць апошнюю волю паэта. ◆

**Аркадзь Смоліч**, народны сакратар асветы

**Пятро Крачэўскі**, народны сакратар кантролю

**Канстанцін Езавітаў**, асобы ўпаўнаважаны на вайсковых справах

**Антон Аўсянік**, сябар Камісіі па міжнародных справах Рады БНР

**Леанард Заяц**, кіраўнік спраў урада

**Алесь Бурбіс**, консул БНР у Маскве

**Іван Серада**, народны сакратар народнай гаспадаркі, старшыня Рады БНР

**Язэп Варонка**, старшыня ўрада і народны сакратар замежных спраў

**Васіль Захарка**, скарбнік Народнага сакратарыята БНР

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

# Хто ўваходзіў у першы беларускі кабмін

Яшчэ з пачатку 1990-х узнікла традыцыя падпісваць гэты здымак так: «Народны сакратарыят БНР на чале з Язэпам Варонкам». Такі подпіс, аднак, не зусім дакладны, бо, хоць большасць выяўленых на ім сапраўды былі сябрамі першага беларускага ўрада, Алесь Бурбіс, Антон Аўсянік і Васіль Захарка ў ягоны склад у якасці народных сакратароў не ўваходзілі. Невядомая і дакладная дата, калі быў зроблены здымак, вядомы толькі год — 1918-ы, у прамежку з мая па жнівень.
Месца фатаграфавання — Менск.

## Калектыўны партрэт склаў кандыдат гістарычных навук Андрэй Буча.

Першыя міністры Беларускай Народнай Рэспублікі былі зусім маладымі. Тамашу Грыбу было ўсяго 22 гады, а найстарэйшым, Івану Сераду і Пятру Крачэўскаму, — па 38. Сярэдні ўзрост урада складаў усяго 30 гадоў (паводле звестак пра 11 чалавек).

Большасць міністраў-беларусаў былі ў нацыянальным руху людзьмі новымі. Пазнаёміліся з ім у часы Першай сусветнай, а ўключыліся ў працу толькі пасля Лютаўскай рэвалюцыі. Найбольшы стаж меў Аркадзь Смоліч, ён далучыўся да Беларускай сацыялістычнай грамады яшчэ ў 1910-м. Гэтаксама і Леанард Заяц — яшчэ да вайны ён стаў сябрам Беларускага навукова-літаратурнага гуртка студэнтаў Пецярбургскага ўніверсітэта.



ОБЪЯВЛЕНІЕ

НАРОДНАГО СЕКРЕТАРІАТА БѢЛОРУССІИ.

№ 2.

Народный Секретаріатъ Бѣлоруссіи образованъ въ слѣдующемъ составѣ:

1. Народный Секретарь внутреннихъ дѣлъ—И. Н. Мокрѣевъ.
2. " " внѣшнихъ дѣлъ—І. Я. Воронко.
3. " " народнаго просвѣщенія—А. И. Смоличъ.
4. " " юстиціи—Е. Е. Бѣлевичъ.
5. " " народнаго хозяйства—И. Н. Середа.
6. " " финансовъ—Г. М. Бѣлкиндъ.
7. " " призрѣнія—П. А. Бадунова.
8. " " великорусскихъ дѣлъ—П. В. Злобинъ.
9. " " почтъ и телеграфовъ—А. К. Карачъ.
10. " " контроля—П. А. Кречевскій.
11. Управляющій дѣлами—Л. І. Заяцъ.
12. Особоуполномоченнымъ по военнымъ дѣламъ К. Б. Езовитовъ.

О замѣщеніи остальныхъ постовъ, какъ-то: народнаго секретаріата земледѣлія, торговли и промышленности, труда и общественныхъ работъ, народнаго здравія, путей сообщенія, продовольствія и національныхъ: бѣлорусскаго, польскаго и еврейскаго, будетъ объявлено особо.

Вр. Предсѣдатель Народнаго Секретаріата Бѣлоруссіи и Народный Секретарь внѣшнихъ дѣлъ Іосифъ Воронко.

Управляющій Дѣлами Л. Заяцъ.

Гор. Минскъ—Бѣлорусскій.
21 (8) февраля 1918 года.

НАЦЫЯНАЛЬНЫ АРХІЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Абвестка №2 Народнага сакратарыята Беларусі аб сваім персанальным складзе.** Менск, 8 (21) лютага 1918 года.

## Кароткая гісторыя першага беларускага ўрада

Ён назваўся Народным сакратарыятам і быў утвораны 20 лютага 1918 года. Немцы занялі Менск і 25 лютага выгналі кабмін з сядзібы ў Губернатарскім доме, скінуўшы з будынка бел-чырвона-белы сцяг. Праз тры дні дазволілі ўзнавіць дзейнасць, праўда, толькі як беларускага прадстаўніцтва.

Спярша ў сакратарыяце было 12, потым 15 чалавек — далучыліся прадстаўнікі земстваў, гарадоў і нацыянальных меншасцей. Урад быў інтэрнацыянальным: адзінаццаць беларусаў, два яўрэі, украінец і рускі. Палякаў ва ўрадзе не было.

**Першы Народны сакратарыят БНР у максімальным складзе**

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Язэп Варонка | старшыня, народны сакратар замежных спраў |
| 2 | Майсей Гутман | першы намеснік старшыні |
| 3 | Канстанцін Езавітаў | асобы ўпаўнаважаны па вайсковых справах, другі намеснік старшыні |
| 4 | Іван Макрэеў | народны сакратар унутраных спраў |
| 5 | Аркадзь Смоліч | народны сакратар асветы |
| 6 | Яўхім Бялевіч | народны сакратар юстыцыі |
| 7 | Іван Серада | народны сакратар народнай гаспадаркі |
| 8 | Гелій Белкінд | народны сакратар фінансаў |
| 9 | Палута Бадунова | народны сакратар сацыяльнай апекі |
| 10 | Павел Злобін | народны сакратар велікарускіх спраў |
| 11 | Аляксандр Карач | народны сакратар поштаў і тэлеграфа |
| 12 | Пятро Крачэўскі | народны сакратар кантролю |
| 13 | Віктар Рэдзька | народны сакратар шляхоў зносін |
| 14 | Тамаш Грыб | народны сакратар земляробства |
| 15 | Леанард Заяц | кіраўнік спраў |

Пасля абвяшчэння незалежнасці БНР урад пакінулі пяцёра нязгодных: эсэры Іван Макрэеў (украінец), Павел Злобін (рускі), Гелій Белкінд (яўрэй), Віктар Рэдзька (беларус) і сіяніст-сацыяліст Майсей Гутман (яўрэй). Засталося дзесяць міністраў, прычым усе беларусы. Праз месяц, пасля тэлеграмы германскаму кайзеру, выйшлі беларускія эсэры Яўхім Бялевіч і Тамаш Грыб, Аляксандр Карач і Палута Бадунова. Народных сакратароў засталося шасцёра. 9 ліпеня на змену старому ўраду прыйшоў больш правы кабінет на чале з буйным землеўласнікам Раманам Скірмунтам.

Калектыўны партрэт урада Язэпа Варонкі ў яго найбольш поўным, 15-асабовым складзе, зрабіць складана. На сёння нам амаль нічога невядома пра такіх народных сакратароў, як Аляксандр Карач, Віктар Рэдзька, Іван Макрэеў і Гелій Белкінд. Пра Рэдзьку мы ведаем толькі тое, што ён быў інжынерам-чыгуначнікам, пра Белкінда і Макрэева — што яны былі членамі партыі расійскіх эсэраў. Карач таксама быў эсэрам, але беларускім. Пра Майсея Гутмана і Паўла Злобіна вядома больш, але іх асаблівае становішча ва ўрадзе (да таго ж сітуацыйнае і кароткатэрміновае) таксама ўскладняе ўключэнне ў агульную схему. Таму ў гэтым артыкуле мы ў асноўным гаворым толькі пра дзевяць міністраў-беларусаў, жыццяпісы якіх на сёння дастаткова добра даследаваныя. Іх прозвішчы пазначаныя ў табліцы чырвоным колерам.

### Дзеці сялян, святароў, афіцэраў

«Вялікіх паноў» у гэтым урадзе не было. Серада, Смоліч, Крачэўскі былі сынамі вясковых святароў і дзякоў. Бацька Канстанціна Езавітава быў афіцэрам, Палуты Бадуновай — арандатарам маёнтка, Тамаша Грыба — незаможным селянінам (меў толькі 5 дзесяцін зямлі), Леанарда Зайца — мешчанінам. ▶




**Язэп Варонка.**

▶ Пра бацькоў Варонкі і Бялевіча нічога невядома.

Хоць беларусы і мелі імідж сялянскай нацыі, толькі чатыры народныя сакратары нарадзіліся на вёсцы (Смоліч, Серада, Крачэўскі, Грыб). Бялевіч і Езавітаў гадаваліся ў гарадах, Бадунова, Варонка і Заяц — у мястэчках.

## Мужыцкі кабмін

Пяцёра беларусаў-урадоўцаў (Варонка, Грыб, Заяц, Крачэўскі, Серада) былі ўраджэнцамі заходняй часткі Беларусі. Смоліч, Бадунова, Бялевіч і Езавітаў паходзілі з усходу ці цэнтра.

**30 гадоў** — сярэдні ўзрост міністраў першага ўрада БНР

## Нікому з першых беларускіх міністраў лёс не судзіў доўгага жыцця

Найдаўжэй пражыў Іван Серада. Дата ягонай смерці невядомая, але 19 лістапада 1943 года, калі ён апошні раз згадваецца ў дакументах, яму было 64 гады. Язэп Варонка дажыў да 61 года, Яўхім Бялевіч — да 54, Палута Бадунова — да 53, Канстанцін Езавітаў — да 52, Пятро Крачэўскі — да 48, Аркадзь Смоліч — да 46, Леанард Заяц — да 45. А найкарацейшае жыццё лёс адвёў Тамашу Грыбу — усяго 42 гады.

Радзіма Язэпа Варонкі і Канстанціна Езавітава знаходзіцца за межамі сучаснай Рэспублікі Беларусь, хоць і ўваходзіць у беларускі этнічны абшар. Гэта Кузніца ў Польшчы і Дзвінск (цяперашні Даўгаўпілс) у Латвіі.

Каталікоў ва ўрадзе было толькі двое — народны сакратар земляробства Грыб і кіраўнік спраў урада Заяц. Астатнія міністры-беларусы былі праваслаўнымі. Праўда, пра рэлігійнасць міністраў казаць можна толькі ўмоўна. Бо ўсе народныя сакратары былі сацыялістамі і да рэлігіі ставіліся скептычна. Аніводнага палітыка з правымі поглядамі ва ўрад не трапіла. Адзін нямецкі чыноўнік назваў кабінет Варонкі цалкам «мужыцкім». Не варта, аднак, разумець выраз літаральна. «Мужыцкі» ў той час было сінонімам слова «сялянскі». Але памятаем, што далёка не ўсе сябры ўрада Варонкі выйшлі з сялянскіх хат. Проста публічная рыторыка іх усіх была накіравана на абарону інтарэсаў незаможных сялян.

Савецкія гісторыкі свядома хлусілі, называючы ўрад БНР «буржуазным» і «нацыяналістычным». На самай справе ўсё было якраз наадварот. У Другой Устаўной грамаце БНР абвяшчалася пра скасаванне прыватнай уласнасці на зямлю і дэкларавалася права меншасцей на нацыянальна-персанальную аўтаномію.

Цікава, што пры ўсім сацыялізме двое народных сакратароў, Аркадзь Смоліч і Пятро Крачэўскі, мелі за плячыма духоўныя семінарыі. У абодвух бацькі былі вясковымі дзякамі, а гэта амаль прадвызначала будучыню і дзецям. На практыцы, аднак, тагачасныя духоўныя семінарыі былі адной з кузняў рэвалюцыйных кадраў.

## Месцы нараджэння сяброў першага беларускага ўрада



## Прэм’ер, які з усімі перасварыўся

На чале першага ўрада БНР стаяў 26-гадовы Язэп Варонка, амбітны і канфліктны. Перасварыўся, бадай, з усімі. Ніхто з паплечнікаў не ўспамінаў яго добрым словам. Нарадзіўся Варонка на беларуска-польскім памежжы, у Кузніцы (цяпер тут памежны пераход). Цікава: з таго ж мястэчка паходзіў і стваральнік ідэалогіі заходнерусізму Міхаіл Каяловіч.

Некаторы час Варонка правучыўся на юрфаку Пецярбургскага ўніверсітэта, але за неўнясенне платы быў выключаны. Займаўся журналістыкай, спрабаваў пісаць вершы (пад псеўданімам Юрый Вегаў). Вось якім ён запомніўся аднаму са сваіх калег: «Высокі прыгожы брунет, ён хадзіў не ў сціплай тужурцы, а ў адмыслова пашытым студэнцкім сурдуце, зашпіленым на ўсе гузікі. Падкрэслена запаволены, заўсёды чыста паголены, валасы на прабор і нязменная памада. Ужываў дарагую мужчынскую парфуму й добра знаўся з ёю. Жыў ён у памяшканні рэдакцыі, спаў на стосах непрададзеных газет (а іх тут былі горы). Зароблены прагульваў за лічаныя дні, а пасля любіў наспеўваць нешта пра кішэню з дзюркай».

Пасля выхаду ў адстаўку Варонка працаваў ва ўрадзе Антона Луцкевіча як міністр унутраных спраў, а затым быў міністрам беларускіх спраў ва ўрадзе Літоўскай Рэспублікі.

У студзені 1919-га раз’юшаны Луцкевіч напіша: «Я ўрэшце пераканаўся, што Варонка — брудная і маленькая фігурка, якая працуе не для беларускай справы, а для свaёй кар’еры. Яму ўсё роўна, на каго абаперціся, абы была сіла».

У 1923-м Варонка выехаў за акіян, жыў у Чыкага. Памёр у 1952 годзе, перажыўшы ўсіх сяброў свайго ўрада.

Фармалізм і крывадушніцтва, якія там панавалі, выклікалі пратэст, адбівалі веру. Таму семінарысты нярэдка ўступалі ў партыі і арганізацыі з левай радыкальнай ідэалогіяй. Найбольш вядомая асоба з такой біяграфіяй — Іосіф Сталін.

### Пераважалі юрысты і настаўнікі

Вышэйшую адукацыю мелі толькі тры міністры-беларусы — Серада (ветэрынар), Заяц і Бялевіч (юрысты). Вучыліся, але не скончылі ВНУ Смоліч, Варонка, Грыб і Бадунова. Крачэўскі і Езавітаў мелі сярэднюю адукацыю.

**Савецкія гісторыкі свядома хлусілі, называючы ўрад БНР «буржуазным» і «нацыяналістычным». На самай справе ўсё было якраз наадварот**

Большасць вучылася ў ВНУ ў Пецярбургу, і толькі двое, Смоліч і Серада, паступілі ў вышэйшыя школы на тэрыторыі Польшчы: першы — у Пулавы на Любліншчыне, другі — у Варшаву.

Некаторыя ў юнацтве пацярпелі за палітыку. Яўхіма Бялевіча ў 1907 годзе выключылі з Мінскай гімназіі за ўдзел у вучнёўскіх беспарадках. Аркадзь Смоліч у 1910 годзе за арганізацыю дзвюх студэнцкіх дэманстрацый і страйку быў вымушаны пакінуць Інстытут сельскай гаспадаркі і лесаводства ў Пулавах.

Найбольшы працоўны досвед мелі Крачэўскі, Серада і Заяц. Пятро Крачэўскі настаўнічаў на Беласточчыне і ў Ваўкавыскім павеце, а потым служыў у Віленскім дзяржаўным банку. У Мар’інагорскім сельскагаспадарчым вучылішчы пяць гадоў выкладаў Іван Серада, адначасова працаваў ветэрынарам. Юрыст Леанард Заяц быў у штаце ▶



Аркадзь Смоліч.
БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА


Тамаш Грыб.
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ АРХІЎ БЕЛАРУСІ


Пятро Крачэўскі.
БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА


БДАМЛІМ

Палута Бадунова.

**Бадунова пакутавала ад непадзеленага кахання ўсё жыццё**

Віленскай губернскай акцызнай управы, потым стаў адказным сакратаром менскага аддзела Усерасійскага земскага саюза. Там жа працаваў Аркадзь Смоліч.

Амаль не паспелі папрацаваць Яўхім Бялевіч (адразу пасля атрымання дыплома яго прызвалі ў войска), Тамаш Грыб. Літаральна пару гадоў настаўнічаў Езавітаў. Затое Палута Бадунова выкладала ў школах на Гомельшчыне 9 гадоў.

Такіх, хто б дасягнуў кар'ерных вышынь, сярод міністраў першага ўрада не было.

### Палова ваявала

Пяцёра ўрадоўцаў ваявалі на франтах Першай сусветнай. Асобы ўпаўнаважаны па вайсковых справах, 24-гадовы Канстанцін Езавітаў, нават меў вайсковую адукацыю — скончыў Паўлаўскае вучылішча ў Петраградзе і даслужыўся да чына паручніка. Іван Серада працаваў вайсковым ветэрынарам. Для яго гэта была ўжо другая вайна — раней давялося паваяваць на Маньчжурскім фронце расійска-японскай вайны. У званні штабс-капітана службу праходзіў Яўхім Бялевіч. У расійскую армію таксама прызываліся Пятро Крачэўскі і Тамаш Грыб.

### Палова — халасцякі

Многія з першага ўрада БНР у 1918 годзе яшчэ не стварылі сям'і. Іван Серада і Аркадзь Смоліч знаходзіліся ў Менску ўжо разам з сем'ямі. Жонка Смоліча, Алеся Каткоўская, акурат нарадзіла першынца Максіма, а дзецям Серады, Мікалаю і Наталлі, у 1918 годзе было 10 і 9 гадоў. Сямейным чалавекам быў і Пятро Крачэўскі. Цікава, што яго жонка Марыя Барткевіч была каталічкай, а сам Крачэўскі быў з дынастыі праваслаўных святароў. Жонка Леанарда Зайца, Клара, паходзіла з вядомага роду Эпімах-Шыпілаў.


НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Канстанцін Езавітаў.

### Павел Злобін, рускі ва ўрадзе БНР

Ураджэнец Разані і патомны дваранін, ён быў членам партыі эсэраў, прайшоў турмы і ссылкі. У часы Першай сусветнай працаваў у земскіх установах. Менавіта па гэтай лініі Злобін трапіў у Менск і воляй лёсу спрычыніўся да стварэння беларускай дзяржаўнасці — быў кааптаваны ад Менскага земства ва ўрад БНР.
Ужо праз месяц Злобін выйшаў з Народнага сакратарыята, пратэстуючы супраць Трэцяй Устаўной граматы, якая абвяшчала незалежнасць Беларусі ад Расіі. Ён выехаў у Маскву і больш у Беларусь не вяртаўся. Захоўваючы вернасць эсэраўскім прынцыпам, Злобін заставаўся ў апазіцыі і да 1923 года пастаянна арыштоўваўся. Жыццё скончыў у ссылцы ва Уфе.
Быў двойчы жанаты, і абедзве жонкі былі паплечніцамі па партыі. Першая, Лідзія Даброва-Ядрынцава, брала ўдзел у замаху на маскоўскага граданачальніка, а ў сібірскай ссылцы захапілася вывучэннем малалікага паўночнага народа — кетаў.
Народжаны ў гэтым шлюбе сын, Сцяпан Злобін, яшчэ да вайны стаў вядомым аўтарам гістарычных раманаў. У 1952 годзе за эпапею «Сцяпан Разін» ён нават атрымаў найпрэстыжнейшую Сталінскую прэмію. Прытым што ўсю вайну пісьменнік прабыў у нямецкім палоне! Такі факт біяграфіі быў кляймом, але Злобіна, як сведчыў Канстанцін Сіманаў, падтрымаў сам Сталін, які любіў яго творы.

### Нешчаслівае каханне «жалезнай лэдзі»

Адзінай жанчынай на міністэрскай пасадзе была 32-гадовая Палута Бадунова. Яна займалася пытаннямі сацыяльнай апекі. Палута нарадзілася ў гомельскім прадмесці Навабеліца ў заможнай праваслаўнай сям'і, працавала ў вясковых школах настаўніцай рускай мовы і геаграфіі. У 1914 годзе паехала ў сталіцу імперыі на Вышэйшыя гісторыка-

літаратурныя курсы. У 1917-м з галавою кінулася ў вір палітычнага жыцця і далучылася да беларускага руху.

У канцы 1917 года Палута прыехала ў Менск, дзе ўдзельнічала ў працы Усебеларускага з’езда. Тут яна сустрэла 22-гадовага Тамаша Грыба і адразу закахалася: «Длінныя каштанавыя валасы, бакі, бледны твар і рэзкай формы сходзячыяся над носам бровы рабілі адразу яго заметным сярод другіх. Самае сільнае ўражанне зрабілі на мяне яго вочы. Пачці незямная дабрата, ціхая грустная насмешка над суятой зямной, так і глядзелі з глубіны не то карых, не то шэрых вялікіх вачэй яго», — пісала яна.

Узгадаванай у рускай культуры міністарцы Бадуновай няпроста давалася беларуская мова. На пасяджэннях урада яна заўжды выступала па-руску.

Для Тамаша Палута была паплечніцай, а кахаў ён маладую прыгажуню Паўліну Мядзёлку. Бадунова пакутавала ад непадзеленага кахання ўсё жыццё. «Бязумная туга» (як сама жанчына характарызавала свой стан) прымусіла яе пісаць лісты ў дзяржаўныя органы БССР з заклікам мусова прывезці ў Менск таварыша Грыба.


ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ГІСТОРЫКА-АРХЕАЛАГІЧНЫ МУЗЕЙ

**Леанард Заяц.**

Беларуская Народная Рэспубліка. Народны Сэкрэтарыят

Гэту Устаўную Грамату Рады Беларускай Народнай Рэспублікі прыймаем і падпісамі абецаем споўняць усе варункі, якіе акт гэты патрабуе, і праводзіць іх у жыцце

Часовы Старшыня Ураду і Народны Сэкрэтар міжнародовых спраў Язэп Варонка

Секрэтары:

НАЦЫЯНАЛЬНЫ АРХІЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Подпісы сяброў Народнага сакратарыята БНР пад **Трэцяй Устаўной граматай БНР ад 25 сакавіка 1918 года.**

## Як усё скончылася

Пяць народных сакратароў — Бадунова, Заяц, Бялевіч, Серада і Смоліч, — крыху патуляўшыся на эміграцыі, вярнуліся ў савецкі Менск. Працавалі ў дзяржапараце, навуковых установах... Усе яны сталі ахвярамі рэпрэсій. Бадунову і Смоліча расстралялі, астатнія пагінулі ў турмах і лагерах.

Ураджэнец Дзвінска Канстанцін Езавітаў у 1920-я вярнуўся на радзіму і стаў грамадзянінам незалежнай Латвіі. У міжваенны час ён быў рухавіком беларускай справы ў гэтай краіне. Падчас Другой сусветнай браў удзел у фармаванні беларускіх вайсковых частак пад нямецкім кантролем, у красавіку 1945-га арыштаваны смершам, у наступным годзе памёр у турме ці быў расстраляны.

Пятро Крачэўскі і Тамаш Грыб у шчырасць бальшавікоў не паверылі і да смерці (першы — у 1928-м, другі — у 1938-м) засталіся на эміграцыі ў Празе. А старшыня ўрада, Язэп Варонка, трыццаць з лішкам апошніх гадоў свайго жыцця пражыў у ЗША. ◆



**Няўдалыя бабы.**
Малюнак Юзафа Рышкевіча.
У назве малюнка —
відавочная гульня слоў.

# Бабы і бабкі

**Цяпер бабка асацыюецца з бульбяной стравай, але яшчэ ў XIX стагоддзі гэта быў найперш салодкі далікатэс. Расказвае доктар гісторыі Алесь Белы.**

## Няўдалыя бабы — бяда на Вялікдзень

Галоўнай нагодай для выпечкі бабаў у нашых продкаў быў Вялікдзень, а дакладней, святочнае снеданне ў велікодны панядзелак. Для гаспадыні гэта было выпрабаванне. Дарагія прыправы (асабліва шафран), найлепшыя дрожджы, самая белая мука, велічэзныя разынкі, молаты міндаль, неймаверная колькасць яечных жаўткоў — кожная баба была паважнай інвестыцыяй! Гаспадыня перажывала, што цеста ападзе або, наадварот, занадта «выпра» з формы. Навагрудскі адвакат і літаратар Ігнацы Яцкоўскі, які адкрыў публіцы «верш Паўлюка Багрыма» (ці пісаў вершы рэальны Паўлюк Багрым, гэта ўжо іншая тэма), іранічна пісаў: «У Літве паненцы можна памыліцца ў такце музыкі альбо танца, але нельга памыліцца ў прыгатаванні бабак і вяндліны».

Залітае ў формы і прыкрытае льняной хустачкай цеста на бабкі трымалі ў замкнёным пакоі, куды не пускалі ні дзяцей, ні мужчын. Паблізу няможна было гучна размаўляць, бегаць... Няўдалая баба была сапраўднай ганьбай для гаспадыні — гэты сюжэт часта сустракаецца ў гумарыстычных малюнках XIX стагоддзя. Бабы, вынутыя з печы, з амаль рэлігійным трымценнем выкладалі на пуховыя пярыны, каб астылі.

## Прыгожая легенда

Згаданы вышэй Ігнацы Яцкоўскі данёс да нас таксама паданне аб тым, як была прыдуманая баба.

«Калі наш Ягайла ажаніўся з Ядвігаю з Кароны, дык яму было сорамна, што яго жонка не мае чым прыняць гасцей у сябе... Дык вось, агледзеўшыся крыху ў доме, кароль Ягайла зразумеў, што ад нязручнасці гэтае інакш не пазбавішся, як толькі, падгаварыўшы Ядвігу, паехаць



Металічныя або керамічныя **формы для выпечкі часта аздаблялі патрыятычнымі матывамі**, напрыклад, гербамі частак Рэчы Паспалітай — Польшчы, Літвы і Русі.

на Літву пад маркай хрышчэння паганцаў (да чаго яна, як кабета, мела надзвычайную слабасць), а па сутнасці, каб паказаць сваёй жонцы, якія там гаспадыні.

У 1387 годзе на Папялец (першы дзень Вялікага посту, калі святар пасыпае вернікам галовы попелам) Ягайла са сваёю маладою, прыгожаю Ядвігаю прыехаў у Вільню. А не было ў той час ані кавы, ані гарбаты. Звычайна ў Кароне тое месца займала піўная поліўка з сырам і грэнкамі, а на Літве ўжо было сёе-тое лепшае. Пані Карыбутава, братавая караля, княгіня навагрудская, прыйшла да каралевы раніцаю і загадала ўнесці ў залатых кубках поліўку з ковенскага мёду, прыпраўленую жаўткамі і рознымі каранямі, а да яе — сухарыкі і печыва, якое зрабіла сама. Маладая Ядвіга не ведала, як гэта есці, бо лыжак на стале не было. Кароль папрасіў Карыбутаву, каб яна паказала каралеве, як трэба есці. Пані Карыбутава, думаючы, што каралева баіцца атруты, села за стол і, памачаўшы кавалак печыва ў поліўцы, пачала снедаць, нахіляючы залаты кубак, які трымала за абедзве ручкі даматканаю сурвэткаю, вышытаю ўрыанскім жэмчугам.

Каралева, паглядзеўшы на гэта, падумала: “Трэба ёй гэта дараваць і зрабіць гэтаксама, бо літвіны яшчэ паганцы, а таму дзікуны”. Але калі яна пакаштавала тае поліўкі з кубка, дык пачалі пазіраць: каралева — на печыва, а кароль, шчаслівы, што справіў жонцы такую прыемнасць, — на каралеву:

— А што, каханая, няма ў нас такіх прысмакаў у Кракаве?

А яна з захапленнем усклікнула:

— Ой, ба! Ба! Каб жа мы гэта мелі!

### «Калі бабы падыходзяць, нельга набліжацца да печы нікому, асабліва мужчынам»

Велікоднае печыва дзеліцца на тры віды: бабкі, мазуркі і торты, — а апошнія маюць столькі відаў, колькі пяску ў моры. Мужчыны не ведаюць гэтых тонкасцяў, і толькі востры жаночы розум можа іх ахапіць і ацаніць належным чынам. Бабкі бываюць шафранавыя, ванільныя, хлебныя і петынетавыя. Гэтыя апошнія патрабуюць неймавернай колькасці жаўткоў, а калі яны падыходзяць, нельга набліжацца да печы нікому, і асабліва мужчынам, якія па натуры нязграбныя і цяжка ступаюць… Ганаровая варта забяспечвае недатыкальнасць іх каралеўскіх вялікасцяў — бабаў і мазурак… Мазуркі і ляпёшкі, белыя і жоўтыя, карычневыя і вясёлкавыя, ляжаць усюды пакрыху, на вуглах — цудоўныя бабы, тоўстыя, як пухіры, расселіся ганарліва і сцерагуць стол, нібы чатыры вежы абарончай крэпасці.

*Ян Булгак.*
*«Край дзіцячых гадоў»*

## Вялікі князь Станіслаў Ляшчынскі захапляўся казкамі «Тысячы і адной ночы» і назваў выпечку, прамочаную ромам, у гонар Алі-Бабы — Baba au rhum

Княгіня навагрудская, якая ў той час не ведала яшчэ ані слова па-польску, пакланілася каралеве; застаўся ў яе памяці толькі той выклічнік “Ба! Ба!”, і ад таго паходзіць назва бабы, якую пазней пяшчотна перайменавалі ў бабку».

Гісторыю Яцкоўскага гісторыкі кулінарыі лічаць ▸



**Велікодны клопат.** Малюнак Міхала Эльвіра Андрыёлі.




На велікодным стале з бабамі суседзіў масляны баранчык, які сімвалізаваў Ісуса Хрыста. Звычай «маслянага барана» ў Глыбоцкім раёне быў унесены ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь як аб'ект нематэрыяльнай культурнай спадчыны.

анекдотам. Насамрэч, яна перадае атмасферу не XIV-га, а сярэдзіны XIX стагоддзя. Навагрудскі адвакат хацеў падкрэсліць, што ў гістарычнай Літве ўсё лепшае, смачнейшае, чым у суседзяў-палякаў, — і так было спакон веку.

### Адкуль насамрэч паходзіць назва?

Ёсць некалькі версій. Польскі энцыклапедыст Зыгмунт Глогер лічыў, што дражджавыя бабы, якія выпякалі на Вялікдзень і Тройцу, некалі называліся «бабіны калачы», а пазней сталі проста «бабамі».

Сучасны польскі філолаг Мацей Маліноўскі мяркуе, што форма ўсечанага конуса, якую часцей за ўсё маюць бабы, нагадвала жаночыя формы. Ёсць версія, што назву прыдумаў кароль польскі і вялікі князь літоўскі Станіслаў Ляшчынскі, калі пасля 1738 года жыў на выгнанні ў Францыі як князь латарынгскі. Мясцовая выпечка *kugelhupf*, занадта сухая, яму абрыдла. Аднойчы ён у гневе адсунуў талерку, штурхнуў бутэльку з ромам, і той прамачыў прэсную выпечку. (Паводле іншай версіі, мяшанкай з рому і салодкай малагі пачаў прамочваць выпечку ягоны кандытар Шторэр.)
Тое, што атрымалася, спадабалася выгнанніку значна больш, а паколькі ён захапляўся казкамі «Тысячы і адной ночы», дык назваў новы кандытарскі выраб у гонар Алі-Бабы — *Baba au rhum*. Цяжка ўявіць, што ромавая баба мае каралеўскія карані. ◆




**Не абышлося без велікодных бабаў і на мінскай перадваеннай паштоўцы**, 1914 год.

**Як наша баба стала французскім далікатэсам, расказвае шэф-кухар Алена Мікульчык.**

Бабамі, якіх гатавалі Станіславу Ляшчынскаму, зацікавіўся Жан Ангельм Брыя-Саварэн, знакаміты кулінар, філосаф, палітычны дзеяч, юрыст і эканаміст. Менавіта яму належыць афарызм: «Скажы мне, што ты ясі, і я скажу, хто ты».
Саварэн трошкі змяніў рэцэпт, і свет даведаўся пра новую страву, якую назвалі ў гонар аўтара, — «Саварэн». Далей дэсерт пранік у Сіцылію дзякуючы шлюбу сястры французскай каралевы з каралём Фердынандам IV Бурбонам. Вельмі хутка саварэн палюбілі ў Неапалі, і ён нават стаў сімвалам горада.



**Свянцонае.** Малюнак Міхала Эльвіра Андрыёлі.

# Як прыгатаваць шляхецкую бабу

Захаваўся рэцэпт той самай бабы, якую падавалі Ляшчынскаму, дастаткова складаны. Пачаць можна з больш простых варыянтаў, напрыклад, з перцавай бабы, яна мае цікавы, пікантны смак. Спосаб прыгатавання апісаны ў кнізе «Літоўская кухарка», а шэф-кухар **Алена Мікульчык** адаптавала гістарычны рэцэпт да нашых рэалій.

### Бабка пярцовая

*Інгрэдыенты:*

- 5 яек,
- 85 г мукі,
- 130 г цукру,
- 20 г маннай мукі або сухароў,
- 8 г карыцы молатай,
- 5 г папрыкі,
- 3 г вострага чырвонага перцу.

Жаўткі аддзяліць ад бялкоў, расцерці з цукрам, карыцай, папрыкай і перцам, падсыпаючы муку. Дадаць узбітыя ў пену бялкі і асцярожна вымесіць. Форму вышмараваць маслам, абсыпаць сухарамі або манкай і ўліць атрыманую масу. Верх бабы пасыпаць крушанкамі (для іх вымесіць рукамі 1 сталовую лыжку масла з 1 сталовай лыжкай цукру і 3 сталовымі лыжкамі пшанічнай мукі). Выпякаць пры тэмпературы 180 градусаў 20–25 хвілін.


SHUTTERSTOCK_BY TERESA KASPRZYCKA

# Як гатаваць правільную бульбяную бабку

Як і многія стравы з бульбы, бабка ўспадкавала назву ад мучных папярэднікаў. Выпечку з пшанічнай мукі называлі бабай, а страва простая, штодзённая стала бабкай.

**Правільная бабка выходзіць з крухмалістых сартоў бульбы**

Ёсць, праўда, і народная інтэрпрэтацыя назвы бульбяной стравы. Вось як тлумачыць адна сталая кабета: «Калі трэш для бабкі бульбачку на тарцы, яна такая светленькая, як маладая дзяўчына. А калі дастаеш бабку з печы, то яна ўжо зямлістая і цёмная, як твар старой. Вось таму і бабка».

Бульбяныя бабкі з'явіліся ў нас прыкладна ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Бульба была спачатку здабыткам багатых, але хутка распаўсюдзілася.

Першымі гатаваць «прабабку» бульбяной бабкі — страву пад назвай «кугель» — пачалі яўрэі на свята Песах. Спярша гэта была запяканка з перацертай гародніны — гарбуза і морквы, пазней кабачка, потым і з бульбы.

Бульбяная бабка гатуецца падобна па ўсёй Беларусі. У аснове заўсёды цёртая на дробнай тарцы бульба плюс дадаткі. Класічнае спалучэнне: бульба, цыбуля, сала з пераслінкай, соль. Часам дадаюць яйкі, смятану, малако і муку.

Правільная бабка выходзіць з крухмалістых сартоў бульбы, тады ідэальнай парай будзе бульба з цыбуляй плюс начынне. Дарэчы, дадаваць у бабку можна розныя віды мяса, грыбы, чарнасліў, чырвоную рыбу. Падаваць бабку абавязкова гарачай і са смятанай.


SHUTTERSTOCK_BY LILIYA KANDRASHEVICH

### Бульбяная бабка з грудзінкай

*Інгрэдыенты:*

- 250 г бульбы,
- 150 г грудзінкі,
- 140 г цыбулі,
- 20 г смятаны,
- 1 яйка,
- чорны молаты перац,
- 3 г солі.

Цыбулю (100 г) дробна парэзаць, грудзінку парэзаць невялікімі кубікамі. Абсмажыць грудзінку да з'яўлення тлушчу, дадаць цыбулю, смажыць да гатоўнасці. Бульбу здрабніць на блендары з цыбуляй (40 г), дадаць яйка, смятану, прыгатаваную грудзінку з цыбуляй, перац і соль. Дарэчы, смятану і яйка можна і не дадаваць. Усё хутка змяшаць. Выкласці ў гаршчок, паставіць у духоўку на 50 хвілін пры тэмпературы 200 градусаў. Запякаць без вечка. Гатоўнасць — залацістая скарыначка зверху. Падаваць са смятанай.




# Як 17-гадовы хлопец з-пад Нарачы трапіў у Нарвегію і працаваў з людзьмі з розных канцоў Еўропы

**Мікалай Асаевіч** у 1944-м.

ФОТА: «НАРАЧАНСКАЯ ЗАРА».

# ОСТАРБАЙТАР,

## або Падарожжа туды і назад

«Дасылаю фотакартку з часу жыцця ў Нямеччыне. Гэты час я не забуду ніколі», — пісаў родным у 1944 годзе Мікалай Асаевіч з вёскі Новікі Мядзельскага раёна. Сваё 18-годдзе ён сустракаў у Германіі, на прымусовых работах. Тыя два гады цяжкай працы на караблях у Паўночным моры зрабілі з маладога беларуса чалавека свету.

Я слухаў яго аповед і прыгадваў «Хобіта». У Еўропе, узбуранай Другой сусветнай вайной, беларусаў, як тых персанажаў Толкіна, мала хто браў у разлік. І многім з іх, нібы Більба Бэгінсу, давялося прайсці літаральна праз драконаў агонь і ацалець. Ці была гэта чыстая ўдача? Бадай, не. Гэтая гісторыя таксама пра сяброўства, чалавечнасць, гумар, якія дапамагалі выжываць пад бомбамі ў халодным моры і ў канцлагерах.

Старога Мікалая ўжо няма. Ён памёр у пачатку восені 2017-га, пражыўшы 90 гадоў. Да апошніх дзён ён захоўваў жывы розум, памяць і здольнасць па-маладому здзіўляцца. На бачным месцы ў ягонай хаце вісела карта свету.

«ЧАМУ НЕ ЎЦЯКАЛІ? А ХТО Ж ДУМАЎ, ШТО БУДУЦЬ ПАЛІЦЬ? Тры гады пры немцах пражылі: і танцавалі, і вяселлі спраўлялі, і гарэлку гналі, не хаваючыся... А як пабралі нас, пасадзілі на дарозе — куды ўцячэш?

Вёска гарыць, нас пагналі. Са мной мама была і дзве меншыя сястры.

МОЖНА БЫЛО ПАДКУПІЦЬ КАНВАІРА, ЗОЛАТА ДАЦЬ, КАБ АДПУСЦІЎ. І якраз нейкая баба падышла прасіцца, каб сваіх выкупіць. Тым часам мама з сёстрамі бокам-бокам, да рэчкі, у кусты — і ўцяклі. І я збіраўся, але не паспеў: вартавы змяніўся.

З Сватак пагналі на Мядзела, потым у Кабыльнік (цяпер пасёлак Нарач. — *Рэд.*). У касцёле начавалі. Цяпер падумаеш: касцёл, а там ты і апраўляўся... Не саромеліся...

У касцёле быў арган. І з аховы адзін умеў на ім іграць — эстонец.

Пасля гналі на Камаі, Лынтупы, і ўсё людзей дабаўлялася. Хто спрабаваў уцячы, тых пастралялі. А адтуль ужо вузкакалейкай у Вільню».

У Вільні, на Буковай, жыў Мікалаеў дзядзька Андрэй Асаевіч. Яго дачку Любу ўзяў перад вайной замуж паэт Максім Танк. Можна было схавацца ў сваяка, але Мікалай асцярогся без дакументаў.

«З ВІЛЬНІ ЦЯГНІКОМ ВЕЗЛІ НАС НА БЕЛАСТОК, І Ў БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ ПАРТЫЗАНЫ МІНУ ПАДКЛАЛІ. Рэйкі рассунуліся пад вагонамі. Да Беластока пешкі ішлі.

У Граеве, ва Усходняй Прусіі, у лазні памылі, перапісалі. Перакладчыцы, дакторкі былі рускія, што трапілі ў палон. Хворым ставілі на лоб пячатку. Куды іх пасля адпраўлялі, не ведаю.

А нас павезлі на Гданьск, Гдыню, Шчэцін. Ужо ў Германіі раздзялілі — сямейных асобна, халастых асобна».

Мікалай мог прыстаць і да сямейных: у эшалоне гналі яго дзядзьку з сям'ёй. Але застаўся з хлопцамі-аднагодкамі з Новікаў — Іванам і Косцем.

«ПРЫВЕЗЛІ Ў ГАМБУРГ, ГОНЯЦЬ З ВАКЗАЛА — А МЫ Ў ЗРЭБНЫМ, У ЛАПЦЯХ. Немцы дзівяцца. А горад увесь разбіты, ляжыць у хламе».

Напярэдадні Гамбург зазнаў серыю «кілімовых бамбардзіровак» аперацыі «Гамора» англійскіх ВПС. Беларусаў размясцілі ў лагеры ў раёне Альтона, ацалелым ад бомбаў.

«Супу наліюць увечары. Бывае, немка дасць талончык, дык нашы злётаюць у ларок па хлеб. А так — і галодны хадзі.

На вуліцах дзеці нямецкія пераймалі — пляваліся. Дык знайшоўся паліцэйскі, тых дзяцей адпрэчыў, болей не чапіліся...

Ідзём на завод калонай: мы, французы, галандцы. У іх абутак драўляны, па бруку — ляп-ляп. Пасля і нам далі ў лагеры такі. Спачатку нязручна было, а тады прывыклі.

На заводзе вучылі за слесара і мовы нямецкай. Учыцелька была немка з Паволжа... Я перад вайной пяты клас паспеў скончыць, там таксама нямецкую вучылі. Трохі падламаўся...

І ШТО Ж ВУЧАЦЬ НАС: «ШЛЕЙЗЭ» — ГЭТА ЛОМ, «ШАЎФЭЛЬ» — ШУФАЛЬ, «КОЛЬ» — ВУГАЛЬ. А пасля садзяць на параходзік — і плаваем па Эльбе. ►

### Слова «остарбайтар»

(усходні рабочы) прыдумаў намеснік Гітлера Герман Герынг. Так называлі людзей, прымусова вывезеных на працу з Усходняй Еўропы ў Германію. Яны мусілі насіць на адзенні нашыўку з надпісам «OST» і мелі меншыя правы за немцаў. За працу остарбайтары атрымлівалі ў лепшым выпадку мізэрныя грошы, а часта ім не плацілі ўвогуле нічога. Многія з іх утрымліваліся ў адмысловых лагерах за калючым дротам.



**Мікалай Асаевіч (злева) з аднавяскоўцамі Іванам Скурко і Канстанцінам Скурко**, з якімі разам трапіў на нямецкі параход. 1944 год. Фота зроблена ў выходны дзень у Гамбургу.

## Патрэба ў остарбайтарах

з'явілася ў 1941-м, калі эканоміка Германіі адчула недахоп працоўных рук. Першая агітацыйная кампанія ў Беларусі і ва Украіне прайшла ў студзені 1942-га. Калі добраахвотнікі скончыліся, пачалі вывозіць гвалтам.

▶ Пабылі так месяцы са два, тады павязлі пад канвоем у Брэмен. На вакзал прыйшлі — а ён увесь шкляны, закрыты вокнамі, — і цягнікі праз яго ідуць! А дзіва якое! А не відзеўшы!

З Брэмена ў Эмдэн, пад Галандыю. Пагналі на прыстань, да парахода. Параход не нагружаны, стаіць высака, а лесвіца з вяровак. І трэба лезці наверх — а мяшок з рэчамі на плячах...

НА ПАРАХОДЗЕ ПАЛУБНЫЯ МАТРОСЫ — НЕМЦЫ, А МЫ, ЗАБРАНЫЯ, — КАЧАГАРАМІ. Французы тры былі, нарвег, галандзец, рускі, украінец і нас траіх: Іван, Косця і я.

Быў нават мардвін. Пытаемся: ты як папаўся? Мардова ж не была пад немцам. А яго бацькі прыехалі жыць ва Украіну: у Мардове блага было жыць, думалі, што ва Украіне добра будзе. А бальшавікі ўсюды адны былі... Як Украіну немцы забралі, ён і папаў на работу.

МЫ ДЫК ЗЛЫЯ БЫЛІ: ВЁСКУ НАШУ СПАЛІЛІ НЕМЦЫ, РАБІЦЬ НА ІХ ТРЭБА. А мардвін казаў: я гараваў у калгасе, у лапцях хадзіў, тут лепей...

І французы былі злыя — страх. У сябе дома яны былі машыністы, пры машыне стаялі, а тут немец качагарамі паставіў, ломам варочаць.

У ТРУМЕ ДВА КАТЛЫ ВЯЛІКІЯ — КОЖНЫ ЯК ХАТА. Па тры топкі ў кожным. І два качагары. Чатыры гадзіны змена робіць, адзежа чорная, а выйдзеш пасля змены — белы ўвесь ад солі, ад поту. Як пары не дасі своечасова, машыніст зверху прыляціць — і нагой у сраку! Восем гадзін адпачнеш — і зноў змена. Тут ужо кармілі нехаця.

ПАРАХОД ВУГАЛЕМ НАГРУЗІЛІ — І Ў МОРА ПЕРШЫ РАЗ. А качка, а рвала з непрывычкі! Марская хвароба, цукрам смажаным ад яе спрабавалі лячыцца.

Вязём вугаль у Нарвегію. Тады нарвегі руду жалезную нагрузяць — і назад у Германію. Каля нямецкіх берагоў, каля Даніі хадзілі смела.

А далей на поўнач па адным не плавалі — ваенныя караблі суправаджалі. Іначай разбомбяць.

АНГЛІЙСКІХ ЛЁТЧЫКАЎ НЕМЦЫ БАЯЛІСЯ БОЛЕЙ, ЯК РУСКІХ. Казалі: рус Іван — ерунда, бомбы кінуў абы-куды і паляцеў, а як Джоні прыляціць — капут. Але пад Кіркенэсам патапілі нас рускія.

НАЛЯЦЕЛІ, ТРАПІЛІ БОМБАЙ У КАТЛЫ, КАТЛЫ ПАРВАЛА — ПАРА ДА НЕБА СЛУПОМ, КІПНЕМ УСЁ ЗАЛІЛО, ПАРАХОД СТАЎ. Немцы пачапілі буксіры і цягнуць параход у порт. А Іван на змене быў. Мы думаем: усё, згінуў недзе, заліло кіпнем.

Як падплывалі да Кіркенэса, яшчэ раз наляцелі самалёты, кінулі бомбы, прабілі дно. Вада найшла ў трум, нос парахода падняўся. Падплылі катары збіраць людзей — ратуйся, уцякай.

А мне якраз перад тым васямнаццаць споўнілася. Паўналетнім давалі бутэлечку гарэлкі на месяц і цыгарэты, па шэсць штук на дзень. А мы ж не курылі. Дык Іван, Косця — яны старэйшыя за мяне — павыменьвалі сабе ў курцоў на цыгарэты касцюмы. І мне свае рэчы шкода было кідаць.



Параход «Патагонія».









**Паштоўкі з відамі Нарвегіі**, якія Мікалай Асаевіч прывёз са сваіх вандровак.

Я Ў КАЮТУ ЎЛЯЦЕЎ — А ВАДА ЎЖО НАДХОДЗІЦЬ. Чамадан мой раскрыты ад выбуху, бутэлечка разбілася. Я кашулю шаўковую, бялізну на руку, а Іванаў чамадан — у другую. Усё адно, думаю, Іван загінуў. Забралі нас з парахода катарамі, высадзілі ў вайсковы лагер, дзе ўласаўцы былі. І тут сустракаю Івана! Яны з іншым качагарам — рускі быў, Лаўроў, — як пачулі трывогу, пары даўшы, выскачылі на палубу. Аддаў я яму чамадан.

ПАРАХОД НАШ, ЯКІ ПАТАНУЎ, НАЗЫВАЎСЯ «ОЛЬЗА».

Пабылі мы ў лагеры дні тры. А тады пасадзілі нас на параход «Патагонія», што вазіў салдатаў на фронт. І бочкі з бензінам наверх загрузілі. Ну, кажам, цяпер, калі пацэляць бомбай, — капут... Прыехалі ў Нарвік.

У НАРВІКУ НАС РАЗДЗЯЛІЛІ. Я трапіў на катар, што ездзіў па заліве. Часам бачыліся з Іванам і Косцем на беразе. Я ім зайздросціў: іх новы параход быў на салярцы, не на вугалі. Не трэба шуфлём варочаць, залу́ вычышчаць, выгружаць...

МЫ Ў НАРВЕГІІ ХАДЗІЛІ СВАБОДНЫЯ, нас пускалі ў горад у выхадныя да 10-й вечара. Трэба было насіць павязкі «Ост», але мы не насілі — і патруль не лавіў ні разу.

Я валасы меў доўгія — каб чорныя, дык якраз француз. Любіліся мы з украінкамі — такімі самымі, вывезенымі. У парку сустракаліся. З адной пацалаваўся, а пасля іду — а яна ў парку сядзіць з французам! Была ў мяне яе картачка, забрала НКВД пасля.

Ідзём мы раз, а ўперадзе нямецкія два салдаты — і па-польску гавораць. А мы ж чатыры класы пасканчаўшы польскія — далей, каб і хацеў, пры Польшчы не было дзе вучыцца. А што: падпісацца і грошы лічыць навучышся ды будзеш араць зямлю. Тыя салдаты былі з-пад Пазнані. Прынеслі нам кніжку, дзе нямецкія словы і польскі пераклад. Так мы займелі размоўнік.

У ПІЎНУЮ ЗАЙДЗЕШ — ТАМ МАДАМЫ ПЯЮЦЬ. Раз былі ўтрох, горача, узялі па кухлі, па другім, па трэцім — і закускі. Мы елі, а Косцечка ўсё пароўся ў талерцы. А тады дастае лапу жабіну на відэльцы! Мы да афіцыянткі: вас іс дас? А яна: гут, гут эсэн! Французы, галандцы ж ядуць жабы зялёныя. Ці тыя вустрыцы: як на моры адліў, вада апусціцца, сваі на прыстані пакажуцца. І яны скрозь наліпшы на сваях. Дык французы нашы таксама: гут, гут эсэн. Як нас ірвала пасля тых жабаў!

Яшчэ дзіўна было, што немцы паветра псуюць на людзях. Быў у нас немец, матрос Вілі. Паядзём, ён падоймецца з-за стала і пярдзіць. Швайнэ, кажу, свіння. Ён: не, гэта гут, страўнік працуе. Ці, бывае, у парку дзяцюк із дзеўкай ідуць — і тое самае. Гэта ў іх не сорамна. Але як каму рыгнецца — гэта ўжо ў іх лічыцца «швайнэ».

У ТАГО МАРАКА ВІЛІ ТАТУІРОЎКА БЫЛА: ВЯЛІКІ АРОЛ З КРЫЛАМІ НА ЎСЕ ГРУДЗІ. Там якую хочаш ▶

▸ татуіроўку можна было зрабіць, 10 марак каштавала. Ды не іголкай — машынкай: ляпнуць — і гатова. Я надта хацеў сабе, але Вілі адгаварыў: не рабі, казаў, будзеш альтман, стары чалавек, цела абсунецца, будзеш увесь чорны. І яшчэ мы думалі, можа, уцякаць прыйдзецца, дык з татуіроўкай лягчэй знойдуць.

## Раз узялі па кухлі і закускі. Косцечка ўсё пароўся ў талерцы. А тады дастае лапу жабіну на відэльцы

МЫ Ў ВІЛІ ПЫТАЛІСЯ: ЦІ МАЕШ ЖОНКУ? А варум, ён кажа, навошта? Я ін зее арбайтэн, у моры працую. Трай месяцы ў моры, зыбэн месяцаў. Вазьмі маладую фрау — дык я гелд, грошы толькі буду даваць. А так я схаджу сабе туды, дзе вунь сядзяць у акне бабы голыя, — і задаволены. І мы туды схадзілі неяк. Я потым, ужо дома, узяў ды ляпнуў пра гэта жонцы сваёй... Яна мне да смерці не даравала.

На катары са мной разам былі качагарамі нарвег і рускі, Віктар Суркоў. Дзесяць класаў скончыў, па-нямецку нам усё перакладаў. Бацька яго быў архітэктарам, а маці доктарам. А ён перад вайной з гэткімі самымі школьнікамі абярнуў падвозчыка хлеба — дык яго за тое ў турму. А тут вайна, ён і папаўся ў Германію. Казаў: не паеду ў Расею назад. Хочацца мне, казаў, па свеце паязджаць.

А ДРУГІ КАЧАГАР, НАРВЕГ ТОЙ ЗДАРОВЫ, РАЗ ПЫТАЕЦЦА: ЦІ ПЕЯЦЁ «ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ»? Дык я: «Паўстань, пракляццем катаваны!» — і ён таксама па-свойму зацягнуў. Як ускочыў да нас машыністы, па зубах як упярыў таму нарвегу!

А капітан разумны быў чалавек. Ён казаў мне: Гітлеру капут, але



**Атака савецкай авіяцыі на нямецкі параход у раёне Кіркенэса.** На фота бачныя белыя сляды ад бомбаў. Побач з параходам — буксір.

### Топмачтавае бомбакіданне

(skip bombing) спосаб бомбакідання, распрацаваны англійскай марской авіяцыяй. Лётчык зніжаўся да 15–30 метраў і, на вялікай хуткасці ідучы ў бок карабля-цэлі, кідаў бомбы. Кінутая з малой вышыні авіябомба рыкашэціла ад воднай паверхні і ляцела ў зададзеным кірунку да 300 м. Самалёт тым часам рэзка набіраў вышыню, каб не сутыкнуцца з караблём. Гэты спосаб дапамагаў дакладней трапіць у цэль. Пад канец вайны яго асвоіла і савецкая авіяцыя.

ты, Мікалай, дамоў не едзь, бо Сталін цябе ў Сібір загоніць. Лепей, казаў, паедзем да майго бацькі, у Цюрынгію. У бацькі зямля, дзесяць кароў, два кані. З сястрой, казаў, незамужняй пазнаёмлю.

МЫ Ж ЛІЧЫЛІСЯ ДОБРААХВОТНІКАМІ. Я як расказаў таму капітану, што нашы хаты спалілі, старых кінулі ў агонь, дык ён абурыўся. Як так, казаў, у нас жа няможна цывільных чапаць.

ХОЦЬ ВАЙНА ІШЛА, АЛЕ НАШЫ ЛІСТЫ ДАМОЎ ДАХОДЗІЛІ. Апошні ліст, праўда, вярнуўся з пазнакай нямецкай пошты: даставіць немагчыма, але можна будзе пазней.

Перапісваліся і з бацькам. Ён быў старшынём калгаса ў 1939-м, немцы яго выслалі ў лагер Данкмаркхаўзен. Я падлеткам усю мужчынскую работу рабіў дома. А бацька ў лагеры на ліцейным заводзе нажыў дыхавіцу, памёр пасля вайны... ▶

▶ У НАРВЕГІІ НАС І ВЫЗВАЛІЛІ АМЕРЫКАНЦЫ. Прыйшлі мы ў маі ў Осла, а следам і капітуляцыя. Немцы і не спадзяваліся, што вайна скончыцца.

Прыйшоў загад раззброеных нямецкіх салдатаў нашым параходзікам у лагер вазіць. Я ў іх валёнкі скраў абшытыя, бялізну, касцюм марацкі — гэта ж дома ўсё спалена, хоць не голы прыеду.

І ўсё мы думалі: куды далей дзецца? Аж раз на прыстані спаткалі двух украінцаў. Лагер, кажуць, ёсць, дзе збіраюць усіх нас, з усходу.

За месяц сабралі лагер вялікі. Хто быў салдат, афіцэр, таму амерыканцы далі форму сваю, шарсцяную. У сталовую хадзілі калонай, а там рускія кухары, самі варылі, толькі прадукты давалі амерыканцы. Павары ўвесь час былі п'яныя. Як у сталовую ісці, трэба было запяваць. «Масква мая, страна мая» — гэткую песню ўсё рускія пялі.

Быў з намі ўкраінец, стары Засядзька. Ён казаў: я нэ поіду дамоў, камуністы манюкі, я ім нэ віру. У 33-м року мы пчолы ілы з голаду.

НАМ, З ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ, МОЖНА БЫЛО ВЫБІРАЦЬ, КУДЫ ЕХАЦЬ. Анцюк — зямляк мой, сустрэліся ў лагеры, — не думаў вяртацца. Ён хацеў ехаць на Захад ці ў Аўстралію. Але я ўгаварыў дамоў.

А ВАКОЛ — АГІТАЦЫЯ, ЛОЗУНГІ: «ЖДЖОМ ВАС, ДАРАГІЯ, З ФАШЫСЦКАЙ НЯВОЛІ» — І ПШАНІЦА. Па рэпатрыяцыі савецкіх грамадзян быў адказны, помню, генерал Голікаў...



З афіцыянткай, якая падкормлівала на торфараспрацоўках.

Праз месяц пасадзілі ў вагоны і папёрлі праз Швецыю. Пасля праз Балтыку — і ў Фінляндыю. На выгрузцы рускія афіцэры загадалі стаць па чатыры. А з намі і бабы былі з малымі дзецьмі — гэта ж не салдаты. Дык афіцэры на іх заругаліся: што, забылі там, як па чатыры станавіцца?»

Праз Фінляндыю дарагіх, што вярталіся з фашысцкай няволі, вагонамі-цялятнікамі павезлі ў разбомблены Выбарг, адтуль — на Ленінград. З'явіліся суправаджаючыя-энкавэдысты, але без зброі.

## 5 мільёнаў

цывільных і каля 2 млн ваеннапалонных трапілі на працу ў Германію з Усходу да лета 1944-га. Больш як 5 млн вярнуліся дамоў пасля вайны.

«А ЯК ПАГНАЛІ НАС НА МАСКВУ, МЫ ЗРАЗУМЕЛІ, ШТО ДАМОЎ НЕ ПАПАДЗЁМ. Анцюк многа гадоў на мяне крыўдаваў, што я яго ўгаварыў ехаць...

Загналі эшалон у Маскве ў тупік на тыдзень. У сталовую вадзілі: кашу грэцкую давалі — ніхто не еў. На нарвежскім пайку паад'ядалі морды такія, што афіцыянткі дзівіліся: «Дзядзечкі, адкуль вы? У нас тут з талерак усё з'ядаюць».

Нарэшце завезлі ва Уладзімірскую вобласць, Мурам. Ссадзілі з цялятніка, пастроілі ў калону. Сэйчас — адкуль з'явілася — ахова з аўтаматамі. Ну, кажам, папаліся.

Пагналі за горад, там барак, як кароўнік доўгі, нары. Спалі на голых дошках, у лазню раз на дзесяць дзён пад аўтаматамі ганялі, ежа — трэцяя катэгорыя.

Людзі там рэзаліся — нажом ці брытвай: пяць гадоў у палоне мучыўся, а цяпер тут яшчэ трэба.

НКВД ПАЧАЛО ПРАВЯРАЦЬ. Начныя допыты былі з такой лаянкай, што я не чуў у вёсцы ніколі. Прывялі мяне — а энкавэдыст сядзіць такі страшны, чорны, у акулярах, і ўсё піша. Напісаў, хто я, адкуль, чым рабіў у немцаў, — і калі гляне на мяне!

А Я ЎЗЯЎ ДЫ ЗАСМЯЯЎСЯ. Ён узлаваўся: чаго смяешся — зараз будзеш плакаць! А я думаў: чаго мне баяцца. Ні я ў арміі, ні ў паліцыі не быў, дзіцём мяне забралі на работу — што я вінны?

Хоць добра, што я папаўся з тымі, з кім працаваў на параходзе. Мы адзін за аднаго паручыліся.

Месяц чакаў пасля допыту. Пасля загадалі рэчы ў капцёрку





**Калегі Мікалая па качагарцы**: невядомы, Міша і, магчыма, той самы Вілі з татуіроўкай арла на ўсе грудзі.



**Мікалай Асаевіч (злева) з Анцюком, якога ён угаварыў вяртацца дамоў.** 1946 год, Гусеўскае торфапрадпрыемства.

здаць і павезлі ў балота. Гусь-Хрустальны горад, Гусеўскае торфапрадпрыемства.

А ДОЖДЖ! А ПАЛАТКІ ПА ДВАЦЦАЦЬ ЧАЛАВЕК ЖЫЦЬ! І норма: за дзень 16 кубаметраў торфу насілкамі знесці. Па балоце, пад дажджом. А я ў касцюме, у туфлях добрых! Ні адзежы рабочай, ні абутку ж не далі.

ЕЛІ БАЛАНДУ, РЫБУ СМЯРДЗЮЧУЮ. КРАЛІ БУЛЬБУ МЕРЗЛУЮ, ЕЛІ, АД ЯЕ І РВОТА, І ПАНОС. Як зробіш норму — 100 грам хлеба болей даюць і кашы. Не плацілі. Пасля сезон



**Украінец Засядзька з Кіраваградчыны**, які пераажыў голад 1933-га і не верыў бальшавіцкай агітацыі.

скончыўся, вольнанаёмныя мардвінкі ды чувашкі паз'язджалі, і нас у барак перасялілі, дзе яны жылі. Там і зімавалі пры жалезнай печцы...

І работа была іншая: вузкакалейку будаваць, каб той торф вазіць у Гусь-Хрустальны. Разбіралі рэйкі, шпалы пераносілі рукамі. На плячы дагэтуль гузак ад шпалаў.

Адробім свае змены — і ў клуб ходзім, з вольнанаёмнымі дзеўкамі знаёмімся. Глядзім, у каторай большы мяшок з харчамі... Я сябраваў з афіцыянткай са сталовай, яна мяне падкормлівала.

Праз год далі два тыдні водпуск.

ПРЫЕХАЎ ДАМОЎ — ВЁСКА СПАЛЕНАЯ, ЗЯМЛЯНКІ ЗАМЕСТ ХАТ. Але не захацеў варочацца. Добра, сусед быў знаёмы з мядзельскім доктарам... Далі збожжа пуд — доктар напісаў даведку, што ў мяне сухоты. Бо ўжо з НКВД мяне торгалі, каб ехаў у Гусь-Хрустальны ў 24 гадзіны. Паказаў даведку — адчапіліся.

ДАВАЛІ І ЗОЛАТА ДОКТАРУ, АЛЕ ЁН НЕ ЎЗЯЎ.

Застаўся я дома. А тут і Іван з Косцем вярнуліся. Яны з Нарвегіі, як рэпатрыяваліся, папалі ў армію, у Запаляр'е. Спаткаліся мы. Хто б паверыў, што, праз такое прайшоўшы, жывыя застанёмся? ◆

**Запісаў Андрэй Скурко**

**Лякин, Владимир. Последние защитники Великого Княжества Литовского.** — Минск: Цимберов Р. М., 2019. — 214 с.

Выйшла багата ілюстраванае выданне «Апошнія абаронцы Вялікага Княства Літоўскага», якое распавядае пра жаўнераў, структуру, абмундзіраванне, узбраенне і баявы шлях дзвюх апошніх армій Вялікага Княства Літоўскага, сцёртага з палітычнай карты Еўропы ў 1795 годзе пры апошнім падзеле Рэчы Паспалітай і на непрацяглы час аднаўленага ў 1812 годзе Напалеонам.

Аўтар кнігі Уладзімір Лякін — даследчык з больш чым 20-гадовым стажам, які дагэтуль напісаў і выдаў шэраг навукова-папулярных кніг па гісторыі вайны 1812 года, лаўрэат прэміі імя Францішка Багушэвіча. Кнігу аформіў мастак Аляксандр Прыбылоў, які працуе ў галіне ваеннай ілюстрацыі.

Дадаткова ў рамках праекта, каб ахапіць не толькі ваенную гісторыю, але і культурную спадчыну, выдадзены набор паштовак (15 штук) з аўтарскімі рэцэптамі Алены Мікульчык. Тут прадстаўленыя стравы з гісторыяй — тыя, якія каштавалі і любілі героі падзей, апісаных у кнізе.

Набыць кнігу можна ў мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, 72), гандлёвым цэнтры **«Купалаўскі»** (пад Кастрычніцкай плошчай у Мінску, крама 41–42) і на сайце **Kniger.by**.



# Твары канакрадаў

**Нацыянальны гістарычны архіў апублікаваў у сваім фэйсбуку фрагмент картатэкі злачынцаў, складзены віцебскай паліцыяй у пачатку ХХ стагоддзя. Самае распаўсюджанае злачынства не толькі той пары, а ўсяго мінулага тысячагоддзя — канакрадства.**

При куплі каня ў часы Вялікага Княства важна было, каб *веры годны* сведка з боку прадаўца пацвердзіў: усё добра, конь не скрадзены. Пасля здзелку фіксавалі ў судовай кнізе, давалі і апісанне каня — на выпадак, калі той прападзе. Праўда, на такі выпадак і ў канакрадаў былі свае прыёмы і свае спецыялісты. Яны перафарбоўвалі коней, падпілоўвалі зубы, змянялі форму капытоў...

Да нашага часу дайшоў рамантычны арэол, які склаўся вакол занятку канакрадаў. Вольнае жыццё, ні абавязкаў, ні сямейных праблем — хто б так не хацеў? Да таго ж падкупляе, што такія злодзеі мелі пэўны кодэкс і да коней ставіліся з павагай. Гэта цяпер скрадзенага каня могуць здаць на мяса, але раней — ні ў якім разе.

На справе, аднак, у занятку канакрадаў рамантыкі было мала. Канакрадства цяжка біла па вяскоўцах, ахвяры мусілі кідаць сваю зямлю і сыходзіць на заробкі ў гарады: без каня абрабляць гектары не было як. Таму, злавіўшы такога злодзея, вяскоўцы не стрымліваліся. Яму залівалі горла граззю, саджалі на палю, білі і падпальвалі — і гэтак было яшчэ не так даўно, у XIX стагоддзі.

Пра ўспрыманне канакрадства як аднаго з найбольш небяспечных злачынстваў яскрава сведчыць фрагмент твора Аляксандра Купрына «Паядынак», дзе салдат на патрабаванне камандзіра завучана пералічвае прадстаўнікоў гэтай крымінальнай прафесіі сярод найгалоўнейшых унутраных ворагаў расійскай дзяржавы, нароўні з вальнадумнымі студэнтамі і нелаяльнымі нацыянальна-канфесійнымі меншасцямі.

## Злодзею залівалі ў горла гразь, саджалі на палю, прывязвалі і падпальвалі

Паводле сярэднявечных законаў — «Рускай праўды», — у злоўленага канакрада канфіскоўвалі маёмасць, яго выганялі з абшчыны, а пазней сталі караць рабствам. Першы зборнік законаў Вялікага Княства, Судзебнік Казіміра 1468 года, быў


PHOTO BY JOSEPHINE AMALIE PAYSEN ON UNSPLASH

### Кого мы называем врагами у-ну-трен-ни-ми?

— Архипов! Кого мы называем врагами у-ну-трен-ни-ми?.. Н-ну! Долго я тебя буду ждать, пока ты соберешься? — начинает сердиться Сероштан.

— Нутренними врагами... врагами...

— Не знаешь? — грозно воскликнул Сероштан и двинулся было на Архипова, но, покосившись на офицера, только затряс головой и сделал Архипову страшные глаза. — Ну, слухай. Унутренними врагами мы называем усех сопротивляющихся закону. Например, кого?.. — Он встречает искательные глаза Овечкина. — Скажи хоть ты, Овечкин.

Овечкин вскакивает и радостно кричит:

— Так что бунтовщики, стюденты, конокрады, жиды и поляки!

*Аляксандр Купрын. «Паядынак», 1906 год.*



**Александровіч Васіль.** Цыган, прыпісаны да сялян Магілёўскай губерні

да канакрадаў строгі: смерць праз павешанне.

Пазней законы сталі трохі гуманнейшыя. У Статуце 1588 года агаворваецца, што смяротная кара пагражае злодзею толькі за крадзеж на суму, большую за 4 капы (240 грошаў). Кошт коней складаў ад 40 (за *«сяголетняе жарабя»*) да 120 грошаў (за дарослага каня). Каб патрапіць пад смяротнае пакаранне, трэба было скрасці двух дарослых коней, за крадзеж аднаго давалі штраф або прызначалі адпрацоўку. Калі крадзеш паўторна — бізуны. Напрыклад, селянін Томаш Звяранскі скраў каня ў чарнігаўскага суддзі. Тры з паловай месяцы ішло следства, селянін прызнаў віну і атрымаў публічнае пакаранне — 200 удараў «лозамі».

Пры гэтым для шляхты Вялікага Княства забраць у суседа каня і спустошыць прыпасы было не тое што звычаем — часткай культуры. З-за такіх наездаў і разборак адбываліся бясконцыя суды, але заканчваліся яны ў найлепшым выпадку кампенсацыямі.

Законы Расійскай імперыі да канакрадаў былі жорсткімі: турма або катарга на 4–6 гадоў. Аднак раскрывальнасць такіх злачынстваў была вельмі малой — 7–17% (у гэтыя працэнты і патрапілі няшчаснікі з архіўных фота).

Канакрадаў затрымлівалі часцей, але кожнага чацвёртага адпускалі: не было доказаў. Калі адразу не кінуцца ў пагоню, доказы знайсці было цяжка: канакрады працавалі групамі і праз кожныя 20–30 км перадавалі каня саўдзельніку. Сярод канакрадаў была свая спецыялізацыя: хтосьці краў, хтосьці пераганяў, хтосьці перакоўваў і прадаваў, а нехта прапаноўваў свае паслугі былым гаспадарам — давайце, маўляў, паспрыяю ў выкупе...

У канцы XIX стагоддзя з'явілася адмысловая пасада паліцэйскага ўрадніка, і сітуацыя з затрыманнем канакрадаў трохі палепшала. Ураднік пільнаваў злачынцаў і лавіў на гарачым. За год на Віцебшчыне і Міншчыне са 132 скрадзеных коней былі знойдзеныя 104. Затрымалі тады 69 канакрадаў. Найбольш працавітым следчым, аднак, пагражала помста. Напрыклад, у 1908 годзе віцебскія канакрады выманілі паліцэйскага ўрадніка на хутар Соснава, паведаміўшы, нібы там яго чакаюць скрадзеныя коні. Калі ўраднік дабраўся да хутара, на яго накінуліся трое і забілі.

У XXI стагоддзі прафесія не сышла ў нябыт: нібы часы прыйшлі новыя, а коні, бывае, прападаюць і цяпер. Вось якую эпічную гісторыю — ну нібы з XVI стагоддзя! — публікавала «Звязда» ў 2017-м:

«Двое жыхароў в. Русіна, што пад Баранавічамі, укралі ў Лунінецкім раёне пару коней і вярталіся ў прыўзнятым настроі дамоў. Але дарога была далёкай, і адзін конь нечакана закульгаў на Ганцаўшчыне. У в. Кукава зладзеі ціха ўзялі з хлява ў аднаго гаспадара здаровага каня, а яму пакінулі кульгавага. Але гэтага канакрадам здалося мала, і вечарам таго ж дня з двара на станцыі Малькавічы яны выкралі і воз. Праўда, ад'ехаць зладзеям далёка не ўдалося. Міліцыя па гарачых слядах неўзабаве іх дагнала». ◆

**Паўліна Скурко**



**Місун, Сцяпан Ягораў**, гарадоцкі мешчанін. Канакрад.

**Толькі ён быў не крывасмокам, а вялікім князем і каралём. Звалі яго Уладзіслаў Ягайла. Уся справа ў тым, што Ягайла быў рыцарам Ордэна Дракона, як і бацька легендарнага румынскага «вампіра». Пра Улада Дракулу піша Улад Швядовіч.**



# ДРАКУЛА КІРАВАЎ Вялікім Княствам Літоўскім?

## Што яшчэ за Ордэн Дракона?

*Societas Draconica,* ці Ордэн Дракона, — гэта рыцарскі ордэн, які з'явіўся ў 1408 годзе. Заснаваў яго кароль Венгрыі Жыгімонт I. Місіяй ордэна была абарона венгерскага каралеўскага дома і каталіцкай веры ды царквы.



Рэканструкцыя сімвала Ордэна Дракона па вышыўцы, што захоўваецца ў Баварскім нацыянальным музеі.

Ёсць меркаванні, што Жыгімонт стварыў ордэн у тым ліку і для таго, каб згуртаваць сваіх прыхільнікаў і атрымаць падтрымку ў барацьбе за еўрапейскія манаршыя пасады.

Па легендзе, сакрэтны Ордэн Дракона існаваў і раней і насіў імя Святога Георгія. Яго нібыта заснаваў Мілаш Абіліч, сербскі рыцар і нацыянальны герой, вядомы тым, што — ізноў жа па легендзе — засёк асманскага султана Мурада падчас бітвы на Косавым полі, дзе біліся сербы з туркамі ў 1389 годзе. Самога Абіліча забіла ахова Мурада. Паводле гэтай версіі, кароль Жыгімонт толькі аднавіў ордэн.

Хто быў заснавальнікам насамрэч, невядома, але статут Ордэна Дракона распрацавалі ўжо пры Жыгімонце. Аўтарам стаў канцлер Эберхард, епіскап румынскага горада Арадзі.

Папа рымскі Грыгорый XII падтрымаў заснаванне ордэна.

Сімваламі ордэна сталі, само сабой, дракон і крыж. Выява дракона, які абвівае хвастом сваю шыю, прысутнічала на медальёнах рыцараў.

Адным з першых членаў новага Ордэна Дракона стаў Стэфан Лазаравіч, сербскі ўладар. У некаторых легендах расказваецца, што Лазаравіч быў адным з 12-ці рыцараў першага ордэна, заснаванага Абілічам. Нібыта з 12-ці рыцараў пасля бітвы на Косавым полі выжыў толькі ён.

Лічыцца, што першапачаткова ў ордэне было 22 рыцары (плюс сам Жыгімонт і ягоная жонка). Склад быў вельмі разнастайным: некалькі ваяводаў, суддзя, віцэ-кароль, але не толькі яны. Уваходзілі ў ордэн і канюшыя ды стольнікі караля Жыгімонта.

Пазней колькасць членаў ордэна павялічвалася. Жыгімонт запрашаў у яго і манархаў-суседзяў.

**Улад III Цэпеш, граф Дракула.** Мянушка Улада — Цэпеш — па-румынску абазначае таго, хто саджае на па́лі. 1560 год (копія з прыжыццёвага партрэта)

## Хто ўвогуле гэты Жыгімонт?

Венгерскі кароль Жыгімонт I, прадстаўнік славутай дынастыі Люксембургаў, нарадзіўся ў 1368 годзе. Ягонымі бацькамі былі імператар Святой Рымскай імперыі Карл IV і Лізавета Памеранская, чацвёртая жонка Карла.

За 69 гадоў свайго жыцця Жыгімонт паспеў пазаймаць розныя еўрапейскія манаршыя троны. Ён быў і імператарам Святой Рымскай імперыі, і каралём Ламбардыі, і каралём Германіі, і каралём Чэхіі. Але галоўнае — ажно 50 гадоў Жыгімонт быў каралём Венгрыі. Як і належала сярэднявечнаму каралеўскаму нашчадку, Жыгімонт усё жыццё змагаўся за ўладу, плёў інтрыгі, развязваў войны сам і ўдзельнічаў у чужых.

Яшчэ зусім дзіцём Жыгімонт заручыўся з Марыяй Анжуйскай, дачкой Людовіка Вялікага, караля Польшчы, Венгрыі і Харватыі. Пазней, калі Людовік памёр, Марыя ўзначаліла Венгрыю і Харватыю, а яе сястра Ядзвіга — Польшчу. Маці Марыі пачала планаваць шлюб дачкі з братам французскага караля, і нават было абвешчана пра заручыны. Але Жыгімонт з войскам увайшоў у Верхнюю Венгрыю і справіў вяселле з Марыяй. Пазней маці Марыі забілі, і смерць яе звязвалі з іменем Жыгімонта. Маўляў, яму не падабаўся ўплыў нябожчыцы на дачку.

Пасля Жыгімонт амаль увесь час вёў войны. Ён ваяваў з харватамі і баснійцамі, хадзіў у крыжовы паход супраць туркаў... Але не сказаць, каб надта паспяхова. У рэшце рэшт ягоныя паразы прывялі да апазіцыі яму баронаў уласнай дзяржавы. Але ў гэтай барацьбе Жыгімонту якраз пашчасціла, і пасля адной з перамог ён нібыта і выпрашыў заснаваць новы рыцарскі ордэн.



**Жыгімонт Люксембургскі — заснавальнік Ордэна Дракона.** Пасмяротны партрэт, напісаны Альбрэхтам Дзюрэрам.

## А прычым тут Ягайла?

З цягам часу Жыгімонт пашырае колькасць членаў Ордэна Дракона. Сярод тых, каго Жыгімонт запрасіў у ордэн, былі нават наш князь Вітаўт з жонкай, іх прынялі ў ордэн 3 жніўня 1429 года. Такім чынам імператар Святой Рымскай імперыі выказваў павагу да Вітаўта і спадзяваўся на яго дапамогу ў сваіх бясконцых войнах.

У тым жа годзе членам Ордэна Дракона стаў Уладзіслаў Ягайла, стрыечны брат Вітаўта. Ягайла быў шчыльна звязаны і з самім заснавальнікам ордэна: першая яго жонка, Ядзвіга, была сястрой Марыі Анжуйскай, першай жонкі Жыгімонта.

Цікава, што падчас Вялікай вайны Ягайлы з Тэўтонскім ордэнам Жыгімонт быў не на баку польскага караля. Спачатку хітры манарх заключыў дамову з тэўтонцамі. Тыя абяцалі вялікія грошы за тое, каб войскі Жыгімонта атакавалі поўдзень Польшчы. Вось толькі гэтага не адбылося.



**Каранацыя Ягайлы.** Дэталь трыпціха ў кракаўскім саборы. 1475–1480 гады.

Такімі перспектывамі была вельмі незадаволеная венгерская арыстакратыя, да якой Жыгімонт выпрашыў прыслухацца. Калі б не яна, венгерскі кароль удзельнічаў бы ў Грунвальдскай бітве на баку крыжакоў.

## А да чаго тут Дракула?

Валашскі гаспадар Уладзіслаў II, васал Жыгімонта, таксама быў членам Ордэна Дракона. Менавіта праз членства ў ордэне Уладзіслава пачалі называць Дракулам. Пайшло гэта ці то ад лацінскага *draco*, ці то ад румынскага *dracul* — «дракон».

А сын Уладзіслава, таксама Уладзіслаў, і быў тым самым легендарным Уладам Цэпешам, аматарам здзекаў і саджання людзей на па́лі. Нам ён вядомы як Улад Дракула, прататып легендарнага персанажа вампірскіх гісторый. Лічыцца, што імя Дракула паходзіць ад румынскага *draculea* — «сын дракона».

Такім чынам, Уладзіслаў Ягайла, які быў членам ордэна, таксама з поўным правам мог называцца Уладзіславам Драконам, ці па-румынску Дракулам.

Цікава, што сёння «дракула» па-румынску азначае зусім іншае. Гэта ўжо не дракон, гэта — д'ябал. Ёсць версіі, што такое значэнне слова *dracul* атрымала менавіта пасля зверстваў «драконавага сына» Уладзіслава Цэпеша. ◆

# Як выбіралі герб БССР


ОБ'ЯВЛЕНИЕ.

НА ОСНОВАНИИ ПОСТАНОВЛЕНИЯ ПРЕЗИДИУМА ЦИК ОТ 22-ГО ФЕВРАЛЯ С. Г.

Секретариат ЦИК ОБ'ЯВЛЯЕТ

КОНКУРС

НА ЛУЧШИЙ ПРОЕКТ

ГОСУДАРСТВЕННОГО ГЕРБА

Белорусской Советской Социалистической Республики.

Герб должен характеризовать собою особенности Белорусской республики и связь ее с Союзом Советских Социалистических Республик.

3 лучших проекта будут премированы:

I-я премия—150 черв. руб.

II-я » —100 »

III-я » — 50 »

Проекты должны быть представлены в Секретариат ЦИК не позже 5-го марта с. г.

Секретарь ЦИК БССР СТАШЕВСКИЙ.

**У п'янкой атмасферы беларусізацыі нацыянал-камуністы намагаліся прыдумаць беларускі па духу сімвал, але ім далі па руках. Піша кандыдат гістарычных навук Уладзімір Ляхоўскі.**

У 1924 годзе быў зацверджаны герб СССР. Пасля таго атрымалі права займець новую сімволіку і рэспублікі. Але яна абавязкова мусіла адлюстроўваць непарыўную сувязь з цэнтрам праз серп і молат, чырвоную зорку, пралетарскі лозунг.

Нацыянальныя матывы дапускаліся хіба ў выглядзе прыродных і гаспадарчых аб'ектаў. Тым не менш нацыянал-камуністы Закаўказзя дабіліся, каб на іхніх гербах з'явіліся важныя гістарычныя сімвалы. Арарат на гербе Арменіі прывёў да міжнароднага скандалу, паколькі гара знаходзіцца на турэцкай тэрыторыі. А на гербе Азербайджанскай ССР разам

**Ганарар мастаку склаў 6625 даляраў. Чарвякоў хацеў арыгінальнасці, але партыя не дала**

## Вырашылі замяніць «савет» на «раду»: за што знялі Чарвякова

У 1924 годзе на кароткі час афіцыйная назва Савецкай Беларусі была зменена на «Беларускую Ра́давую Сацыялістычную Рэспубліку». Слова «савет» замянялася словам «ра́да». Адпаведна змянілася абрэвіятура на старым гербе і сцягу: «Б.Р.С.Р.» замест «Б.С.С.Р.». Моўная «мікрарэформа» пацягнула за сабой апаратыўную замену службовых пасведчанняў. Новыя пасведчанні работнікаў органаў улады былі выкананыя па эскізах Генадзя Змудзінскага.

Кіраўніцтва партыі прыйшло ў шал. Для рускамоўнай партыйнай вярхушкі словы «ра́да», «ра́давы» асацыяваліся з дзейнасцю Беларускай Народнай Рэспублікі. І ніякія аргументы мовазнаўцаў пра неабходнасць ачышчэння беларускай мовы ад штучных русізмаў не падзейнічалі. Тое, што было натуральным для «радянської» Украіны, у БССР інтэрпрэтавалася як контррэвалюцыйны акт. Да пачатку 1925 года «саветы» вярнулі ў мову і на пячаткі.

Ішоў 1924 год, а не 1937-ы, нікога не расстралялі. Але Аляксандр Чарвякоў быў зняты з пасады старшыні ўрада. За ім засталося, праўда, крэсла «ўсебеларускага старасты» (старшыні ЦВК БССР), аднак палітычная вага была куды меншай. Кіраўніком урада — Савета народных камісараў — быў прызначаны былы наркам па вайсковых справах Язэп Адамовіч, «чалавек надзейны, але тупы», як ахарактарызаваў яго дарадца Сталіна Станіслаў Пясткоўскі. Кіраўнік Сакратарыята ЦВК БССР Алесь Сташэўскі таксама на пасадзе не ўтрымаўся: у ліпені 1924-га ён быў пераведзены на працу ў Полацк. Старшыня Інбелкульта, былы беларускі эсэр Сцяпан Некрашэвіч атрымаў вымову, а былому сябру кампартыі Генадзю Змудзінскаму (выключаны ў 1921 годзе) больш праектаў і эскізаў, звязаных з афіцыйнай сімволікай, ніколі не замаўлялі. Цікава, што пацярпелыя ўваходзілі ў склад журы па выбары герба, менавіта яны ў 1924-м і выбралі праект Змудзінскага.




**Першы герб БССР** адрозніваўся ад расійскага каласкамі.

з зоркай красаваўся паўмесяц як сімвал прыналежнасці да ісламскага і цюркскага свету.

Прыклад закаўказцаў натхняў беларусаў. Іх ранейшы герб 1919 года цалкам паўтараў расійскі, толькі пшанічныя каласкі ў нашым варыянце замянілі на жытнія.

**На месца Чарвякова быў прызначаны Язэп Адамовіч, «чалавек надзейны, але тупы», як ахарактарызаваў яго дарадца Сталіна**

### Герб у стылі мадэрн

Летам 1924 года пачалася палітыка беларусізацыі, а конкурс на новы герб абвясцілі яшчэ ў лютым. І ўжо вясной журы, у якое ўваходзілі чыноўнікі, міністры і навукоўцы, вызначыла тройку найлепшых. Два з трох варыянтаў належалі мастаку Генадзю Змудзінскаму, 27-гадоваму ўраджэнцу Іркуцкай губерні. На жаль, да нашых дзён захаваўся эскіз толькі аднаго.

Герб складаўся з традыцыйнага геральдычнага шчыта ў бел-чырвона-белых колерах. У верхняй частцы было размешчана прамяністае сонца ў беларускім народным стылі на чорным фоне, які сімвалізаваў беларускую глебу. Ніжэй — галінкі дуба і сцябліны лёну. У верхнім і ніжнім сегментах шчыта — два снапы жыта і два дубы.

Усе агульнасавецкія атрыбуты: серп і молат, абрэвіятура СССР, традыцыйны пралетарскі лозунг на чатырох традыцыйных мовах Беларусі — размяшчаліся па-за межамі цэнтральнай кампазіцыі і ўспрымаліся як другасныя.

Рашэнне рэспубліканскага журы стала нечаканасцю для мясцовага бальшавіцкага кіраўніцтва і яўна разыходзілася з яго планамі. ЦК КП(б)Б прымусіў ануляваць вынікі конкурсу і схаваць ад грамадскасці ўсю інфармацыю. Пытанне новага герба завісла на паўтара года.

Толькі ў пачатку лістапада 1925-га ЦВК БССР прыняў пастанову: «Папярэдні праект не зацвярджаць. Даручыць Інстытуту беларускай культуры ▶




НАЦЫЯНАЛЬНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ БЕЛАРУСІ

**Генадзь Змудзінскі прапанаваў два варыянты дзяржаўнага герба.** Але ў фондах Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі захаваўся эскіз толькі аднаго.




**1937 год.** Скарэктаваны дэвіз: «Пролетарыі ўсіх краін, **еднайцеся**!» (бальшавікі пабачылі шкодніцтва ў спалучэнні літар «яд» у пачатку слова).




**1938 год.** З герба знятыя надпісы па-польску і на ідыш. Дубовая галінка заменена жытнімі каласамі. Зменена канфігурацыя сонечных праменяў.




**1949 год.** Каробачкі лёну замененыя на кветкі (мастак Іван Дубасаў).




**1958 год.** Паводле новых правіл арфаграфіі, пралетарскі дэвіз па-беларуску стаў пісацца як «Пр**а**летарыі ўсіх краін, **я**днайцеся!».




**1981 год.** Падкарэктаваны малюнак кветак лёну і сонечных праменяў. Срэбны колер сярпа і молата стаў залатым.




▸ больш адказна паставіцца да гэтага пытання». Цяпер распрацаваць новы герб мусілі супрацоўнікі Інбелкульта, папярэдніка Акадэміі навук. Палітычная адказнасць клалася на Наркамат асветы.

### Ганарар — 6 625 даляраў

На першую палову 1927 года было запланавана прыняцце новай Канстытуцыі БССР. Герб патрэбен быў тэрмінова. Памятаючы, чым скончыліся спробы 1924 года, урад адхіліў ад справы Інбелкульт і даручыў яе Наркамату асветы. Наркам Антон Баліцкі мусіў «у месячны тэрмін падаць на зацвярджэнне новы праект герба БССР». Настойліва рэкамендавалася, каб у конкурсе ўзялі ўдзел не толькі беларускія аўтары, але мастакі з усяго Саюза.

Стваральніку герба паабяцалі ганарар у 500 новых савецкіх рублёў (па сённяшнім курсе — 6 625 даляраў). І ўжо праз месяц Наркамат асветы меў на руках каля 100 праектаў. Працы на конкурс даслалі вядомыя беларускія і расійскія майстры: Міхаіл Філіповіч, Георгій Башкін, Ісаак Лейзераў, Міхаіл Эндэ... Плакатыст Павел Гуткоўскі заявіў аж 8 эскізаў. Але абсалютны рэкорд паставілі выкладчыкі і навучэнцы Віцебскага мастацкага тэхнікума: яны накіравалі ў Мінск 34 праекты.

Не абышлося без выкарыстання «адміністратыўнага рэсурсу». Выкладчык віцебскага тэхнікума Аляксандр Грубэ (аўтар першага ў Саюзе прыжыццёвага помніка Леніну ў Краснаполлі) падаў свае 4 праекты праз добрую знаёмую, Соф'ю Шамардзіну, якая затым перадала іх мужу — кіраўніку ўрада Язэпу Адамовічу.

Але перамог не Грубэ, а ягоны калега Валянцін Волкаў — будучы народны мастак БССР, найбольш вядомы па карціне «Мінск 3 ліпеня 1944 года».

### Чырвоная стужка без белых аблямовак

Волкаўскі варыянт герба, хоць і нагадваў агульнасавецкі, не абышоўся без «нацдэмаўскіх матываў». Традыцыйная чырвоная стужка мела бел-чырвона-белы кант, а абрэвіятура БССР была выканана ў старажытнаславянскім стылі.

На пасяджэнні ўрада ў лістападзе 1926 года разгарэлася вострая дыскусія. Язэп Адамовіч не адважыўся прыняць канчатковае рашэнне і прапанаваў пакінуць тры варыянты. Апошняе слова было за ЦК КП(б)Б. Апошні, здавалася, варыянт зацвердзілі 30 сакавіка 1927 года.

Але быў не канец: 6 красавіка мясцовае бальшавіцкае кіраўніцтва ўнесла праўкі, якія паставілі крыж на самабытным гербе. «Стыль літараў у абрэвіятуры БССР змяніць на больш просты; знішчыць элементы старажытнаславянскай альфабэты». 11 красавіка 1927 года быў зацверджаны новы герб, максімальна пазбаўлены нацыянальнай адметнасці. Са зменамі ён пратрымаўся да 19 верасня 1991 года і быў вернуты ў 1995-м. ◆

Мастак **Валянцін Волкаў** (1881–1964) — рускі, нарадзіўся ў горадзе Ялец Арлоўскай губерні. І дзед, і бацька былі прафесійнымі мастакамі, а пасля імі сталі ягоныя сын і ўнук. У 1919 годзе Волкаў пераехаў у Віцебск, у 1929-м — у Мінск. З таго часу ягонае жыццё было звязана з Беларуссю. Самастойна авалодаў беларускай мовай, быў у добрых адносінах з нацыянал-камуністамі Язэпам Адамовічам, Язэпам Дылам, Аляксандрам Чарвяковым, Змітром Жылуновічам, Усеваладам Ігнатоўскім.
Не ўсе акалічнасці біяграфіі Волкава высветленыя. Так, падчас Другой сусветнай вайны ён заставаўся ў акупаваным Мінску, кантактаваў з Беларускім навуковым таварыствам. Тым не менш у пасляваенныя гады мастак не быў рэпрэсаваны, больш за тое — выкладаў у Мінскім мастацкім вучылішчы і Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. А ў 1955 годзе яму было нададзена ганаровае званне Народнага мастака БССР.

# «Прымі прывітанне, якое прыносіць Табе, правадыр, беларускі народ...»




**Плакат з першай паласы святочнага нумара газеты «Звязда» за 11 ліпеня 1939 года.**

## Як беларусы пісалі сваё «Пісьмо вялікаму Сталіну»

**Летам 1936 года быў створаны адзін з найбольш знакамітых артэфактаў беларускай таталітарнай культуры — «Пісьмо беларускага народа вялікаму Сталіну». Пра публічныя і ценявыя бакі яго ўзнікнення піша доктар гістарычных навук Аляксандр Гужалоўскі. Чытаючы, не перастаеш здзіўляцца, да якіх неймаверных прыніжэнняў прывучыла савецкая сістэма цэлыя народы.**

Стварэнню «Пісьма беларускага народа вялікаму Сталіну» папярэднічала з'яўленне ў лютым 1936-га ў газеце «Літаратура і мастацтва» аналагічнага твора грузінскіх паэтаў, складзенага па ініцыятыве тагачаснага сакратара ЦК КП(б) Грузіі Лаўрэнція Берыі і перакладзенага на беларускую мову Андрэем Александровічам, Петрусём Броўкам, Пятром Глебкам і Кандратам Крапівой. Сталін ацаніў падарунак, бо студэнт Тыфліскай духоўнай семінарыі Іосіф Джугашвілі ў свой час і сам пісаў някепскія вершы.

### Найлепшых паэтаў вазілі на дачу

Вершаваны ліст грузінскіх паэтаў стаў штуршком для стварэння падобных твораў у іншых рэспубліках. Згодна з правіламі ідэалагічнай гульні, «ініцыяваць» іх павінны былі працоўныя масы. У Савецкай Беларусі з падобнай «ініцыятывай» у маі 1936-га выступілі калгаснікі Бабруйскага раёна, якія прапанавалі скласці паэтычны зварот да правадыра, прычым пазначылі і канкрэтную дату, да якой ён павінен быць скончаны, — 11 ліпеня. На самай справе, гэты праект ад пачатку да канца курыраваў першы сакратар ЦК КП(б)Б Мікалай Гікала. ▶


NAVINY.BY

**Мікалай Гікала з жонкай Наталляй** на адкрыцці Дома ўрада ў Мінску.

Успаміны мастака Яўгена Ціхановіча дазваляюць нам у агульных рысах рэканструяваць працэс вырабу гэтага калектыўнага твора. У канцы мая 1936 года была створана аўтарская група, куды ўвайшлі Янка Купала, Якуб Колас, Андрэй Александровіч, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка і Ізі Харык. Кіраўніком групы прызначылі не класікаў, а найбольш палітычна падрыхтаванага Александровіча.

Кожны з паэтаў распрацоўваў уласную тэму. Напрыклад, Янка Купала апісваў цяжкае дарэвалюцыйнае жыццё беларусаў і вершаваў «песні жальбы». Усё напісанае падлягала жорсткай цэнзуры, у выніку якой радкі касаваліся дзясяткамі. Перыядычна ўдзельнікаў групы прывозілі на лецішча ЦК, дзе партыйныя кіраўнікі слухалі напісаныя кавалкі, давалі па іх заўвагі і парады.

### Падпісаў — давай грошы!

Адразу пасля ўхвалення партыйным кіраўніцтвам вершаванага тэксту, якому далі назву «Пісьмо беларускага народа вялікаму Сталіну», пачалося яго абмеркаванне і падпісанне ў працоўных калектывах рэспублікі. Галоўнай мэтай гэтай кампаніі было ўмацаванне народнай веры ў правадыра. Але была і больш прагматычная мэта. З выкарыстаннем мабілізацыйных магчымасцяў паэзіі меркавалася размясціць дзяржаўную ўнутраную пазыку чацвёртага года другой пяцігодкі. Людзі, ставячы подпіс пад «Пісьмом...», адначасова адмаўляліся ад адна-, двух- ці трохдзённага заробку ў абмен на аблігацыі пазыкі. Для рэалізацыі гэтай палітыка-эканамічнай кампаніі на месцах былі выдзеленыя адказныя раённыя работнікі — партыйныя і камсамольскія функцыянеры, начальнікі аддзелаў міліцыі, загадчыкі фінаддзелаў.

Мы можам уявіць, як гэта адбывалася, дзякуючы дакладной на імя Гікалы, складзенай па гарачых слядах загадчыкам сельгасаддзела ЦК КП(б)Б Аляксандрам Картуковым. Першая частка дакумента мае відавочна публіцыстычна-літаратурны характар, у ёй чытаецца жаданне партыйнага чыноўніка дагадзіць аўтару і кіраўніку праекта. Картукоў сцвярджае, што сяляне ў цэлым ахвотна падпісваюць ліст, і ілюструе гэта кранальнымі ў сваёй прастаце і шчырасці прыкладамі. У калгасе «Новае жыццё» Уздзенскага раёна калгасніцы-стаханаўкі, 72-гадовая Е. Кароль і 56-гадовая М. Кароль, на сходзе нібыта заявілі, што «ў лісце паказаны яшчэ не ўсе дасягненні, на самай справе іх значна больш», і падпісаліся на 50 рублёў. А 65-гадовую непісьменную калгасніцу Хайкіну з калгаса «Другая пяцігодка» Мсціслаўскага раёна дзеля далучэння да вялікай справы нібыта спецыяльна вучылі распісвацца.

### «Лепш падпісаць ліст цару, чым Сталіну»

Другая частка дакладной Картукова зафіксавала процілеглыя, пратэстныя настроі, што існавалі ва ўжо калектывізаванай беларускай вёсцы. Так, у калгасах «Чапаеў», «Германскі пралетарыят», «Каменка», а таксама імя Варашылава Круглянскага раёна падпісанне ліста было цалкам сарвана.

У калгасе «Гарадзец» Сенненскага раёна 40% прысутных на сходзе калгаснікаў адмовіліся падпісваць ліст.

## Усё падлягала жорсткай цэнзуры, радкі касаваліся дзясяткамі

У калгасе «Пуцілавец» Пухавіцкага раёна ад удзелу ў прапагандысцкім мерапрыемстве адмовілася ў поўным складзе адна паляводчая брыгада.

У калгасе «Другая пяцігодка» Віцебскага раёна са 120-ці чалавек, што прысутнічалі на сходзе, ліст падпісалі толькі 49. Астатнія пагадзіліся далучыцца да «вялікай народнай справы» толькі пасля з'яўлення на сходзе сакратара райкама партыі Башмачнікава.


ПІСЬМО БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ ВЯЛІКАМУ СТАЛІНУ Ў ВЕРШАХ ПЕРАКЛАЛІ ПАЭТЫ БССР:

ФОТА ВІТАЛЯ СКАЛАБАНА

**Апошні аркуш «Пісьма...» з аўтографамі аўтараў.**



ФОТА З ЧАСОПІСА «РАБОТНІЦА І КАЛГАСНІЦА БЕЛАРУСІ» (1936, № 14).

**Абмеркаванне «Пісьма...» на Мінскай абутковай фабрыцы імя Кагановіча.**

У калгасе імя Кірава Пухавіцкага раёна «кулак» С. Карнейчык заявіў, што «ў Германіі правадыры бываюць часцей сярод народу, чым у нас». Падчас абмеркавання ліста ў калгасе «Свабода» Старобінскага раёна калгасніца М. Сіваблоцкая заявіла: «Жанкі, хадземце дахаты, нам няма што падпісваць, бо мы ў гэтым не разбяромся. Хай мужыкі мяркуюць, трэба падпісваць ці не. Тут напісана шмат таго, чаго ў рэчаіснасці няма».

У калгасе імя Варашылава Кіраўскага раёна А. Канавалаў катэгарычна адмовіўся ад подпісу, сказаўшы: «Раней на хутарах нам жылося лепей, а цяпер у нас усё забірае дзяржава».

У саўгасе «Габрыэлева» Пухавіцкага раёна ліст адмовіліся падпісваць усе, за выключэннем дырэктара і яго намеснікаў.

У калгасе «Зарэчча» Хоцімскага раёна адмовіўся падпісваць ліст старшыня калгаса Пяцеркін, за што яго адразу ж знялі з працы.

У калгасе «X з'езд Саветаў» Смілавіцкага раёна калгаснік Н. Мазоўка казаў: «Бачыце, бальшавікі не дурні. Ім трэба цара абраць. Вось зараз збіраюць подпісы, а потым скажуць: вы яго, Сталіна, абралі».

Падобную думку выказала работніца калгаса «Парыжская камуна» Чэрвеньскага раёна М. Бялевіч: «Лепш падпісаць ліст цару, чым Сталіну».

У калгасе «Сцяг Кастрычніка» таго ж раёна калгаснік Ю. Няхай заявіў на сходзе: «Нам не трэба падпісваць ліст таварышу Сталіну, бо ён у нас забірае хлеб, мяса і малако».

Цытаваны дакумент не ўтрымлівае якой-небудзь лічбавай інфармацыі. Таму праверыць афіцыйна агучаную ў СМІ лічбу, што ў чэрвені – ліпені 1936 года «Пісьмо...» падпісалі 3 мільёны жыхароў БССР, немагчыма. Аднак згаданыя ў ім шматлікія факты адмовы ўдзельнічаць у прапагандысцкім мерапрыемстве дазваляюць казаць пра бездань, якая да 1936 года ▶

## Паэты пісалі, а народ не хацеў падпісваць

### Фрагменты «вялікага» твора

Прамову тваю, правадыр наш,
мы помнім
Пра ўзняты вялікі стаханаўскі рух,
Мы кожнае слова прачулі і сёння —
Адзін вырабляе, што некалі ўдвух.

Растуць нашы сілы за працаю плённай,
Не вырве ў нас вораг наш сталінскі руль,
І неба ў нас крэпасць сваёй абароны,
І ў небе ў нас ходзіць крылаты патруль.

Беларускі мужык чалавекам стаў звацца,
Ён пазбыўся навечна нядолі шнуроў.
Мы за год ад зямлі маем
столькі багацця,
Колькі мелі раней за дзясяткі гадоў.

Ходзяць нашы каровы, авечкі гуртамі,
І штогод усё большы прырост маладых.
Коні сытыя горача б'юць капытамі,
Першы маршал нам скажа —
мы сядзем на іх.

Мы поспехі нашы ў баях здабывалі,
Да радасці партыя нас прывяла,
Вучылі вялікія Ленін і Сталін,
А дружба народаў нам сілу дала.

Разбіць ланцугі і пазбыцца былога
Нам рускі рабочы, як брат, дапамог,
І наша краіна з братэрскай падмогай
Няспынна да новых ідзе перамог.

Яна ўпершыню расцвіла як дзяржава,
Ад шчырага сэрца ўдзячна табе,
Бо ты даў ёй гэта законнае права,
Бо ты ўзгадаваў і стварыў КПБ.

А гэтая партыя воляй адзінай
Здзяйсняла нязменна ўказы твае,
І наша балотна-лясная краіна
Сягоння ў чароўнай красе паўстае.

Праз тры рэвалюцыі, бітвы, паўстанні
Ты вёў разам з Леніным нашы рады...
Ты нашых садоў і палёў красаванне,
Ты наша вясна — дарагі правадыр.

Табе — наша радасць, любоў і адданасць,
Табе — пяе славу сусветная шыр.
Вядзі нас, любімы, табой мы з'яднаны,
Ты наша жыццё — дарагі правадыр!




ФОТА З ЧАСОПІСА «РАБОТНІЦА І КАЛГАСНІЦА БЕЛАРУСІ» (1937, № 19).

**Бабруйская вышывальніца Л. Лебель** працуе над тытульным аркушам «Пісьма…».

▶ ўтварылася паміж уладай і часткай прымусова калектывізаванага сялянства.

### Пісьменнікам — дом, а Купалу — лецішча

У святочны дзень 11 ліпеня 1936 года (гадавіна вызвалення Мінска ад польскіх войскаў у 1920 годзе тады адзначалася як дзяржаўнае свята) «Пісьмо беларускага народа вялікаму Сталіну» надрукавалі ў газетах і перадалі па радыё. «Пісьмо...» з'яўлялася эпічна-былінная стылізацыяй, пра што сведчылі ўжо першыя яго радкі:

З-пад пушчаў Палесся,
з-пад Нёмана, Сожа,
З-пад Пцічы, Дняпра і Заходняй Дзвіны,
З-пад стыку са светам
чужым і варожым,
Прыйшлі мы, Савецкай краіны сыны.

«Пісьмо...» ўтрымлівала ўвесь набор сталінскіх ідэалагем: шчасце фабрычна-заводскай і калгасна-саўгаснай працы, нянавісць да капіталістычнага атачэння, у першую чаргу да «фашысцкай Польшчы», звядзенне ўсёй беларускай гісторыі да класавай барацьбы і, канечне, абагаўленне народам правадыра. Гэтыя ідэалагемы былі ўвасобленыя ў прафесійна складзеных 97 чатырохрадковых (калектыўных) і 40 двухрадковых (купалаўскіх) строфах. Заканчваўся твор прыніжана-рабскім народным паклонам Сталіну:

Хай смутак вачэй тваіх добрых не росіць,
Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход.
Прымі прывітанне, якое прыносіць
Табе, правадыр, беларускі народ.

Да часу з'яўлення «Пісьма беларускага народа вялікаму Сталіну» ў друку Мікалай Гікала ўжо выканаў сваю частку негалоснай дамовы з яго аўтарамі. Праўленне Саюза пісьменнікаў атрымала 26 тысяч рублёў на будаўніцтва шасцікватэрнага дома. Яшчэ 25 тысяч рублёў былі выдаткаваныя на пабудову лецішча для народнага паэта Янкі Купалы.

### І найлепшыя вышывальніцы

Праект Гікалы не абмяжоўваўся стварэннем паэтычнага «шэдэўра», ён прадугледжваў пераўтварэнне «Пісьма...» ў артэфакт культуры, які б адпавядаў велічы адрасата. Найперш было вырашана вышыць вершаваны тэкст залатымі, чырвонымі, блакітнымі, зялёнымі, шэрымі і карычневымі ніткамі на 24 шаўковых аркушах, дзеля чаго ў Мінск з розных куткоў Беларусі былі дастаўленыя 37 найлепшых




БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

**Драўляны куфар для захавання «Пісьма…»**, выраблены найлепшымі беларускімі майстрамі.

вышывальніц. Іх адбор уключаў праверку не толькі прафесійных здольнасцяў, але таксама сацыяльнага паходжання, нацыянальнасці і сямейнага становішча. Да восені праца была скончана і шчодра аплачана. Перад ад'ездам дамоў вышывальніцам асабіста падзякаваў сам Гікала, а на развітанне атрымаў ад жанчын вышыванку.

Адначасова з вышывальніцамі ў Мінску працавала брыгада з васьмі найлепшых у Беларусі сталяроў-разьбяроў пад кіраўніцтвам народнага майстра з вёскі Недашоў Магілёўскага раёна Арлова. У выніку іх намаганняў быў выраблены ўнікальны куфар для захавання тканага «Пісьма...». Звонку куфар упрыгожылі выявамі ордэна Леніна, прамысловых прадпрыемстваў, калгасных палеткаў, памежнікаў, выкананымі паводле эскізаў найлепшых беларускіх мастакоў. Падчас работы сталяры выкарысталі 110 тысяч кавалкаў дрэва розных парод.

### Адрасат не ўразіўся

20 лістапада 1936 года «Пісьмо беларускага народа вялікаму Сталіну» ў выглядзе вялікай шаўковай кнігі, пераплеценай стужкамі з беларускім арнаментам, а таксама скрыня былі выстаўленыя ў Доме ўрада, у асобным пакоі па суседстве з залай пасяджэння надзвычайнага XII з'езда Саветаў БССР. Побач са скрыняй стаяў футарал для яе, выраблены з чырвонага дрэва і абабіты шаўковымі пухоўкамі. У пакоі знаходзіўся кіраўнік работ Арлоў, які даваў дэлегатам з'езда неабходныя тлумачэнні. Праз тыдзень артэфакт быў дастаўлены ў Маскву, дзе пачаўся надзвычайны VIII Усесаюзны з'езд Саветаў, скліканы для разгляду і зацвярджэння праекта новай Канстытуцыі СССР.

На чацвёрты дзень працы з'езда, 28 лістапада 1936 года, пасля выступлення работніцы-стаханаўкі мінскай фабрыкі «Кастрычнік» Дусі Кісялёвай прадстаўнікі беларускай дэлегацыі ўнеслі куфар з «Пісьмом...» у залу і падышлі з ім да прэзідыума, дзе сядзеў Сталін. Дуся



дастала «Пісьмо...» з куфра, паказала яго прысутным, пасля чаго яго разам з куфрам перадалі ў прэзідыум.

У Сталіна падарунак беларусаў не выклікаў вялікіх эмоцый. У той час ён атрымліваў падобныя «калектыўныя творы народаў СССР» ледзь не штотыднёва. Як і іншыя падарункі, «Пісьмо беларускага народа вялікаму Сталіну» перадалі ў Музей рэвалюцыі СССР (цяпер Музей сучаснай гісторыі Расіі), дзе яно захоўваецца да сённяшняга дня.

### Двух аўтараў рэпрэсавалі

У Савецкай Беларусі «Пісьмо...» прапагандавалася як найвышэйшае дасягненне нацыянальнай літаратуры і мастацтва. Пасля першага выдання ў 1936 годзе кожны перадваенны год яго перавыдавалі вялікімі накладамі. На замову беларускага партыйнага кіраўніцтва група расійскіх паэтаў у складзе Аляксандра Безыменскага, Міхаіла Галоднага, Міхаіла Ісакоўскага і Аляксея Суркова зрабіла пераклад «Пісьма...» на рускую мову. Калектыў вядучых беларускіх кампазітараў у складзе Васіля Залатарова, Ісака Любана, Аляксея Туранкова, Мікалая Аладава, Яўгена Цікоцкага, Міхаіла Іванова і Самуіла Палонскага да свята 7 лістапада 1936 года напісаў кантату на словы «Пісьма...» — «для выканання сімфанічнымі аркестрамі, харамі, салістамі і на беларускіх інструментах». Белдзяржкіно прысвяціла «Пісьму...» дакументальны фільм. З'явіліся грамафонныя запісы песень кампазітара С. Палонскага на асобныя фрагменты гэтага твора. Прыкметай палітпісьменнасці аўтараў стала выкарыстанне радкоў «Пісьма...» ў якасці цытат і эпіграфаў да артыкулаў. Нарэшце, твор уключылі ў школьную праграму.

Як і большасць твораў беларускай савецкай літаратуры, «Пісьмо беларускага народа вялікаму Сталіну» мае ўласную цэнзурную гісторыю. Пасля арышту ў верасні 1937 года Ізі Харыка ягонае прозвішча знікла з пераліку аўтараў. Падобным чынам з калектыву аўтараў пасля арышту ў ліпені 1938 года знік Андрэй Александровіч. А пасля падпісання ў 1939 годзе пакта Молатава – Рыбентропа сталі непатрэбнымі радкі пра «фашыстаў-бандытаў», якія ў першай рэдакцыі павінны былі «касцямі палегчы на пагост». ◆



ФОТА З ЧАСОПІСА «РАБОТНІЦА І КАЛГАСНІЦА БЕЛАРУСІ» (1936, № 23).

**Беларуская дэлегацыя перадае «Пісьмо...» ў прэзідыум VIII Усесаюзнага з'езда Саветаў.**

**6 мая 1925 года ў матэматычнай гімназіі Вільні здарыўся такі ж крывавы выпадак, як нядаўна ў Стоўбцах. Піша Максім Гацак.**

# Крывавы экзамен


SHUTTERSTOCK, BY LOLOSTOCK

Вільня, вуліца Адама Міцкевіча (цяперашні праспект Гедыміна). Дзяржаўная гімназія імя Іаахіма Лялевеля з матэматычна-прыродазнаўчым ухілам. 11-я раніцы, пісьмовы экзамен па матэматыцы. Эдвард Бяганскі, дырэктар і старшыня экзаменацыйнай камісіі, загадвае вучню спыніць размовы. Затым падыходзіць і забірае экзаменацыйны ліст. Наступныя падзеі сталі шокам для ўсіх.

### Што адбылося

Станіслаў Лаўрыновіч, у якога дырэктар забраў ліст, выхапіў з кішэні рэвальвер і пачаў страляць у свайго крыўдзіцеля, параніў у нагу і руку. Вучні кінуліся на стралка. Адзін з іх, 20-гадовы Аляксандр Загорскі, беларус з-пад Свянцян, засланіў дырэктара ад куляў і памёр на месцы.

Забойца здолеў вызваліцца і дастаў гранату, але яна ўзарвалася ў руках. Ад выбуху загінуў сам Лаўрыновіч, а таксама 17-гадовы Тадэвуш Дамански. Цяжкае раненне атрымаў настаўнік фізікі — 32-гадовы Ян Янкоўскі са Случчыны, які ўвечары памёр ад ран. Моцна паранены быў вучань Тачылоўскі, раненні атрымалі Бонч-Асмалоўскі, Студзінскі, Барысевіч, Сымановіч, Вайткевіч, Наўроцкі і Глінскі.

Але і гэта яшчэ не ўсё. Пасля таго, як ад выбуху загінуў Лаўрыновіч, яго прыяцель Януш Абрампольскі дастаў рэвальвер. Не здолеўшы забіць дырэктара, ён кінуў гранату, якая не разарвалася, і выбег у калідор. Калі яго паспрабавалі абяззброіць, Абрампольскі стрэліў сабе ў галаву. Праз некалькі гадзін ён сканаў.

У час вобшуку ў адным з пакояў гімназіі выявілі выбуховае рэчыва, якое магло знішчыць увесь будынак, і вялікую колькасць штурмавых гранат.

Абрампольскі пакінуў развітальны ліст, у якім прасіў апекавацца ягонай нявестай. Усё гэта сведчыла пра тое, што да нападу Лаўрыновіч і Абрампольскі рыхтаваліся загадзя.

### У чым прычына?

Некаторыя выданні паведамлялі, што тэрарысты былі членамі моладзевай камуністычнай арганізацыі, якія за дзень да нападу сустракаліся ў мясцовай карчме, каб абмеркаваць помсту дырэктару Бяганскаму. Як пісала віленская «Беларуская доля», той сапраўды быў вядомы жорсткасцю і дачэпкамі да студэнтаў, а ў 1922 годзе з гэтай нагоды нават здарыўся скандал. Праўда, калі супраць дырэктара разгарнулася грамадская кампанія, за яго заступіліся ягоныя ж вучні.

Абодва нападнікі былі немясцовымі: Лаўрыновіч паходзіў з тэрыторыі Літвы, а Абрампольскі быў з Мінска. Выгадаваліся ў заможных сем'ях. У Вільні былі вядомымі тусоўшчыкамі: раз'язджалі на машынах, падоўгу і з размахам гулялі ў модных кавярнях і шынках.

Вайна і рэвалюцыя перарвалі вучобу многім... Не атрымаўшы атэстата, яны запісваліся добраахвотнікамі, а пасля дэмабілізацыі захацелі скончыць вучобу. Гэта былі людзі, якія пару гадоў вялі дарослае жыццё, прытым лагерна-авантурнае, страляючы ў непрыяцеля і чуючы каля сваіх вушэй свіст непрыяцельскіх куляў, заглядаючы ў кілішак, крадучы курэй у сялян, перажываючы танныя любоўныя прыгоды. Можна ўявіць, як няўтульна яны адчувалі сябе, калі іх пасадзілі за парты побач з галавастымі падлеткамі і загадалі вучыць рэчы, якія, на добры лад, былі непрыдатныя не толькі для тых, хто прайшоў суровую жыццёвую школу, але і для такіх, хто вырас у звычайных умовах. Заўважыўшы, што Лаўрыновіч і Абрампольскі часта прапускаюць заняткі, маюць кепскія адзнакі і часта па-за школай напіваюцца, пан Бяганскі папярэдзіў іх, што атэстат — гэта не жарты і яны павінны «падцягнуцца», бо інакш дакумента не атрымаюць. Папярэджанне мела адваротны вынік. Маладзёны не толькі не падцягнуліся, але затаілі ў душы глыбокую пагарду да дырэктара.

— Як гэта? — скардзіліся таварышам. — Мы пралівалі кроў і нас жэрлі вошы за іх, у тым ліку і гэтага дэбіла... а замест падзякі нас дастаюць з гэтым дурным атэстатам.

*Міхал Крыспін Паўлікоўскі. «Вайна і сезон»*

З прычыны ваеннага ліхалецця хлопцы позна заканчвалі школу, да таго ж, заседзеліся ў адным класе на два гады. Ім мусіла споўніцца, адпаведна, 23 і 21. Лаўрыновічу, хоць ён і быў здольным ды актыўным — узначальваў арганізацыю «Братняя дапамога», — цяжка давалася матэматыка. І яму, і ягонаму сябру пагражала адлічэнне.

## Пра падзеі ў віленскай гімназіі пісалі ў Аўстрыі, Літве, Нямеччыне, Францыі, Злучаных Штатах і нават Аўстраліі

Многіх хвалявала пытанне, адкуль гімназісты маглі ўзяць зброю. Паводле адной версіі, Лаўрыновіч, як сын высокага ўрадоўца, меў на гэта адмысловы дазвол паліцыі. Паводле іншай — хлопцы, будучы сябрамі праўрадавай арганізацыі «Стралец», схавалі гранаты пасля вучэнняў. Больш за тое, хадзілі чуткі, што гэтымі гранатамі планавалася закідаць удзельнікаў дэманстрацыі чыгуначнікаў 1 мая.

Рэакцыі левых і правых колаў моцна нагадваюць тое, што гаварылася ў нас нядаўна адносна трагедыі ў Стоўбцах.

Віленская кансерватыўная газета «Слова» вінаваціла ў трагедыі куратара віленскай школьнай акругі Зыгмунта Гансяроўскага, а таксама прыезджых выкладчыкаў, якія «не ведаюць душы нашай моладзі». А «Беларуская доля» шукала вінаватых «у тых палітычных колах, якія “ўзгадоўвалі” вучняў у “патрыятычным” духу і ўклалі ў рукі ім рэвальверы і гранаты».

Выпадак меў рэха ў Вільні. Мінчук Казімір Лячыцкі, журналіст і пісьменнік, напісаў і паставіў у Вільні п’есу пад назвай «Школа» («Sztuba»). У гэтай п’есе, аднак, рэха «крывавага атэстата» было прыцішанае. Вучань цэліў у настаўніка з рэвальвера, але не стрэліў. Канец быў пазітыўны. Акрамя таго, твор меў «актуальныя» камічныя моманты: вучні пісалі экзаменацыйную працу ў навушніках пад дыктоўку радыё... П’еса мела поспех. Яе паставілі некалькі тэатраў у Польшчы і адзін ці два тэатры за мяжой.

*Міхал Крыспін Паўлікоўскі. «Вайна і сезон»*

Беларуская хрысціянска-дэмакратычная газета «Крыніца» бачыла прычыны здарэння ў тым, што настаўнікамі ў школах з’яўляюцца матэрыялісты, «не жадаючыя, а часта і сіл не маючыя зразумець жыццё людское ўва ўсёй яго глыбіні». І хоць у школах выкладаецца рэлігія, але «гэта робіцца пераважна па-казённаму, паводле застарэлых падручнікаў і застарэлымі спосабамі».

Версій здарэння было шмат. Але агульная высnова, выкладзеная на старонках «Крыніцы», сумненняў не выклікае: «Вучні Лаўрыновіч і Абрампольскі, страляючыя і кідаючыя бомбы ў дырэктара, вучыцялёў і калегаў, — гэта прадусім дзеці вайны. Вайна ўва ўсей сваей жудасці гадавала іх і заглушала маладыя расткі ахвоты да жыцця, да змагання за сваё пастаяннае маральнае палепшанне, да духовага гарту і вытрымаласці». У выніку ж — крывавая трагедыя, якая скаланула Польшчу і свет.

### Над разрытымі магіламі

Пахаванне ахвяр трагедыі адбылося 8 мая. Аляксандра Загорскага пасля жалобнага набажэнства ў манастыры Святога Духа пахавалі на праваслаўных могілках на Ліпоўцы, прафесара Янкоўскага і вучня Даманскага з касцёла Святога Якуба прынеслі на каталіцкія могілкі Роса. Труны памерлых неслі на сваіх руках выкладчыкі і навучэнцы гімназіі. Абедзве жалобныя працэсіі атачалі прадстаўнікі паліцыі.

На развітанне з памерлымі прыбылі прадстаўнікі ўрада і школьных уладаў. Але найбольш запомнілася прамова вучня Бонч-Асмалоўскага, які заклікаў бацькоў больш увагі звяртаць на выхаванне моладзі. І хоць пачалося развітанне з ахвярамі каля восьмай раніцы, апусцелі могілкі толькі позним вечарам. ◆

**Polish Students.**

**Bombs and Revolvers Used.**

WARSAW (Poland), May 7.

An amazing tragedy was enacted in the examination-room of a college at Vilna, where a youth who had failed in a previous examination produced a revolver and fired at the principal. Other students seized the assailant. One, a youth, who

**Крывавая трагедыя у польскай гімназіі.**

**Пяцера забітых, многа раненых.**

6 мая раніцай у польскай гімназіі ім. Лелевэля ў Вільні адбываліся матуральныя экзамены (на атэстат сьпеласьці).

Дырэктар гімназіі, Беганьскі, вядомы ўжо скандаламі з былымі вайсковымі-матурыстамі ў 1922 годзе, добра ўжо ўсім дадзеўшы сваімі прычэпкамі і жорсткасьцяі, адабраў экзаменацыйны ліст у вучня Лаўрыновіча, які яшчэ не распачаў навет рашэньня задачы з альгебры.

У той мамэнт Лаўрыновіч выхапіў з кішані рэвальвэр і пачаў страляць у дырэктара. Кулі ранілі яго лёгка ў руку і нагу.

Калі таварышы кінуліся сунімаць Лаўрыновіча, ён чародным стрэлам забіў на месцы аднаго з іх, Аляксандра Загорскага, беларуса-праваслаўнага, родам з Сьвянцяншчыны. Пасьля гэтага Лаўрыновіч дастаў з кішані ручную гранату. Граната выбухнула.

Выбух меў страшэнныя вынікі. Лаўрыновіч пагіб, разарваны на часьці. Таксама быў забіты на сьмерць вучань Даманскі. Цяжка зранены праф. Янкоўскі, які ўвечары памёр ад ран. Вельмі цяжка ранены вучань Точылоўскі. Цэлы рад вучняў ранены лягчэй.

Лаўрыновіч „зьбіраў калекцыю гранатаў“, на шт... як сын давол[і] высокага ўрадоўца Дэлегатур...

***Stupéfiant attentat dans un lycée de Vilna***

**Pendant l'examen du baccalauréat, deux candidats tuent un professeur et plusieurs élèves**

VILNA, 7 mai. — Pendant les examens du baccalauréat qui avaient lieu hier au lycée Lelewel, deux candidats ont tiré, à 11 heures du matin, plusieurs coups de revolver dans la direction des examinateurs, et ont jeté en même temps une grenade à main. Un professeur et trois élèves ont été tués. Le directeur du lycée et plusieurs élèves ont été grièvement blessés.

Un des auteurs de l'attentat a également été tué par l'explosion de la grenade ; l'autre s'est suicidé.

Les autorités judiciaires sont immédiatement arrivées sur les lieux pour procéder à une enquête.

Як жылося ў Беларусі ў эпоху, калі

# МАМАНТЫ АДСЮЛЬ УЖО СЫШЛІ, А ПАЎНОЧНЫЯ АЛЕНІ — ЯШЧЭ НЕ



SHUTTERSTOCK.COM, MARCINWOJC

## І чаму тагачасным людзям не страшны быў трупны яд

**14 тысяч гадоў таму клімат у Еўропе пацяплеў, ледавік пачаў раставаць. Маманты скіраваліся на ўсход, дзе шчасліва пражылі яшчэ 8 тысяч гадоў, а нашым продкам тэрмінова прыйшлося змяняць рацыён, піша археолаг Алесь Гаршкоў.**

Без ежы яны не засталіся: на месца мамантаў прыйшлі статкі паўночных аленяў. Вясной і восенню алені мігравалі: зімой шукалі ежу (траву і мох), а летам уцякалі ад насякомых. Чалавеку прыйшлося хадзіць следам. Так, дзякуючы аленям, упершыню была заселена ўся Беларусь.

Шлях міграцыі аленяў мог складаць 1000 км. Пры сярэдняй хуткасці чалавека па тундравым стэпе і лесатундры 4 км/г, увесь шлях міграцыі аленяў старажытныя людзі маглі адолець за 33 дні. Таму і сляды культурных супольнасцяў таго часу сустракаюцца на вялікай тэрыторыі. Напрыклад, падобныя паміж сабой наканечнікі стрэл (культуры Броме-Лінгбі) археолагі знаходзяць ад Брытаніі да вярхоўяў Волгі.



### Кулінарныя сакрэты

Сучасныя народы Поўначы, чый традыцыйны побыт нагадвае жыццё палеалітычнага чалавека, больш за ўсё любяць крыху пратухлае мяса. Адзін з далікатэсаў гатуецца так: забітага аленя апускаюць у балаціну, закідаюць галлём, прыціскаюць камянямі і трымаюць так некалькі месяцаў.

**Крамянёвыя наканечнікі стрэл з тэрыторыі Беларусі.**
Фінальны палеаліт — апошні этап палеаліту (старажытнакаменнага веку), які цягнуўся 13,5–10 тысяч гадоў таму. У гэты час у Еўропе з'явіліся людзі, у якіх археолагі вызначылі агульную прыкмету — чаранковыя наканечнікі стрэл. У межах Беларусі да гэтага кола археалагічных культур адносяцца Броме-Лінгбі, валкушанская і свідэрская культуры.

# Беларусь была ўпершыню заселена дзякуючы паўночным аленям





PINTEREST.COM

Людзі фінальнага палеаліту верылі ў найвышэйшыя сілы. Да іх звярталіся, малюючы сцэны паспяховага палявання. А ў Англіі, на стаянцы Старкар, знайшлі фрагменты аленевых чарапоў з рагамі. Некаторыя археолагі лічаць, што гэта элемент убору тагачаснага жраца. **Шамана з рагамі бачым і ў наскальным жывапісе, напрыклад у пячоры Трох братоў у Францыі.**

Але варта памятаць, што ў народаў Поўначы за тысячы гадоў выпрацаваліся ферменты, якія дазваляюць нейтралізаваць трупны яд. Іншы чалавек ад такой стравы атрымае моцнае атручэнне. Бяспечны рэцэпт з фінальнага палеаліту — вэндзіць мяса ці сушыць на лагах на рацэ, дзе тых аленяў і ўпалявалі.

У народаў Поўначы тушы аленяў разбіралі толькі замужнія жанчыны, астатнім не дазвалялася гэта рабіць і нават назіраць працэс. Акрамя таго, няможна было глядзець у вочы ўпаляванай жывёле: лічылася, там жывуць злыя духі.

Скуру і сухажыллі людзі выкарыстоўвалі для адзення і жытла. Сухажыллі, косткі і рогі — для вырабу інструментаў і ўпрыгажэнняў.

## З гарпуном у трыснягу

Як палявалі на аленяў палеалітычныя людзі? Так, як гэта да XX стагоддзя рабілі вядомыя нам паўночныя народы: нганасаны, юкагіры, чукчы, каракі, эвенкі, энцы. Іх паляўнічыя дагэтуль выкарыстоўваюць тыя ж прыёмы, толькі з больш дасканалым узбраеннем. Хоць народы Поўначы перайшлі на гадаванне свойскіх паўночных аленяў, але паляваць на дзікіх не перасталі.

Здабыць шмат мяса за раз можна падчас пераправы аленяў цераз раку. Інфармацыя пра шляхі пераправаў перадавалася з пакалення ў пакаленне. Паляўнічыя перасяляліся ў месцы пераправы загадзя. Пры набліжэнні статка хаваліся ў трыснягу ці зарасніку і чакалі, пакуль алені зойдуць у ваду. Знаалі: нельга нападаць, пакуль у рэчку не зойдзе большасць — ▶



Статак паўночных аленяў **рыхтуецца пераплыць раку.**

SHUTTERSTOCK.COM, NATALIA GOLUBNYCHA

**Косткі 650 асобін паўночнага аленя** знайшлі на стаянцы Штэльмаар у Германіі. У некаторых у грудзіне захаваліся наканечнікі стрэл.

Рэканструкцыя **палявання на паўночнага аленя.**

▶ калі алень спужаецца і развернецца, паспяховаму паляванню канец.

Атакавалі з дапамогай лукаў і стрэл, дзідакідалак, гарпуноў (гарпуны выкарыстоўваліся не толькі ў рыбалоўстве). Пакуль частка людзей атакавала, другая выцягвала тушы на бераг.

# Любімая страва: жывёлу клалі ў балаціну і вытрымлівалі некалькі месяцаў

Старажытныя людзі палявалі і на лодках — гэта відаць з пячорных малюнкаў і сучаснай практыкі. Лодкамі ўжо карысталіся ў X тысячагоддзі да н.э., але гэта былі не звыклыя нам драўляныя чаўны, а каркасы, абцягнутыя скурамі. ◆

## Паляўнічыя на паўночных аленяў

Так археолагі называюць людзей, якія з'явіліся на нашых землях, як толькі апошні ледавік пачаў раставаць. Як выглядалі — невядома, можна хіба сказаць, што скуру мелі нашмат цямнейшую, чым мы.

Гэтыя людзі прыйшлі з захаду і пакінулі на Беларусі некалькі соцень стаянак. Праўда, парэшткі паўночнага аленя пакуль знайшлі толькі на адной. Але ў палеалітычнай Беларусі жывёла дакладна вадзілася: геолагі наткнуліся на яе парэшткі пад Смаргонню, у Аршанскім і Ушацкім раёнах.



Рэканструкцыя часовай стаянкі **паляўнічых на паўночнага аленя.**

На стаянках паляўнічых на паўночных аленяў у Панямонні — Кавальцы-1, Баля-Сольная-2 Гродзенскага раёна, Краснасельскі-5 Ваўкавыскага раёна — знаходзяць галоўным чынам крамянёвыя прылады: наканечнікі стрэл, скрабкі, разцы, праколкі. Такі набор сведчыць: людзі апрацоўвалі не толькі скуру і дрэва, але таксама рог і костку. А палявалі з дапамогай лука, стрэл і дроцікаў.

Паляўнічыя на паўночных аленяў сяліліся на высокім беразе ракі ці на дзюне. Ад кароткачасовых стаянак слядоў засталося мала. А вось на сезонных, акрамя разнастайнага інвентару, знаходзяць сляды вогнішчаў, гаспадарчых ям, сметніц і жытлаў, падобных да шалашоў. Былі адмысловыя месцы, дзе разбіралі тушы. Тут знаходзяць наканечнікі стрэл, скрабкі, пласціны і адшчэпы, якія выкарыстоўваліся замест нажоў.

Як шукаюць стаянкі фінальнага палеаліту? Спачатку археолагі аналізуюць дадзеныя геалогіі, геамарфалогіі, палеагеаграфіі. Бо няма сэнсу шукаць помнікі XI тысячагоддзя на тэрасе ракі, што сфарміравалася 9 тысяч гадоў таму. Потым адбываецца разведка на мясцовасці. Абавязкова праглядаюць разараныя ўчасткі і раздувы (узвышэнні, што развейваюцца ветрам). Там знаходкі бываюць проста пад нагамі. Калі гаспадарчай дзейнасці ў гэтым месцы не вядзецца і эразійныя працэсы не інтэнсіўныя, закладваецца шурф — невялікі раскоп. Калі ў ім знаходзяць сляды старажытнага чалавека, раскопкі пачынаюцца на большай тэрыторыі. Усе знаходкі фіксуюць, а па выніках пішуць справаздачу, якая будзе захоўвацца ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі.

# Як і чаму Захад перамог Усход

**Яшчэ ў пачатку XV стагоддзя думка пра тое, што некалі Захад будзе дамінаваць над рэштай свету, здавалася вар'яцкай. Але так сталася. Як? Адказ спрабаваў знайсці брытанскі гісторык і журналіст Ніл Фергюсан у кнізе «Цывілізацыя. Захад і рэшта свету». Піша Максім Маханькоў.**

Фергюсан вылучае шэсць сфер, стаўленне да якіх вызначае поспех аднаго грамадства і заняпад іншага.

### 1. Канкурэнцыя

Калі б вы трапілі ў Кітай у пачатку XV стагоддзя, вы б здзівіліся, наколькі гэта тэхналагічна развітая дзяржава. Вялікі кітайскі канал, які будаваўся каля дзвюх тысяч гадоў, расцягнуўся больш чым на 1 700 кіламетраў. Кожны год па ім перавозілі 12 тысяч баржаў са збожжам. Для параўнання: самы знакаміты і доўгі канал у Еўропе на той час, Венецыянскі, не меў і 4-х кіламетраў удоўжкі.

Дамінаваў Кітай таксама ў навуцы. Друкарскі станок з наборным шрыфтам у Кітаі вынайшлі яшчэ ў XI стагоддзі, за 400 гадоў да Гутэнберга. Сеялка, якая з'явілася ў перадавой і адносна заможнай Паўночнай Італіі ў XVI стагоддзі, была вядомая кітайцам з II стагоддзя да нашай эры. Запалкі, магнітны компас, зубная шчотка... Спіс кітайскіх інавацый можна працягваць бясконца. Кітайцы, якія лічылі еўрапейцаў варварамі, мелі на гэта ўсе падставы. Але далей нешта пайшло не так.

Фергюсан лічыць, што праблемай Кітая была адсутнасць канкурэнцыі. Пакуль дробныя еўрапейскія дзяржавы ваявалі і канкуравалі паміж сабой, распрацоўвалі новыя тэхналогіі ў мараплаванні і іншых сферах, заможны цэнтралізаваны Кітай не меў патрэбы ў замежным гандлі. Імператары не жадалі




гандляваць з «варварамі»: у Кітаі і так усё было. І калі марскі гандаль стымуляваў тэхналагічнае развіццё Еўропы, Кітай застаўся на месцы.

Фергюсан знаходзіць прычыны гэтага ў асаблівасцях канфуцыянскага светапогляду. Кітаем кіравала прафесійная бюракратыя. Чыноўнікаў бралі на службу пасля складанай сістэмы экзаменаў. Асаблівую ўвагу надавалі вывучэнню чатырохкніжжа класікаў канфуцыянства, з якога трэба было вывучыць 431 286 знакаў. Такая сістэма абсалютна не спрыяла інавацыям і выхоўвала кансерватыўную эліту, не здольную мысліць стратэгічна. Гэтае чыноўніцтва пахавала марскія магчымасці Кітая.

У той час Еўропа, падзеленая на шматлікія маленькія дзяржавы, стала арэнай велізарнай канкурэнцыі, у тым ліку на моры. Партугальцы, іспанцы, англічане, галандцы будавалі караблі, стваралі гандлёвыя шляхі і каланізавалі землі. Невялікія еўрапейскія дзяржавы, дзякуючы матэрыяльным перавагам гандлю і каланізацыі, апярэдзілі вялікія цывілізацыі Усходу.

### 2. Навука

Адна з прычын дамінавання Захаду — імклівае развіццё навукі. Але так было не заўсёды.

Стагоддзямі наперадзе тут былі ісламскія дзяржавы. Менавіта яны змаглі захаваць для чалавецтва творы аўтараў Антычнасці. Мусульманскія матэматыкі стварылі алгебру (з арабскай «аль-джабр» — складанне разбітых частак). А першай ВНУ можна лічыць універсітэт Аль-Караўін, адкрыты ў Марока ў 859 годзе. Але чаму мусульманская навука пачала адставаць?

Аўтар мяркуе, што шлях Еўропы да навуковай рэвалюцыі мае вытокі ў хрысціянскім вучэнні пра аддзяленне царквы ад дзяржавы. А Каран настойвае на еднасці любой улады, заснаванай на ісламе. Пакуль у Еўропе буяла навуковая рэвалюцыя, ісламскія святары вырашылі, што вывучэнне грэчаскай філасофіі несумяшчальнае з вывучэннем Карана. Антычныя кніжкі спальвалі, медрэсэ сканцэнтраваліся выключна на багаслоўі.

**Каб атрымаць пасаду, кітайскаму чыноўніку трэба было вывучыць 431 286 знакаў**

Імклівы штуршок развіццю навук дало вынаходніцтва друкарскага станка. А ў мусульманскім свеце друкарства не віталася. Для асманаў пісанае ад рукі лічылася святым — існавала нават рэлігійнае блаславенне для пяра. Мусульманскія навукоўцы, якія раней натхнялі еўрапейцаў, цяпер ▸

▶ аказаліся адрэзанымі ад апошніх даследаванняў. (Напрошваюцца паралелі з сучаснымі нападкамі на інтэрнэт і электронныя кнігі.)

Пакуль асманскі клір тармазіў навуковы прагрэс, еўрапейскія валадары стымулявалі развіццё вальнадумства і навукі. Асабліва яскрава гэта праяўляецца ў асобе прускага манарха Фрыдрыха ІІ, у часы кіравання якога Прусія перажывала сапраўдны культурны бум. Адкрываліся салоны, дыскусійныя клубы, кнігарні, часопісы, навуковыя таварыствы...

Развіццё навукі закранула і вайсковую справу. Яшчэ да Венскай бітвы 1683 года еўрапейскія і асманская арміі мелі прыкладна аднолькавы тэхналагічны ўзровень. Але ў XVIII стагоддзі Захад перажыў рэвалюцыю ў балістыцы, стварыўшы артылерыю, здольную біць прыцэльна, у параўнанні з якой асманская была неэфектыўнай.

Асманскія кіраўнікі ўсведамлялі адсталасць сваёй дзяржавы і шчыра імкнуліся імпартаваць еўрапейскія практыкі і тэхналогіі. Аднак рэформы заставаліся павярхоўнымі, што прывяло да поўнага заняпаду Асманскай імперыі, на рэштках якой з’явілася Турцыя, якую ўсур’ёз мадэрнізаваў толькі Атацюрк у XX стагоддзі.

### 3. Уласнасць

Цэнтрам сучаснага заходняга свету з’яўляюцца ЗША, заснаваныя брытанскімі каланістамі. Але чаму лідарам сталі яны, а не, напрыклад, паўднёваамерыканскія дзяржавы, заснаваныя іспанскімі — таксама еўрапейскімі — каланістамі? Фергюсан лічыць, што прычына ў структуры і арганізацыі ўласнасці.

Брытанская адміністрацыя прапаноўвала сваім каланістам акры зямлі. Англія забяспечвала неймаверную сацыяльную мабільнасць. Пасяленец мог прыехаць у Амерыку ні з чым, а на працягу некалькіх гадоў стаць уласнікам і выбарцам.

## Праблемай Кітая была адсутнасць канкурэнцыі

Высокая доля землеўласнікаў была характэрная не толькі для Паўночнай Амерыкі, але і для іншых брытанскіх калоній, такіх як Аўстралія і Новая Зеландыя. Менавіта вяршэнства права як спосаб абароны ўласнікаў і мірнага вырашэння маёмасных спрэчак лягло ў аснову ўстойлівага прадстаўнічага праўлення.

А вось у іспанскіх калоніях усё было інакш. Маёнткі перадаваліся канкістадорам у кіраванне, але не ва ўласнасць. Гэта была сістэма даніны ў выглядзе рабскай працы і бязлітаснай эксплуатацыі карэннага насельніцтва. Як вынік — паўднёваамерыканскія дзяржавы, стаўшы незалежнымі ў пачатку XIX стагоддзя, не мелі традыцыі прадстаўнічага праўлення, затое мелі глыбокую няроўнасць у размеркаванні зямлі ды міжрасавую варожасць, цесна звязаную з эканамічнай няроўнасцю.

### 4. Медыцына

Ніл Фергюсан мяркуе, што еўрапейцы проста не змаглі б пабудаваць свае гіганцкія каланіяльныя імперыі без развіцця медыцыны.

XIX стагоддзе праходзіла пад сцягам каланізацыі Афрыкі. Заходняя Афрыка нездарма мела рэпутацыю могілак для белых. Помнік на востраве Гарэ ў Сенегале 21 французскаму лекару, які загінуў пры ўспышцы жоўтай ліхаманкі ў 1878 годзе, красамоўна нагадвае пра рызыку, якой падвяргаліся еўрапейцы ў Афрыцы. Калі б паказчыкі смяротнасці заставаліся такімі ж высокімі, еўрапейскі каланіяльны праект у Афрыцы мог загінуць у зародку. Будучыня імперыялізму залежала ад мікраскопа, навукоўца і доктара.

У французскіх лабараторыях вывучалі халеру, малярыю, шаленства і воспу. Гэтыя спробы былі заснаваныя на наватарскіх працах Луі Пастэра, які распрацаваў мікробную тэорыю ў 50–60-я гады XIX стагоддзя. У канцы стагоддзя французскія каланіяльныя ўлады пачалі распаўсюджваць медыцынскую сістэму на ўсю Французскую Заходнюю Афрыку. Такім чынам смяротнасць змяншалася не толькі сярод каланіяльнай адміністрацыі, але і сярод тубыльцаў — іх працягласць



жыцця расла нават большымі тэмпамі, чым еўрапейцаў.

Сам погляд аўтара на каланізацыю Афрыкі можа падацца правакацыяй. Мэйнстрымнае меркаванне зводзіцца да таго, што каланізацыя была адназначным злом. Але Фергюсан лічыць інакш: нягледзячы на ўсе недахопы і злачынствы брытанскай і французскай каланіяльных адміністрацый, якасць і працягласць жыцця тубыльцаў расла.

**Пратэстанцкая этыка забяспечвала капіталістаў добрасумленнымі работнікамі, якія глядзелі на працу як на жыццёвую мэту, пажаданую Богам**

### 5. Спажыванне

Як мяркуе Фергюсан, адна з прычын дамінавання Захаду — культура спажывання, якая заўсёды рухала тэхналогіі і інавацыі. Прага людзей да спажывання як мага большай колькасці прадукцыі вяла да аптымізацыі вытворчых працэсаў.

Асабліва яскрава гэта прасочваецца на прыкладзе адзення. І тут нічога дзіўнага: прамысловая рэвалюцыя бярэ свой пачатак менавіта ў тэкстыльнай прамысловасці. Прамысловая рэвалюцыя не адбылася б без развіцця грамадства спажывання з амаль бясконцым попытам.

Замена адзення на еўрапейскае стала атрыбутам кожнай вестэрнізацыі: рэформы Пятра І у Расіі, Атацюрка ў Турцыі альбо Мэйдзі ў Японіі. Рэфарматары разумелі, наколькі магутным рухавіком перамен было заходняе адзенне. Гэта больш, чым проста змена іміджу.

Фергюсан піша, што менавіта грамадства спажывання дазволіла перамагчы ЗША ў халоднай вайне супраць СССР.

Калі б халодная вайна перайшла ў «гарачую» фазу, вельмі верагодна, што перамога засталася б за СССР. Палітычная сістэма Савецкага Саюза была значна лепш прыстасаваная да вайны і ваенных страт, а эканоміка ідэальна падыходзіла для масавай вытворчасці складанага ўзбраення. Але ЗША прапанавалі больш прывабнае мірнае жыццё. Цэнтралізаванае эканамічнае планаванне, эфектыўнае ў ядзернай гонцы, не задавальняла штодзённыя патрэбы спажыўцоў.

Невыпадкова сімвалам вестэрнізацыі ў СССР таксама выступала заходняе адзенне — джынсы.

### 6. Працоўная этыка

Апошняя прычына дамінавання Захаду, на думку Фергюсана, — працоўная этыка. Звязаная яна ў першую чаргу з рэлігіяй.

Пасля Рэфармацыі эканамічны полюс Еўропы зрушыўся на паўночны захад, у пратэстанцкія краіны. Да Рэфармацыі хрысціянскую набожнасць бачылі асобна ад матэрыяльных спраў, святасць была ў адмове ад мірскога. Пасля Рэфармацыі ўсё змянілася. Пратэстанцкія рэлігійныя плыні, наадварот, расцэньвалі працавітасць, ашчаднасць і настойлівасць як форму набожнасці. Пратэстантызм бачыў у гэтым ратаванне чалавека. Акрамя таго, пратэстанцкая этыка забяспечвала капіталістаў добрасумленнымі работнікамі, якія глядзелі на працу як на жыццёвую мэту, пажаданую Богам.

Тэзіс пра ўзаемасувязь пратэстанцкай этыкі з развіццём эканамічных адносін даволі спрэчны. Напрыклад, у Германіі самыя багатыя землі — паўднёвыя, а яны пераважна каталіцкія. У той час як пратэстанцкая Паўночная Германія з'яўляецца адносна беднай. Дый сам капіталізм пачаў зараджацца ў гарадах-дзяржавах Паўночнай Італіі яшчэ да з'яўлення пратэстантызму. Але факт застаецца фактам: агулам пратэстанцкія краіны развіваліся хутчэй. Прычыну Фергюсан бачыць яшчэ і ў тым, што пратэстантызм заахвочваў пісьменнасць (дзеля магчымасці самастойна вывучаць Біблію) і масавае кнігадрукаванне. Разам з навуковымі дасягненнямі гэта спрыяла эканамічнаму развіццю.

У той жа час «этыка стабільнасці» кітайскага канфуцыянства прывяла да адмовы ад новаўвядзенняў і заняпаду Кітая. Тое ж адбылося і ў ісламскім свеце, дзе «нязменнасць» душыла любыя перамены. ◆




**Кніга была перакладзена на дзясяткі моў, выйшла па ўсім свеце. Цікава паглядзець, якія розныя вокладкі выбралі выдаўцы.** Гадзіннік, іранічны компас са стрэлкай на захад, джэнтльменскі капялюш (Нідэрланды, Украіна, арабскі свет). Сучасныя белыя каўнерыкі, сярэднявечныя купцы і «Кантора бавоўны ў Новым Арлеане» Эдгара Дэга (Францыя, Бразілія, Румынія). Галандскі «Партрэт маладога чалавека з чэрапам», што нагадвае пра хуткаплыннасць жыцця (фіны), ды вечная Старажытная Грэцыя (японцы). Кітайцы, як заўжды, сціплыя.

# Як стваралася і працавала самая масавая беларуская арганізацыя



**Акруговы з'езд ТБШ у Гродне.** У цэнтры з букетамі кветак Аляксандр Уласаў і Рыгор Шырма. 1928 год.

# Скрыня, шафа і СЯННІК ДЛЯ СЕНАТАРА УЛАСАВА

**Аддаць дзіця ў беларускамоўную школу пры Польшчы было цяжка. Але ТБШ не дарма стала легендай. Настойлівасць і актыўнасць таварыства зрабіла яго гразой чыноўнікаў. Прыязджалі, сварыліся, трэслі перад войтам законамі — але ўрэшце адкрывалі для беларуса і школу, і клуб. Піша гісторык Андрэй Вашкевіч.**

Гмінны пісар нават не ўстаў з-за стала і, гледзячы проста ў вочы дэпутату Сейма Сымону Раку-Міхайлоўскаму, сказаў: «Нестэты, пане посьле, вуйт выехал до Ліды в справах службовых, бэндзе тылько ютро» («На жаль, пане дэпутаце, войт выехаў у Ліду па службовых справах, будзе толькі заўтра»). Рак-Міхайлоўскі мацюкнуўся сам сабе: заўтра яму ўжо трэба быць у Варшаве, а сяляне самі ніяк не прымусяць войта засведчыць іх заявы на адкрыццё беларускай школы ў гміне. Засмучаны, ён дастаў пачак папярос і перад тым, як пакінуць будынак гміны, закурыў. Раптам з-за прыадчыненых дзвярэй вялікай канцылярскай шафы пачуўся кашаль, і адтуль вываліўся пачырванелы войт. Пакуль ён у папяросным дыме даходзіў да сябе, пісар, смеючыся, канстатаваў: «Позна мы вас убачылі, пан пасол, не было толкам куды схавацца». Рак-Міхайлоўскі ўсміхнуўся і кінуў войту пачак школьных дэкларацый: «Рэгіструйце. І сёння ў вашай гміне мы стварылі яшчэ некалькі новых гурткоў Таварыства беларускай школы».

### Народныя дэпутаты

Самая знакамітая заходнебеларуская культурна-асветная арганізацыя пачыналася з пакоя ў віленскай камяніцы. Тут былі два сталы, некалькі крэслаў і доўгая скрыня, на якой падчас пасяджэнняў сядзелі сябры ТБШ. Яшчэ была вялікая шафа, якой адгароджваўся невялікі закутак. Там, на раскладзеным на падлозе сенніку, часта начаваў сенатар польскага парламента — гэта як дэпутат Савета Рэспублікі ў нашы часы — Аляксандр Уласаў. Беларускія дэпутаты мусілі прысутнічаць на пасяджэннях і, прыехаўшы з Варшавы на дзень-два, не мелі нават часу пабачыцца з сем'ямі. Пераначаваўшы ў халодным пакоі на Віленскай, 12, яны ранкам кіраваліся ў правінцыю, у бок Гродна, Баранавічаў, Глыбокага, Вілейкі, каб закладаць новыя гурткі Таварыства беларускай школы і бараніць мясцовых сялян ад свавольства ўладаў.

Таварыства беларускай школы паўстала ў 1921 годзе на тэрыторыі так званай Сярэдняй Літвы, якая ў хуткім часе стала Віленскім ваяводствам Польшчы. Пад дэкларацыяй аб стварэнні ТБШ стаяць прозвішчы больш чым паўсотні чалавек: Антон Луцкевіч, Браніслаў Тарашкевіч, Адам Станкевіч, Макар Краўцоў (Касцевіч), Сымон Рак-Міхайлоўскі... Што ні асоба — то легенда.

### Школьны плебісцыт

Чым займаліся дзеячы ТБШ? Галоўная задача была — выратаваць беларускія школы. Дзеля гэтага яшчэ ў сярэдзіне 1920-х у Заходняй Беларусі прайшоў школьны плебісцыт, калі свае заявы на адкрыццё беларускіх школ падалі дзясяткі тысяч бацькоў. Улады вельмі супраціўляліся гэтай ініцыятыве (хоць яна праходзіла ў поўнай адпаведнасці з законамі аб мовах, прынятымі парламентам у 1924 годзе), аднак вымушаныя былі адкрыць некалькі дзяржаўных беларускіх школ, а таксама дзясяткі польска-беларускіх. Патроху развівалася і прыватнае беларускае школьніцтва.

Трэба было старацца і захаваць тыя беларускія школы, якія ўтварыліся яшчэ «да палякаў», у 1916–1920 гадах. Гэтыя школы давалі працу для соцень настаўнікаў.

Акрамя таго, таварыства адкрывала бібліятэкі-чытальні і ставіла тэатральныя пастаноўкі. Паколькі польскія ўлады забаранялі ставіць «неадцэнзураваныя» п'есы, то творы беларускіх драматургаў трэба было правесці праз цэнзуру, а пасля надрукаваць. Усё гэта клалася на плечы цэнтральных органаў ТБШ.

Актывісты вучылі п'есы, рыхтавалі сцэнаграфію, касцюмы, а гледачы збіраліся з дзясяткаў вёсак. Папулярнымі былі п'есы «Змагары за ідэю» І.Тагабочнага, «Дрыгва», «Чорт і баба» Ф. Аляхновіча, «Пакой у наймы» (пераклад з польскай Міхася Чарота), «Боты», «Пашыліся ў дурні» (пераклад з украінскай). Шалёнай папулярнасцю карысталася п'еса ▶




**Аляксандр Уласаў** з сям'ёй.

Сяннік — матрац, набіты сенам ці саломай.

«Збянтэжаны Саўка» Леапольда Родзевіча.

Мясцовыя ўлады часта забаранялі наогул збірацца на вольным паветры ці ў гаспадарчых пабудовах: маўляў, спаліце вёску. Таму важнай задачай стала пабудова беларускіх народных дамоў. Сяляне неслі дзеля будаўніцтва апошнюю залатоўку, а некаторыя нават царскі залаты пяцірублёвік ці заробленыя за акіянам даляры. Цягам 1920-х гадоў ТБШ збудавала каля сарака народных дамоў, дзе былі і бібліятэкі, і месца для рэпетыцый ды тэатральных пастановак.




**Гурток у вёсцы Заполле.** 1930-я гады.

### «Выхад ёсць»

На піку развіцця ў 1927 годзе ТБШ мела амаль 500 гурткоў і налічвала каля дзесяці тысяч сяброў. Найбольш гурткоў было на Навагрудчыне, Касаўшчыне, Слонімшчыне, Стаўбцоўшчыне, Лідчыне. Абсалютным лідарам была Гродзенская павятовая акруга ТБШ, якая налічвала аж 63 гурткі. Кіраваў ТБШ на Гродзеншчыне сціплы хлопец са Скідзеля Пятро Сяўрук, які, будучы прыхільнікам філасофіі непраціўлення злу сілай Льва Талстога, тым не менш не баяўся ні рэпрэсій паліцыі, ні турмы. У часы Пятра Сеўрука ў гродзенскае ТБШ ішлі не толькі беларусы, але і рускія, ды нават і яўрэйская моладзь.

У адным са сваіх выступленняў Сяўрук казаў: «Нашыя “гаспадары” не хочуць даць нам школы, чакаючы, пакуль не зломяцца нашыя сілы і мы змоўкнем ды дабравольна згодзімся быць прыгоннымі. Але мы павінны не дапусціць гэтага і знайсці выхад са становішча. Выхад будзе такі: калі няма дзяржаўнай школы, адчыняць прыватныя, калі не даюць прыватных, дык трэба вучыць у дому, калі немагчыма вучыць дзяцей, дык трэба вучыць дарослых; тым, ці другім, ці трэцім шляхам выхад усё ж такі ёсць. Яны чакаюць і спадзяюцца, што без іхняй ласкі мы загінем у цемры і зробімся працоўнай жывёлай, але мы

**У офісе ТБШ стаяла вялікая шафа, якой адгароджваўся закуток. Там, на раскладзеным на падлозе сенніку, часта начаваў сенатар Аляксандр Уласаў**



ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ГІСТОРЫКА-АРХЕАЛАГІЧНЫ МУЗЕЙ

**Кнігарня ТБШ у Гродне.** На фота — мясцовыя дзеячы Піліп Кізевіч і Надзея Ламашэвіч. 1920-я гады.

павінны выявіць сваю жывучасць і свядомасць і здабыць сабе асвету без панскае ласкі».

### Камунізацыя і рэпрэсіі

Найбольшай пагрозай для ТБШ былі нават не рэпрэсіі польскіх уладаў, а ўнутраныя супярэчнасці. Унутры арганізацыі было шмат людзей, якія спачувалі камуністам, а некаторыя нават былі іх агентамі. У пэўныя моманты даходзіла да таго, што нават галоўную задачу ТБШ — захаванне і развіццё беларускай культуры і адукацыі — некаторыя радыкалы спрабавалі абвясціць «буржуазна-нацыяналістычнай» ідэяй. З канца 1920-х гадоў кіраўніцтва ТБШ таксама ішло за радыкальнымі лозунгамі заходнебеларускіх камуністаў. Час-почас у рэзалюцыях ТБШ тэма беларускай школы адыходзіла на другі план, аддаючы першае месца дэкларацыям аб салідарнасці з кітайскімі рабочымі або пратэстам супраць «фашыстоўскай палітыкі італьянскага ўрада».

Польскія ўлады, у сваю чаргу, радыя былі дашукацца ў ТБШ сувязяў з камуністамі і пачалі граміць арганізацыю. Старшыняў гурткоў, мясцовых настаўнікаў кідалі ў турму на тры-чатыры месяцы, а то і на год. Нават калі да суда над імі не даходзіла, то хлопцы і дзяўчаты нярэдка выходзілі з-за кратаў інвалідамі. Памёр ад сухотаў у Скідзелі Пятро Сяўрук, скончыла жыццё самагубствам настаўніца са Слонімшчыны Марыя Белавус, застрэліўся паэт з-пад Лунна Міхась Явар...

Асабліва зацята ліквідаваліся гурткі на поўначы Палескага ваяводства. Польскія ўлады рыхтаваліся да перапісу 1931 года і паставілі задачу — тамтэйшых жыхароў збольшага запісаць «тутэйшымі», каб істотна зменшыць колькасць беларусаў у польскай дзяржаве. Але для гэтага трэба было паказаць, што там няма аніякай беларускай актыўнасці. Найбольшы ўдар прыйшоўся па Косаўскім павеце, дзе колькасць гурткоў зменшылася з пяцідзесяці да дваццаці.

> «Таварыства стаіць вонкі ўсіх палітычных партый і кірункаў: адзінай яго задачай ёсць развіццё беларускіх школ і беларускае асветы наагул».
>
> *Са Статута ТБШ*

> **Сяляне неслі на будаўніцтва народных дамоў царскія залатыя пяцірублёвікі і заробленыя за акіянам даляры**

### Ледзь-ледзь, але жывыя

Пасля пагрому аджыць таварыству было няпроста. З усіх акруговых (павятовых) упраў засталася толькі Беластоцкая. Менавіта ў Беластоку ў лістападзе 1932-га прайшоў з'езд, на якім большасць сяброў пастанавіла: ТБШ павінна надаваць менш увагі палітычным лозунгам, а больш займацца культурнай работай і дапамогай сваім сябрам. Дэманстрацыя прыхільнасці да культурна-асветнай працы дала свой плён. Народ смялей пацягнуўся закладаць новыя гурткі ТБШ, а ў лютым 1933-га кіраўніцтва арганізацыі выйграла судовы працэс па абвінавачванні ў камуністычнай прапагандзе.

А восенню 1933-га заходнебеларускія камуністы стрэлілі па кіраўніцтве ТБШ з усіх сваіх прапагандысцкіх гармат. Лідараў таварыства Рыгора Шырму, Фелікса Стэцкевіча, Мікалая Марцінчыка і іншых абвінавачвалі ў прадажніцтве, згодніцтве, жаданні знішчыць арганізацыю. Абвінавачанні былі бязглуздыя, але вельмі моцна дэмаралізавалі беларускіх патрыётаў. Уся гэтая кампанія цалкам упісвалася ў чарговы этап пагрому беларускай інтэлігенцыі ў БССР, калі акурат у 1933 годзе НКВД былі арыштаваныя былыя дэпутаты польскага Сейма, а таксама мноства іншых заходнебеларускіх дзеячаў, якія перабраліся ў БССР з Заходняй Беларусі.

### Адзіным фронтам

Сітуацыя чарговы раз змянілася летам 1935 года. Камуністы спынілі крытыку кіраўніцтва ТБШ, зразумеўшы, што гэтая арганізацыя засталася адзінай значнай беларускай структурай, на якую яны маюць хоць нейкі ўплыў. Да таго моманту амаль усе беларускія школы ў Польшчы былі зачыненыя, і ТБШ вырашыла разам з Беларускім інстытутам гаспадаркі і культуры (БІГіК), які знаходзіўся пад уплывам беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў, арганізаваць чарговы школьны плебісцыт.

У лютым 1936-га прадстаўнікі БІГіКа і ТБШ прынялі сумесную дэкларацыю адносна пачатку новага этапа змагання за беларускую школу ў Заходняй Беларусі: «Мы, Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры і Таварыства ►




ЦЭНТРАЛЬНАЯ НАВУКОВАЯ БІБЛІЯТЭКА НАН БЕЛАРУСІ

**Дапаможнік для беларускіх школ «Пішы самадзейна»**, 1929 год.

▶ беларускай школы, злучаныя адзінай воляй і жаданнем несці святло навукі беларускім дзецям у роднай мове, будзем разам з шырокімі народнымі масамі супольна дамагацца роднай беларускай школы».

Сумесная заява выклікала ў Заходняй Беларусі хвалю энтузіязму. Настолькі шырока запланаванай масавай акцыі беларускі рух не ведаў з канца 1920-х. На пачатак школьнай акцыі ўжо тады вядомы паэт Максім Танк адгукнуўся аптымістычным вершам:

> Хай згуртуецца ўвесь Беларускі Народ —
> і мястэчкі, і вёскі, і сёлы.
> На культурны выходзьце
> разгорнуты фронт,
> дамагайцеся роднае школы!

### Тры колы пекла

Школьная акцыя адразу сутыкнулася з зацятым супраціўленнем з боку мясцовай адміністрацыі. Паліцэйскія чыны, войты і школьныя куратары (аналагі нашых сённяшніх аддзелаў адукацыі) мелі загад усяляк перашкаджаць правядзенню школьнай акцыі. Бацькам, якія хацелі вучыць сваіх дзяцей на беларускай мове, у першую чаргу неабходна было атрымаць ад Школьнага сакратарыята шэраг дакументаў, пасля зарэгістраваць запоўненыя дэкларацыі ў войта і толькі тады звяртацца з імі ва ўстановы асветы. Ужо на пошце пакункі з дакументамі ад сакратарыята перахоплівала паліцыя. Іх не хацелі выдаваць адрасатам, часта мэтанакіравана знішчалі. Аднак такія спробы спыніць школьную акцыю ў самым зародку не мелі поспеху. Напрыклад, жыхары некалькіх вёсак Наваградчыны паслалі аднаго гаспадара з фурманкай у Вільню, і той, зрабіўшы за некалькі дзён дарогу ў 350 кіламетраў, прывёз са Школьнага сакратарыята бланкі заяў на адкрыццё беларускай школы.

Няпроста было атрымаць і подпісы ад войтаў. Калі дэлегацыя ад бацькоў Жыровіцкай гміны Слонімскага павета прынесла да войта на подпіс 99 дэкларацый, той паклікаў паліцэйскага, які арыштаваў бацькоў і забраў у іх дэкларацыі. Частымі былі і фізічныя здзекі: ва ўправы ТБШ і БІГіКа прыходзілі дзясяткі лістоў, дзе прыводзіліся выпадкі гвалту. У адзін з лістоў уклалі акрываўленую пасму валасоў, якую ў жыхара вёскі Акунінова выдраў мясцовы паліцэйскі. Селяніна Сокала з вёскі Зубелевічы Баранавіцкага павета ў паліцыі білі па твары, а жыхароў вёскі Вераб'евічы Слонімскага павета Ярша і Гука каталі кітайскім спосабам: прывязаўшы да лавы, білі гумовымі дубінкамі па пятах. Некалькіх сялян са Стаўбцоўшчыны выслалі ў лагер у Бярозе-Картузскай. У Сейме ў гэты час ужо не было каму бараніць беларускіх актывістаў, бо не было і дэмакратычных выбараў.

Тым не менш вынік быў заўважны. Школьны сакратарыят разаслаў






**Па гэтых карцінках дзіцяці трэба было скласці аповед.** Старонка з дапаможніка «Пішы самадзейна», 1929 год. Малюнкі Мікалая Васілеўскага.

**«Яны чакаюць і спадзяюцца, што мы зробімся працоўнай жывёлай, а мы павінны выявіць сваю жывучасць і свядомасць»**

ФОТА АНДРЭЯ ВАШКЕВІЧА



Будынак на вуліцы Віленскай у Вільні, дзе ў 1920-я знаходзіўся **офіс Таварыства беларускай школы.**

Лёсы сяброў і кіраўнікоў ТБШ былі няпростымі. Многія з іх у 1941 годзе ўключыліся ў барацьбу з фашыстамі. Самыя вялікія спаленыя акупантамі вёскі Заходняй Беларусі — Пузавічы, Байкі, Княжаводцы, Шкленск — мелі ў міжваенны час найактыўнейшыя гурткі ТБШ. Многія лідары ТБШ прайшлі праз сталінскія лагеры. Памёр у турме Аляксандр Уласаў, восем гадоў правёў на Варкуце Мікалай Марцінчык, нават будучы Герой Сацыялістычнай Працы кампазітар Рыгор Шырма правёў у мінскіх засценках НКВД некалькі месяцаў. Тыя шараговыя актывісты ТБШ, якія перажылі ваенную завіруху, збольшага сціпла дажывалі свой век, працуючы ў мясцовых калгасах. ◆

27 тысяч бланкаў дэкларацый аб адкрыцці беларускіх школ, мноства заяў, інструкцый і адозваў — і каля 5 тысяч чалавек змаглі свае дэкларацыі падаць, пісала ў канцы чэрвеня 1936 года газета «Беларуская крыніца».

## Актывісты ТБШ сваё жыццё ахвяравалі Беларусі

### Лёсы арганізатараў

Паліцыя ўважліва адсочвала развіццё школьнай акцыі і рыхтавалася нанесці ўдар па кіраўніцтве ТБШ і БІГіКа. 28 лістапада 1936 года прайшліператрусы адначасова ў 17-ці месцах: на прыватных кватэрах кіраўнікоў БІГіКа і ТБШ, у штаб-кватэрах гэтых арганізацый. А ў пачатку снежня 1936-га абедзве арганізацыі былі закрытыя.

ЦЭНТРАЛЬНАЯ НАВУКОВАЯ БІБЛІЯТЭКА НАН БЕЛАРУСІ


Практыкаваньне 74.

1. Напішэце, што бачыце на гэтых малюнках і прыдумайце да напісанага загаловак.

**Старонка з дапаможніка «Пішы самадзейна»**, 1929 год. Малюнкі Мікалая Васілеўскага.

# Памяць аб Венскай бітве ў беларускай вёсцы

## А мясцовыя кажуць, што гэта помнікі манашкам, якіх з'елі ваўкі

**На заходнім ускрайку вёскі Патапавічы, пры старым гасцінцы, што злучае Ляхавічы і Клецк, стаіць з дзясятак шэрых, па-майстэрску апрацаваных камянёў розных формаў. Калі прыглядзецца, можна пабачыць на іх крыжы ў лацінскай і грэчаскай традыцыі, а таксама надпісы «IHS» (варыянт запісу імя Ісуса Хрыста) і «MARIA». Загадку помніка разгадаў гісторык, кандыдат гістарычных навук Павел Булаты.**

Калі распытаць мясцовых пра гэтыя камяні, топавай будзе легенда, што калісьці там рос вялікі лес і адной цёмнай зімовай ноччу, пры моцнай завеі, праз яго ішлі манахіні. На іх напалі ваўкі і з'елі, а камяні — памяць пра іх. Яшчэ можна пачуць аповед, што камяні паставілі ўдовы па сваіх мужах, якія пайшлі на вайну і не вярнуліся. Таксама кажуць, што гэта «шведская магіла». Цікавая праява народнай памяці! Шведскія войскі сапраўды стаялі тут у 1706 годзе падчас Вялікай Паўночнай вайны і адзначыліся жорсткім рабаўніцтвам. Але ўсё ж гэта фальклор.



Камяні ў вёсцы Патапавічы на гістарычнай Наваградчыне (цяпер Ляхавіцкі раён).

Хоць у гістарычных дакументах пакуль не выяўлена звестак пра паходжанне помнікаў, ёсць адна нітачка. Гэта дата, выбітая на трох камянях: 1683. У той год у Наваградскім павеце і Вялікім Княстве Літоўскім нічога векапомнага не адбывалася: працаваў сойм, суды выносілі рашэнні, краіна крок за крокам аднаўлялася ад цяжкай вайны з Расіяй... А вось у гісторыі Еўропы год 1683-і адзначаны эпахальнай падзеяй. 12 верасня 1683 года пад Венай адбылася вырашальная бітва паміж аб'яднанымі войскамі Святой Рымскай імперыі і Рэчы Паспалітай на чале з каралём польскім і вялікім князем літоўскім Янам III Сабескім і войскам Асманскай імперыі пад камандаваннем візіра Кара Мустафы.

Асманская імперыя на працягу стагоддзяў заваёўвала і падпарадкоўвала ўсё новыя і новыя землі. Туркі ўжо заваявалі паўднёва-ўсходнюю Еўропу, балканскія і румынскія княствы, зламалі супраціўленне Венецыі і захапілі Крыт, заваявалі частку Венгрыі,

захапілі ў Рэчы Паспалітай Падолле (паўднёвы захад Украіны) з горадам Камянец-Падольскі.

У 1682 годзе на землях сучаснай Славакіі выбухнула паўстанне супраць імператараў Габсбургаў. Туркі скарысталі момант і рушылі на Вену. Ян Сабескі рушыў на дапамогу саюзнікам.

**Ігнацы Якуб Масальскі** — асоба досыць незвычайная. Ён праводзіў рэформы, выступаў за вызваленне сялян ад прыгону і падтрымліваў ідэю ўсеагульнай адукацыі. Заклікаў святароў служыць на роднай мове парафіян. У 1790-я быў прыхільнікам Расіі, не падтрымаў Канстытуцыю 3 мая і паўстанне 1794 года і па асабістым загадзе Касцюшкі быў павешаны ў Варшаве. Праз год яго прах быў перавезены ў віленскі Кафедральны сабор.



**Ігнацы Якуб Масальскі.** Карціна Францішка Смуглевіча.

## Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай патрэбна было вялікае свята, якое б умацавала патрыятычны дух. І тут падаспела дата — 100-годдзе перамогі пад Венай

З Венскай бітвы распачаўся заняпад турэцкай магутнасці.

Харугвы з паветаў Вялікага Княства Літоўскага ў самой Венскай бітве ўдзелу не бралі: яны ахоўвалі подступы да горада. Але ў Дунайскай кампаніі войскі з княства ўдзельнічалі і страцілі ў паходзе па гарах Венгрыі блізу 1 000 ваяроў... Толькі што звязвае падзеі гераічнай Венскай бітвы і камяні ў вёсцы Патапавічы? За адказам выпраўляемся ў 1783 год. Адбыўся першы падзел Рэчы Паспалітай... У дзяржаве праводзіліся рэформы... Патрэбна было вялікае свята, якое б умацавала патрыятычны дух народа. І тут падаспела дата — 100-годдзе перамогі пад Венай, слаўнай перамогі сармацкай зброі, вялікай дзяржавы на чале са слаўным каралём-ваяром. Такой нагодай грэх было не скарыстацца. І вось па загадзе караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага адбываюцца святкаванні, на якія было выдаткавана больш як 100 тысяч злотых.

Камяні ў Патапавічах з вялікай верагоднасцю з'явіліся якраз у той самы час. Віленскі каталіцкі біскуп Ігнацы Якуб Масальскі валодаў Ляхавіцкім графствам, на землях якога знаходзілася вёска. Ці мог біскуп зладзіць мемарыял у сваім маёнтку? Лёгка! Трэба меркаваць, што і ўрачыстасці ў верасні 1783 года ў маёнтку таксама адбываліся. І месца ўстаноўкі камянёў не выпадковае: якраз пры дарозе, якая вядзе з Ляхавічаў у загарадную рэзідэнцыю каталіцкіх саноўнікаў. З тых часоў мінулі стагоддзі. Народу пра Венскую перамогу перасталі нагадваць, вось людзі яе і забылі... Толькі Патапавіцкія камяні пад замшэлым крыжам стаяць пры дарозе маўклівымі сведкамі мінулага. ◆



Вырашальная бітва пачалася 12 верасня. А 4-й гадзіне раніцы туркі пайшлі ў наступ, але сустрэлі моцны супраціў аўстрыйцаў і немцаў. 12 гадзін шалі перамогі схіляліся то на адзін, то на другі бок... Усё вырашылася а 17-й, калі падзеленая на чатыры часткі кавалерыя ў 20 тысяч шабляў пад асабістым камандаваннем Яна Сабескага спусцілася з пагоркаў і разбіла шэрагі туркаў. У той жа момант гарнізон Вены рынуўся ў атаку. Еўрапейскія войскі пачалі рух на ўсход.

# «Грамадзяне, абследуйце пасевы бульбы»



## Змаганне з каларадскімі ордамі

Змаганне з жуком. Гродзеншчына, канец 1950-х – пачатак 1960-х гадоў.

**Гэтую гісторыю можна пачаць так: жыў сабе жук. Сімпатычны, з дзесяццю палоскамі на крылцах і знакам V на спінцы... Піша гісторык Андрэй Вашкевіч.**

Упершыню апісаў гэтага жука амерыканскі энтамолаг Томас Сэй у 1824 годзе. Каларадскі жук быў названы дзесяціпалосым. Радзіма каларадскага жука — мексіканска-амерыканскае памежжа, самае сэрца паўночнаамерыканскага кантынента. А яго любімая бульба паходзіць з Паўднёвай Амерыкі і спачатку расла ў Андах. Таму пакуль на захад Паўночнай Амерыкі не прыйшлі пасяленцы, жук харчаваўся дзікімі і вельмі ядавітымі паслёнавымі, з такой кармавой базай канкурэнтаў у яго не было. І толькі ў 1840-я, калі каланісты прывезлі з сабой бульбу, жук пераключыўся на яе. Асабліва пацярпелі пасяленцы Каларада. Пасля гэтай шкоды жук і атрымаў сваё імя.

### Каму вайна, а каму маці родная

У часы Грамадзянскай вайны жук дабраўся да ўсходняга ўзбярэжжа. Перабрацца праз Атлантыку яму таксама дапамагла вайна. У час Першай сусветнай амерыканцы разам з бульбай для сябе і галодных саюзнікаў прывезлі жука ў французскі порт Бардо. Адтуль ён і пачаў пераможнае шэсце па Еўропе, да канца 1930-х апанаваўшы Францыю.

Сярод пераможцаў Другой сусветнай быў і каларадскі жук. К 1945-му ён ужо атабарыўся ў Германіі, Польшчы ды Чэхаславакіі.

Тут і пачалася яго палітычная кар'ера.



Жу-жу, жу-жу, жу-жу,
Я на бульбачцы сяджу,
Ні жу-жу, калі сяджу,
Усё на бульбачку гляджу,
А ў паветры закружуся,
То ўжо во як нажужжуся.

*Прыпеўка са сцэнарыя для старэйшай групы дзіцячага сада горада Крычава*

### Вораг міру, пасланец з Уол-стрыт, імперыялістычны забойца

Наглуха закрытая мяжа «сацыялістычнага лагера» для каларада не стала перашкодай — летам 1950-га ён дабраўся да СССР. Яго ўбачылі адначасова на Львоўшчыне, Валыні, Брэстчыне, Гродзеншчыне і ў Літве. Міністр сельскай гаспадаркі мусіў тэрмінова пісаць Лаўрэнцію Берыю тлумачальную запіску пра тое дзіва.

Кіраўніцтва хутка зразумела, што з гэтага шкодніка-бульбаеда можна атрымаць палітычныя бонусы. Усе галоўныя газеты СССР і краін сацлагера апублікавалі камюніке пра тое, што над іх тэрыторыяй амерыканскія самалёты рэгулярна рассейваюць каларадскага жука. Абвяшчалася, што гэта элемент




**Каларадскі жук** (лац. *Leptinotarsa decemlineata*) — насякомае сямейства лістаедаў. Даўжыня да 12 мм. Цела авальнае, пукатае, жоўтае. Крылы ярка-ружовыя, на жоўтых надкрылах 10 чорных палос, на галаве чорная трохвугольная пляма. Лічынкі і жукі кормяцца лісцем, чаранкамі і сцёбламі бульбы.
Самкі адкладаюць яйкі на ніжні бок лістоў бульбы і іншых раслін сямейства паслёнавых (памідоры, баклажаны, перац). Лічынкі нараджаюцца праз 5–8 сутак і за перыяд развіцця (15–35 сутак) праходзяць 4 узросты. Найбольш пражэрлівыя лічынкі чацвёртага ўзросту — ружова-аранжавыя, з двума радамі чорных бугаркоў па баках, пакрытыя рэдкімі валаскамі.
Прайшоўшы ўсе ўзросты, лічынкі акукліваюцца ў глебе на глыбіні 5–12 см. Праз 15–20 сутак кукалка ператвараецца ў жука. Зімуюць жукі ў глебе на глыбіні 20–40 см. Марозныя зімы могуць зменшаць папуляцыю нават на 90%, але яна хутка аднаўляецца.
Каларадскі жук мігруе і за сезон можа праляцець 400 кіламетраў.



вайны супраць СССР і саюзнікаў. Грамадства мусіла мабілізавацца.

Тут жа газеты запоўніліся карыкатурнымі жукамі, якія на парашутах спускаюцца з амерыканскіх самалётаў. Выпусцілі плакаты: з аднаго боку атамны выбух, з другога — каларадскі жук. Некаторы час у газетах яго нават называлі «амерыканскім жуком».

## Савецкая прапаганда абвінавацiла Амерыку ў закіданні жука ў СССР

### На смяротны бой з каларадскай ардой

Мой бацька расказваў, што па Гродзеншчыне ездзілі прапагандысты, якія мелі ў слоічках пару заспіртаваных жукоў і лічынак, ды паказвалі іх вяскоўцам як дзіва.

Дрэваапрацоўчая фабрыка ў Пінску надрукавала пачак запалак з выявай каларадскага жука і яго лічынкі (лярвы), каб калгаснік, прыкурваючы, меў ворага перад вачыма.

Людзі згадваюць, што за некалькі запалкавых пачкаў ці бутэлечку жукоў у той час можна было атрымаць ад калгаса прэмію!

У канцы 1950-х сітуацыя змянілася. Каларадаў стала заўважна больш, таму пра прэміі ўжо не згадвалі, а збіранне жука ўвайшло ў «праграму навучання» вясковых школьнікаў. Дзіця атрымлівала кіёк, каб адхінаць лісце бульбы, невялічкую ёмістасць з газай, каб тапіць там кузурак, і ішло ў поле. Некаторыя бацькі гідзіліся ад знешняга выгляду жукоў ды выдавалі сваім дзецям пальчаткі. Школьнае начальства выпісвала такім суровую вымову за «выхаванне ў буржуазным духу», а за нявыхад у поле на збор жука пясочылі на калгасных сходах.

Пра тое, як правільна збіраць жука, пісалі раёнкі. Была таксама прапанова ствараць спецыяльныя брыгады тэрмінам на 3 гады. Брыгады мусілі аглядаць пасевы бульбы, памідораў, тытуню тройчы за лета і закрываць знойдзеных жукоў у бутэльках з газай, фармалінам або растворам солі. Месца, дзе знайшлі жука, трэба было пазначаць спецыяльнай вешкай, і паведамляць пра гэта ў сельсавет або старшыні калгаса.

### Людзі змагаюцца — жук пасміхаецца

Народнае збіранне каларадскага жука ўручную нічога не дало. У 1960-я жук апанаваў БССР і дайшоў да РСФСР, а ў 1980-я пераваліў за Урал. За працу ўзяліся біёлагі і хімікі, а ў бой з жуком рушылі не толькі школьнікі з кійкамі, але і пестыцыды. Асобная, не вельмі вясёлая старонка нашай гісторыі — суцэльнае паліванне палёў з самалётаў. Хіміі даставалася не толькі каларадскаму жуку, але і калгаснікам.




Сёння на барацьбу з жуком кідаюцца ўсё новыя сродкі. Навінка дзесяцігоддзя — спроба стварыць геннамадыфікаваныя сарты бульбы, якія былі б не да смаку каларадскаму жуку.

Жук пазірае на гэтыя намаганні з іроніяй. У пачатку XXI стагоддзя ён дабраўся да Хабараўскага края. Завяршыў пераможнае шэсце па паўночным паўшар'і і шчасліва жыве цяпер абапал Ціхага акіяна. ◆

### Анекдоты пра каларадскага жука

— Ну што, куме, паздыхалі жукі ад вашай атруты?
— Паздыхалі не паздыхалі, але здароўе ў іх ужо не тое.

На калгасным сходзе:
— У мінулым годзе пасадзілі 50 га бульбы — з'еў каларадскі жук. У гэтым годзе пасадзілі 100 га — зноў з'еў. У наступным годзе пасадзім 200 га — хай падавіцца!

Сядзяць у пекле Гітлер і каларадскі жук.
Каларадскі жук:
— Ты за што тут сядзіш?
Гітлер:
— Хацеў увесь свет на калені паставіць. А ты за што?
Каларадскі жук:
— А я ўвесь свет ракам паставіў.

Два гады дзед апырскваў ГМА-хімікатамі каларадскага жука. На трэці год жук ужо сам дапамагаў дзеду абганяць бульбу.

Пытанне Армянскаму радыё:
— Якія дзве сілы вядуць самую жорсткую ў свеце вайну?
Адказ:
— Беларускія партызаны і каларадскі жук.

У мэтах барацьбы са шкоднікам Міністэрства сельскай гаспадаркі абвясціла, што за кожнага здадзенага каларадскага жука будзе плаціць капейку. Цяпер усе сяляне разводзяць каларадскага жука.



*«Ты готов был отдать душу за рок-н-ролл, извлеченный из снимка чужой диафрагмы»*

# МУЗЫКА НА КАСЦЯХ



**Васіль Лісейчыкаў** у Мінску каля alma mater — Беларускага тэхналагічнага інстытута імя Сяргея Міронавіча Кірава. 1977 год.

**Пра пласцінку з гісторыяй піша Дзяніс Лісейчыкаў.**

Першым меламанам у нашай сям’і быў дзед Васіль. У пачатку 1950-х на свой заробак ляснічага ён купіў патэфон. Цяжкія эбанітавыя дыскі на 78 абаротаў Апрэлеўскага і Рыжскага заводаў грампласцінак і сёння захоўваюцца ў сямейным архіве. Рэпертуар іх самы розны: «Ніч яка місячна», «Под небом моей Андалусии», «Черноглазый инженер». Неўзабаве ў хаце з’явілася суперсучасная радыёла «Беларусь-59» вытворчасці Мінскага радыёзавода.

Меламан у першым пакаленні, дзед купляў пласцінкі ў вялікай колькасці і без разбору — большасць песень на вытворчапобытавыя тэмы сёння без смеху слухаць немагчыма. Ягоны сын, таксама Васіль, любоў да музыкі пераняў, але пласцінкі купляў ужо асэнсавана. Зрэшты, добрую музыку тады трэба было



**Лямпавая радыёла «Беларусь-59».**

не купляць, а «даставаць» — праз знаёмых альбо ў перакупшчыкаў.

У песні Віктара Цоя пра старога «бітніка» ёсць словы: *«Ты готов был отдать душу за рок-н-ролл, извлеченный из снимка чужой диафрагмы»*. Гаворка тут пра пірацкія копіі пласцінак, якія ў СССР выраблялі на спісаных з паліклінік рэнтгенаўскіх здымках. Таму прадукцыя нелегальных студый атрымала ў народзе мянушку «музыка на рэбрах» або «на касцях».

Вёска Малахоўцы, канечне, цэнтр сельсавета, але дастаць такое было няпроста нават у Мінску. Заакіянскі рок-н-рол прыехаў да нас з Ленінграда. Улетку 1971 года малахоўскі піянер Васіль Лісейчыкаў у ліку выдатнікаў

вытворчай брыгады пры саўгасе «Чырвоны сцяг» быў прэміраваны пуцёўкай у калыску трох рэвалюцый. Маршрут тыднёвай вандроўкі праходзіў па ўсіх афіцыйных турыстычных цікавостках. Але болей за ўсё вабіў гіганцкі ўнівермаг «Гасціны двор». Тут малахоўскіх меламанаў прыкмеціў доўгавалосы фарцоўшчык.

— Што вас цікавіць, хлопцы?

— Высоцкі і «Бітлы»!

— Высоцкага няма, а «Бітлы» знойдуцца. Колькі вам?




**Глен Кэмпбэл,** 1967 год.

**Нячыстыя на руку фарцоўшчыкі маглі прадаць запісаную на рэнтген нецэнзурную лаянку альбо яшчэ лепей — цішыню**

Расхінулася куртка — і піянерская фанатэка папоўнілася дзвюма кампазіцыямі ліверпульскага вакальна-інструментальнага ансамбля. Грошы немалыя: рубель за штуку. Хіпі імгненна знік.

Кажуць, фарцоўшчыкі маглі прадаць запісаную на рэнтгенаўскі здымак нецэнзурную лаянку альбо яшчэ лепей — цішыню. Але, дзякуй богу, дома з пласцінак загучалі сучасныя рок-н-рольныя мелодыі. Якасць запісу, праўда, была абы-якой. Высветліць назвы «бітлоўскіх» кампазіцый не здолелі. У школе вывучалі нямецкую мову, таму дапамагчы не маглі і настаўнікі. Тым не менш «Бітлы на касцях», прывезеныя з Ленінграда, некалькі гадоў ігралі на ўсіх малахоўскіх танцах.

Лішнім будзе казаць, што я адразу загарэўся праслухаць скарбы ўзростам у паўстагоддзя. Прайгравальнік «Вега-104», які мы закінулі на антрэсолі дваццаць гадоў таму, ніяк не хацеў круціць пласцінку на 45 абаротаў у хвіліну. Іголка-гуказдымальнік у жахлівым стане, якасць запісу страшэнная, пласцінка зацёрлася. Нарэшце, праз трэск і шум удалося разабраць малады мужчынскі голас: *«Sweet dream, baby»*. Гэта былі словы песні *«How Long Must I Dream»*. Пазл склаўся.

Кампазіцыю ў 1962-м напісала амерыканская спявачка Сіндзі Уокер, а хітом яна стала ў выкананні Роя Орбісана. Новае жыццё песні даў Глен Кэмпбэл, які ўвесну 1971-га на студыі *«Capitol Records»* запісаў пласцінку з сінглам *«Dream Baby (How Long Must I Dream)»*. Сінгл імгненна заняў першыя радкі ў заходніх хіт-парадах і стаў аб'ектам пільнай увагі савецкіх нелегальных студый гуказапісу. У тым жа годзе асобнік кантрафактнага Глена Кэмпбэла купіў і прывёз дахаты беларускі школьнік Васіль Лісейчыкаў.

Нямногія сельскія дыскатэкі маглі пахваліцца самай свежай прадукцыяй амерыканскага шоу-бізнэсу. На ўсе Малахоўцы тым летам гучала рамантычнае: *«Dream baby, make me stop my dreaming, you can make my dreams come true»*. ◆




**У пакоях інтэрната для настаўнікаў школы ў вёсцы Ястрамбель каля Малахоўцаў.** 1976 год. На ложку — радыёпрыёмнік «Україна-201» і электрапрайгравальнік «Юность-301» з моднымі пласцінкамі. На стале — пляшка брэсцкай «Зуброўкі».

# Хто дапамог Купалу, як вяртаюць цудадзейную ікону, доктар Гнаінскі супраць кавы...

## Новы спосаб вяртаць страчаныя каштоўнасці

Слаўная на ўсё Вялікае Княства навагрудская цудатворная ікона загінула ў пажары 1751 года. Але хутка яна вернецца ў горад. На шчасце, захаваліся дзве гравюрныя копіі, і на іх аснове ў 2018 годзе была створана 3D-рэканструкцыя.

У 1615 годзе ікону прывезлі з Вязьмы як трафей. Давезлі толькі найсвяцейшую Дзеву, бо фігура Ісуса «неасцярожна была адшчэплена і страчана». Клопатам віленчука Мікалая Каламыскага правялі рэстаўрацыю — на «прыточанай» дошцы дамалявалі новага Ісуса замест страчанага. Пакуль выбіралі храм для іконы, зберагалі яе на алтары ў Тургелях — мястэчку паміж Вільняй і Ашмянамі.

Але пачалася новая вайна, і ў 1658 годзе князь Шахаўской атрымаў загад знайсці цудатворную ікону. Дапытаў віленчука Юрыя Селетчыка, і той расказаў, што перавёз манахаў з іконай у Каралевец. Яму не паверылі, адправілі пошукавы атрад у Навагрудак.

Тым часам ікону перанеслі з Тургеляў пад Слонім. У гэты перыяд яна стала цудадзейнай. 5 лістапада 1662 года ў Жыровіцах сабралі камісію, якая пратаколам засведчыла цуды. Пасля вайны ікону перадалі навагрудскім езуітам.

За дзесяць гадоў камісія зафіксавала 48 цудаў. Ікона дапамагала ад каўтуна, «дрыжання сэрца», «незвычайнага суму», болю галавы, зубоў, зламаных і параненых рук, ног, галоў. У падзяку вернікі складалі ёй ахвяраванні: табліцы, зубы, сэрцайкі, рукі і ногі — усё са срэбра.

У Вільні выйшлі дзве кніжкі з гісторыяй іконы ды апісаннямі цудаў. Гэта кароткія жывыя замалёўкі: «Год 1654. Панна Ганна Кубельская, калі шведы забралі каня і іншыя рэчы, прысвяціла сябе іконе з гэтым сваім няшчасцем — праз вельмі кароткі час конь і некаторыя іншыя рэчы вярнуліся». У 1661 годзе ікона вызваліла ад непрыяцеля пана Гадлеўскага, які служыў пад харугвай Слонімскага павета. У 1665 годзе «Фёдар Ясінскі, прысвяціўшы сябе той іконе ў справе супраць масквіцінаў, выйшаў здаровым без ніякай шкоды».

Захаваліся дзве гравюры з выявай навагрудскай іконы. Адна, хутчэй за ўсё, змяшчалася ў кнізе цудаў 1673 года. Другую стварыў Лявон Тарасевіч для твора езуіта Іаана Дрэўса «Спосаб паломніцтва». Кніга прызначана для паломнікаў, якія хацелі цягам года раз на месяц наведаць славутыя іконы Польшчы (чатыры іконы), ВКЛ (пяць), Прусіі (дзве), Чырвонай Русі (адна). Для наведвання «цудатворнай Навагрудскай» рэкамендаваны месяц жнівень. Кніга зусім маленькая, каб лёгка змяшчалася на далоні.




Ікона загінула разам з касцёлам і ратушай. Але ў 2018 годзе паўстаў «Камітэт па адбудове Ратушы ў Навагрудку». І пецярбургскія члены камітэта вырашылі аднавіць з дапамогай сучасных тэхналогій цудатворную навагрудскую ікону, каб яна стала першым — і галоўным — жыхаром адбудаванай на карысць паспалітага люду навагрудскай Ратушы.

**Мікалай Нікалаеў, Санкт-Пецярбург – Навагрудак**



# Невядомы аўтограф Янкі Купалы

Усе творы і дакументы, напісаныя Янкам Купалам, складаюць 10 кніг поўнага збору твораў. Але і поўныя зборы з цягам часу дапаўняюцца. Падчас архіўных пошукаў па гісторыі мінскай Лошыцы я натрапіў на невядомы раней дакумент, звязаны з Купалам.

З 1920-х да сярэдзіны 1980-х у Лошыцкай сядзібе працавалі селекцыянеры, адсюль пачалася беларуская навуковая селекцыя. На пачатку 1920-х тут дзейнічала вучэбная ферма Беларускага дзяржаўнага інстытута сельскай гаспадаркі, якую ўзначальваў Ярослаў Ясінскі.

Гэтага Ясінскага Янка Купала згадваў добрым словам у лісце ад 20 сакавіка 1920 года ў рэдакцыю газеты «Беларусь». Ён тады 2,5 месяцы правёў у бальніцы, а ў лісце дзякаваў людзям, якія на насілках занеслі яго з дому ў палату: Тарашкевічу, Іваноўскаму, Ясінскаму... Праз некалькі месяцаў (6 жніўня) Ясінскі падаў заяву ў Мінскі губернскі зямельны аддзел з просьбай «предоставить работу по специальности техника-механика». На гэтай заяве і знойдзены невядомы раней аўтограф Купалы. Гэта рэкамендацыя: «Тав. Ясінскага знаю як самага акуратнага і сумленнага працаўніка, якому можна даверыць самую адказную працу». Побач рэкамендацыя і ад будучага акадэміка Сцяпана Некрашэвіча.

Адкуль Некрашэвіч і Купала ведалі Ясінскага? У анкеце Ярослаў Ясінскі паведамляе, што нарадзіўся 11 лютага 1875 года ў Барысаўскім павеце Мінскай губерні, меў «сярэдне-тэхнічную адукацыю» і «дваццацігадовы практычны стаж», быў жанаты і меў двух дзяцей, валодаў рускай, беларускай і польскай мовамі, з'яўляўся членам камісіі аддзела забеспячэння Наркамасветы. У Наркамасветы ў 1920-м якраз і працавалі Сцяпан Некрашэвіч ды Янка Купала.

Далей усё было сумна. У 1931-м Ясінскі асуджаны «за антысавецкую агітацыю» на тры гады высылкі. І ўжо як жыхар саўгаса «Чырвоны колас» Ліпецкага раёна РСФСР быў расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БССР у 1989-м.

На вялікі жаль, гэтым звесткі пра Ярослава Ясінскага абмяжоўваюцца. Але спадзяюся, што неўзабаве архівы адкрыюць падрабязнасці яго стасункаў з Янкам Купалам. А можа, і ўзбагацяць творчую спадчыну апошняга.

**Юры Кур'яновіч**

# Навагрудскі доктар, які змагаўся з кавай

«Рызыкну дадаць штрых да вытокаў кававай залежнасці Адама Міцкевіча, — піша ў фэйсбуку кандыдат гістарычных навук **Анатоль Сцебурака**. — Як пісаў у «Нашай гісторыі» Алесь Белы (№4, 2018), слынны паэт з юнацтва дужа любіў каву, а ў пачатку 1820-х цэлымі днямі нічога не еў і падтрымліваў сілы «толькі празмерным ужываннем кавы і тытуню». Як жа ён стаў каваманам? Уплыў роднага Навагрудка? Відаць, што так!

Толькі адважны лекар з характэрным прозвішчам Гнаінскі паспрабаваў кінуць выклік цяжкай залежнасці месцічаў. У сваім горадзе ён змагаўся з кавай, як Дон Кіхот з ветракамі. І ўрэшце атрымаў строгую вымову за радыкальную антыкававую прапаганду. Афіцыйныя «Гродзенскія губернскія ведамасці» паведамлялі пра гэтую драму суха: «Аб'явы і паведамленні.



Пётр Гнаінскі-Міткевіч.

С. Петербургъ
22 Марта 1841.

ОБЪЯВЛЕНІЯ и ИЗВѢЩЕНІЯ.

*1. О сдѣланномъ выговорѣ.*

Новогрудскому Уѣздному Врачу Гноинскому, за неправильное и во все неосновательное заключеніе его о вредности здоровью человѣческому, покупаемаго Новогрудскими жителями забрайнаго у тамошнихъ купцовъ кофе, равно какъ и вообще за слабое отправленіе имъ своей должности, сдѣланъ выговоръ.

Аб вымове навагрудскаму павятоваму лекару Гнаінскаму за няправільнае і зусім беспадстаўнае заключэнне аб шкоднасці кавы для здароўя чалавечага». (Дарэчы, дзякуючы калекцыянеру Уладзіміру Ліхадзедаву «Гродзенскія губернскія ведамасці» даступныя ў зале рэдкіх кніг і старадрукаў Нацыянальнай бібліятэкі.)

Доктар Пётр Францавіч Гнаінскі (1799–1873) — шляхціц з Навагрудчыны. Пасля заканчэння гімназіі ў Навагрудку ён вывучаў медыцыну ў Віленскім універсітэце (1818–1823). У 1831 годзе вылечыў цяжка хворага Міхаіла Мураўёва — таго, які ў час задушэння паўстання Каліноўскага атрымае мянушку Вешальнік.

30 гадоў Пётр Гнаінскі служыў павятовым лекарам. Гувернёрам яго дзяцей быў будучы кіраўнік паўстання на Навагрудчыне Уладзіслаў Борзабагаты. А дачка стала жонкай інсургента Антонія Пуцяты. Сам пажылы доктар таксама быў ангажаваны ў Студзеньскім паўстанні і ледзь пазбег высылкі ў Арэнбургскую губерню.

Адно я ніяк не магу зразумець: ну як такі чалавек мог не любіць каву?»

Болей прачытаць пра доктара можна ў артыкуле Вольгі Гарбачовай «Паўстанцы 1863 года на фотаздымках» («Arche», №12, 2010) і «Рута-мята ды памята» Вадзіма Усціновіча («Маладосць», №4, 2011). ◆

# АПОШНІ ВАМПІР

### ЧАСТКА 3

Аўтар сюжэта **Андрэй Скурко**
Мастак **Філіп Какоша**

























ЛЮДВІК РАСКАЗАЎ НАСЦЕ, ЯК ЗАГІНУЎ ЯЕ БРАТ.
БЕДНЫ ВАСІЛЬ... ЭХ, БРАЦЕ...


... ЁН КАЗАЎ, У ВАС ЯГОНЫЯ ПАПЕРЫ, ТАМ ПРА МАІХ БАЦЬКОЎ.
ТАК, У МЯНЕ ЯНЫ, НА ГАРЫШЧЫ ПОЎНАЯ СКРЫНЯ. КАЛІ ТОЛЬКІ МЫШЫ ІХ НЕ З'ЕЛІ...


ЯНЫ ПАДНЯЛІСЯ НА ГАРЫШЧА...
ВОСЬ, І ПАПЕРЫ, І КНІЖКІ, І КОЛБЫ НЕЙКІЯ. ВАСІЛЬ УСЁ СЮДЫ ПЕРАВЁЗ, ХАВАЮЧЫСЯ...
ДЫ ІХ ГОД РАЗБІРАЦЬ ТРЭБА! ТУТ АМАЛЬ ЦЭЛАЯ ЛАБАРАТОРЫЯ!
А ТЫ СПЯШАЕШСЯ? ПАЖЫВІ Ў МЯНЕ. ЛЮДЗЯМ СКАЖУ, ШТО ПЛЯМЕННІК З ГОРАДА НА ЛЕТА ПРЫЕХАЎ. ЗААДНО ПА ГАСПАДАРЦЫ ДАПАМОЖАШ.


ЛЮДВІК ЗАСТАЎСЯ НА ХУТАРЫ. НОЧЧУ ЁН ВЫВУЧАЎ ПАПЕРЫ, А ЎДЗЕНЬ...
НУ ВОСЬ КУДЫ ТЫ, КАБ ЦЯБЕ ХАЛЕРА!...
АДРАЗУ БАЧНА – ГАРАДСКІ!..


АДНОЙЧЫ Ў НЯДЗЕЛЮ...
ЛЮДВІК, МЫ З ВЕРАЙ ІДЗЁМ ДА СУСЕДЗЯЎ НА СЯЛО. ХАДЗІ З НАМІ, ХОЦЬ НА ДЗЕВАК ПАГЛЯДЗІШ!
А ПАГЛЯДЗЕЦЬ МНЕ І ТАК ЁСЦЬ НА КАГО...
НЕ, ЦЁЦЯ НАСТА, Я ЛЕПЕЙ ПАЧЫТАЮ!


ЛЮДВІК ПАГЛЫБІЎСЯ Ў ЧЫТАННЕ, АЛЕ РАПТАМ...
БАЛІЦЬ!
ШТО ГЭТА? НІБЫ ДЗІЦЯ ПЛАЧА... ДЫК НІКОГА Ж НЯМА...
БАЛІЦЬ!
БАЛІЦЬ!
РОМКА? ЁН ЖА НЕ РАЗМАЎЛЯЕ... І ЎСЁ Ж... ТРЭ ПАЙСЦІ ПАГЛЯДЗЕЦЬ...


РОМКА!!!
ЖЫВОТ УНІЗЕ... ПЯЧЭ...


БАЛЮЧА, ВЕЛЬМІ ПЯЧЭ...ЛЮДВІК, ВЫРАТУЙ МЯНЕ...
ПАДОБНА НА АПЕНДЫЦЫТ... ТРЫВАЙ, РАМАНКА, ТРЫВАЙ! ЕДЗЬМА Ў ШПІТАЛЬ!


НО! НО! ХУТЧЭЙ, ЛЫСКА, ХУТЧЭЙ!
РАТАВАЦЬ РАМАНКУ ТРЭБА! НО!! ХУТЧЭЙ!


КРЫХУ ПАЗНЕЙ У ВАЛОЖЫНСКІМ ШПІТАЛІ...
ПРААПЕРАВАЛІ! ЯШЧЭ НЕКАЛЬКІ ГАДЗІН – І БЫЛО Б ПОЗНА!
ДЗЯКУЙ БОГУ! І ВАМ, ДОКТАР, ДЗЯКУЙ!


ЯК ТЫ ДАЗНАЎСЯ, ШТО ЯМУ БАЛІЦЬ?
ЯК? ЁН... ГАВАРЫЎ СА МНОЙ. Я ЧУЎ ЯГОНЫЯ СЛОВЫ...
ГАВАРЫЎ?! ЁН МАЎЧАЎ, НАВАТ КАЛІ НАРАДЗІЎСЯ!


ЛЮДВІК ШУКАЎ АДКАЗЫ Ў ПАПЕРАХ СВАЙГО БАЦЬКІ...
АГА, ВОСЬ... "ПРЫРОДЖАНЫ ВАМПІР МОЖА АДЧУВАЦЬ НА АДЛЕГЛАСЦІ ЭМОЦЫІ І ЧЫТАЦЬ ДУМКІ ІНШЫХ ЛЮДЗЕЙ... ТАКСАМА, ПРЫ ПЭЎНАЙ ПРАКТЫЦЫ, МОЖА ПЕРАДАВАЦЬ ІНШЫМ ЖЫВЫМ ІСТОТАМ СВАЕ ДУМКІ І НАВАТ КІРАВАЦЬ ІМІ"...


О, А ВОСЬ І ЖЫВАЯ ІСТОТА! ПАПРАКТЫКУЕМСЯ... ШЭРЫ! ПРЫНЯСІ ШАПКУ!


ПРАЙШЛО ПАЎГАДЗІНЫ....
ШЭРЫ!.. ПРЫНЯСІ!.. ШАПКУ!..
ЧАГО Ж ЁН НЕ СЛУХАЕЦЦА?.. ТРЭБА БОЛЬШ КАНЦЭНТРАЦЫІ, БОЛЬШ... НУ, ШЭРЫ...


АГА, ТРЭБА НЕ ТОЛЬКІ ДУМКА, АЛЕ І ВОЛЯ...
АТРЫМАЛАСЯ! МАЛАЙЧЫНА, ШЭРЫ, ДОБРЫ САБАЧКА! ДОБРЫ!


ПРАЙШЛО НЕКАЛЬКІ ДЗЁН...
ТАК, ЦЯПЕР ПАВАРОТ... ТАК, А ЦЯПЕР РУШ НАЎПРОСТ! МАЛАЙЧЫНА!


ВЯРНУЎШЫСЯ З ПОЛЯ, ЛЮДВІК ПАЧУЎ У ХАЦЕ ЧЫЙСЬЦІ ЧУЖЫ ГОЛАС...
ТАВАРЫШ РАДЗЮК, ЗАЎТРА МАЕЦЕ З'ЯВІЦЦА НА СХОД ПА АРГАНІЗАЦЫІ КАЛГАСА!
ХТО ГЭТА? З МДБ? НЕ, НАЎРАД ЦІ... ПАЧАКАЮ ТУТ...
СЦЯПАН, НЕ ПАЙДУ Я Ў ВАШ ГАЛАДРАНСКІ КАЛГАС!


ЗДУРНЕЛА? У СІБІР ХОЧАШ ЗА АНТЫСАВЕЦКУЮ АГІТАЦЫЮ? ПАДАТАК ЯК З КУЛАЦКАЙ ГАСПАДАРКІ ХОЧАШ?
Я ВАЕННАЯ ЎДАВА, У МЯНЕ МУЖ НА ФРОНЦЕ ЗАГІНУЎ.


МУЖ ФРАНТАВІК, А ДЗІЦЯ АД НЕМЦА! ГЛЯДЗІ, КАБ БЫЛА НА СХОДЗЕ, СЯДЗЕЛА ЦІХА І РУКУ ПАДЫМАЛА!
...


МІЛІЦЫЯНТ СЫШОЎ, І ЛЮДВІК ВЯРНУЎСЯ Ў ХАТУ...
ВО ДЗЕ СВОЛАЧ! ХОДЗІЦЬ ЁН...
ЦЁЦЯ НАСТА, А ДЗЕ ВЕРА?
ВЕРА ПА СОЛЬ ПАЙШЛА Ў КРАМУ. ХУТКА ВЕРНЕЦЦА
НЕ, ЁН НЕБЛАГІ ЧАЛАВЕК, НА ТАНЦЫ РАЗАМ У МАЛАДОСЦІ ХАДЗІЛІ. ДАПАМОЖА ПРЫ ПАТРЭБЕ. СЯДАЙ ПАЛУДНАВАЦЬ.


ПА ДАРОЗЕ ДАДОМУ ВЕРА СУСТРЭЛА МЯСЦОВАГА АКТЫВІСТА ВЛКСМ ЛАЗЕЙКІНА...
ВЕРАНІКА, ПАЧАКАЙ! НУ ЧАГО ТЫ ЎЦЯКАЕШ АД МЯНЕ?
Я НЕ ВЕРАНІКА, ТАВАРЫШ ЛАЗЕЙКІН! І НЕ ЎЦЯКАЮ, А ІДУ ДАДОМУ!


НУ ДАВАЙ ПАГАВОРЫМ! Я ШТО, ЗУСІМ НЕ ПАДАБАЮСЯ ТАБЕ? ЧАМУ?
БО... ГАЛАВА Ў ЦЯБЕ ЯК У КАЖАНА, З РОТА СМЯРДЗІЦЬ... А ЯШЧЭ ТЫ БАЦЬКУ СВАЙГО Ў НКВД ЗДАЎ...


ТАК, ЗДАЎ! БО ЁН ЗДРАДНІКАМ СТАЎСЯ І КЛАСАВЫМ ВОРАГАМ! А ТАКІХ ТРЭ ЗНІШЧАЦЬ, ЯК ШАЛЁНЫХ САБАКАЎ!
БЕЗ АНІЯКАЕ ЛІТАСЦІ!


А ЦЯБЕ... ЦЯБЕ Я ЛЮБЛЮ!


МЕЖДЖУ ПРОТЧЫМ, Я НЯДАЎНА СТАЎ ЧЛЕНАМ МАГУТНАЙ ТАЯМНІЧАЙ АРГАНІЗАЦЫІ!..
ЯКОЙ ГЭТА? НЯЎЖО "ТАЯМНІЧАГА САЮЗА ВАЯЎНІЧЫХ АПАЛОНІКАЎ?" ОХ, БАЮСЯ-БАЮСЯ...


ДАРЭМНА СМЯЕШСЯ! НАМ ТУТ УСЁ ПАДУЛАДНА!
УСЁ, ДЫ НЕ Я!


НУ, ЗАРАЗ ПАБАЧЫМ!!!


ШТО... ТЫ... ЁСЦЬ ТАКОЕ?!...
ЦЯПЕР ТЫ АБО БУДЗЕШ СА МНОЙ, АБО ЗДОХНЕШ ТУТ, ПАД ДРЭВАМ!!! У ЦЯБЕ ЁСЦЬ НЕКАЛЬКІ ХВІЛІНАЎ! ВЫБІРАЙ!


І ВЕРА ЗРАБІЛА ВЫБАР...
ДАЧУШКА, ШТО З ТАБОЙ? БЛЕДНАЯ, КРУГІ ПАД ВАЧЫМА....
НЕ, НІЧОГА, Я ЗДАРОВАЯ...
А З ШЫЯЙ ШТО? ЧАМУ ЗАВЯЗАЛА?
НЯЎЖО?... ПЕРАВАРАЦІЛІ? ХТО?..
АДЧАПІСЯ АД МЯНЕ! УСЕ АДЧАПІЦЕСЯ! БОЛЬКА СЕЛА!


З ХАТЫ ВЕРА ПАЙШЛА Ў ЛЕС, ДЗЕ ЯЕ ЎЖО ЧАКАЎ ЛАЗЕЙКІН...
НУ?
БАЧЫЛА ЯГО ДАКУМЕНТ: ЛЕАНІД РУДЗІЦКІ...
МАЛАЙЧЫНА! НА, АДПІ!


І ВОСЬ ГЭТА ЯШЧЭ ПАДПІШЫ...
Я, РАДЗЮК ВЕРА... СВЕДЧУ, ШТО МАЯ МАЦІ... ДАПАМАГАЛА ФАШЫСТАМ... ВЯДЗЕ АНТЫСАВЕЦКУЮ АГІТАЦЫЮ...


ЗАБУДЗЬСЯ ПРА ІХ! ЯНЫ - ГРАЗЬ! Я ТВАЯ НОВАЯ СЯМ'Я!
ДЫК ГЭТА ЎСЁ - НЯПРАЎДА!


КРЫХУ ПАЗНЕЙ ЛАЗЕЙКІН УЖО ТЭЛЕФАНАВАЎ У МІНСК.
АЛЁ, МІНСК? КАМІСАРЫЯТ? ЛЕАНІД РУДЗІЦКІ ЗНОЙДЗЕНЫ!

# Наша Пластыляндыя

**Прыгоды ў Ледавіковым перыядзе**




Танака і першабытныя слімакі доўга блукалі ў пошуках.

Глядзіце!




Гэта племя зеленарогіх!

Шанцуе ім! У іх ёсць агонь.




Давайце адбяром у іх агонь!

Не!

У мяне ёсць лепшая ідэя.

Танака ўзяў кап'ё і каменную сякеру.

Прывітанне!

У яго зброя!

Нам канец.




























Аўтар: Алесь Кудрыцкі

www.tanaka.by

Малюнак **Кацярыны Першынай.** Запісала **Паўліна Скурко**

# ЯН ГЛАЎБІЦ
## *і віленскае барока*

Вы, напэўна, не раз бачылі ў Старым горадзе будынкі, падобныя да торта? Густа аздобленыя завіткамі, калонамі, хвалямі, скульптурамі — нібы ўпрыгожаннямі з крэму? Так і хочацца з'есці такі будыначак!

Гэты стыль называецца барока, па-італьянску гэта значыць «дзіўны». Мяне заўсёды лічылі дзіваком, то і не дзіўна, што я так палюбіў гэты стыль. Як гэта можа не падабацца? Стыль барока — святочны і неўтаймаваны. Акурат як я, архітэктар Ян Глаўбіц.

Архітэктар, або дойлід — прыгожае беларускае слова — значыць, што я прыдумляю будынкі і сачу, каб іх пабудавалі правільна. Я заўсёды марыў пакінуць на зямлі след — і такая праца мне да душы. Я праектую штогод па будынку, а то і па два.

Родам — немец, але стварыў фірмовы беларускі стыль. Віленскае барока, чулі пра такі? Яго няма больш нідзе ў свеце.

Пазнаць мой стыль проста: храмы маюць дзве высокія ажурныя вежы абапал увахода.

Чаму віленскае? Бо жыву я ў Вільні, сталіцы Вялікага Княства, і тут пачаў свае эксперыменты з будынкамі. Тут маіх шэдэўраў захавалася найбольш. Але ёсць яны і ў іншых гарадах.

Калі войскі расійскага імператара Пятра I узарвалі самую старажытную




Перад табой мапа Беларусі. На ёй — храмы ў стылі віленскага барока. Гэта ўсяго толькі малая частка. **Падпішы гарады і мястэчкі, у якіх знаходзяцца гэтыя прыгожыя будынкі** (усе назвы ёсць у таблічцы, а ў подпісах — падказка). Падпісаў? Цяпер ты ведаеш сваю краіну яшчэ лепш!




беларускую царкву — Сафійскі сабор у Полацку — мяне пазвалі яго аднаўляць. Я перастварыў храм у сваім стылі, але і захаваў усё старажытнае, што было. І цяпер вы можаце пабачыць у Полацку яркія фрэскі, спусціцца ў 1000-гадовыя сутарэнні.

А спераду я дабудаваў да сабора дзве стромкія вежы. У ваш час паэт напісаў, што «Сафія плыве над Дзвіною нібы карабель». А я ж так і задумаў!

Мы, архітэктары, мусім прадбачыць густы нашчадкаў, бо нашы творы жывуць нашмат даўжэй за нас.

Кожны хоча прыдумаць нешта новае. Каб упрыгожыць Вільню, я прыдумаў парасстаўляць сярод яе драўляных ды каменных будынкаў ажурныя вежы. Самы высокі мой твор — званіца ўніверсітэцкага касцёла Святога Яна.

Не ад добрага жыцця, канечне, горад вырашылі перабудаваць: за 12 гадоў у Вільні было тры пажары. То нехта свечку ўпусціць на драўляную падлогу, то ад печкі іскра адскочыць — і панёсся агонь з дома на дом. У часе апошняга пажару я ледзь уратаваўся. Жоначка мая схапіла дзяцей, а я забавіўся: ніяк не мог сабраць чарцяжы. Упершыню бачыў агонь так блізка. Страшная стыхія! Калі пажар скончыўся, карціна ўсё яшчэ стаяла ў вачах. І тут я прыдумаў. Сеў і за дзень нарысаваў браму ў **базыльянскія муры**. Можаце і вы палюбавацца ёю: яна злева ад Вострай брамы. Такая лёгкая, яна нібы чакае моманту, каб узляцець! За ёй — старажытная царква, якую нават пажары не змаглі знішчыць. Звярніце ўвагу на яе вежачкі — нібы злепленыя з мокрага пяску.

Я сам немец, пратэстант, і для нашых храмаў — чым менш упрыгожання, тым лепш. Ніштo не павінна адрываць увагу, калі звяртаешся да Госпада. Але люблю я ўсякія завіткі — таму радуюся, што магу праектаваць касцёлы для каталікоў, цэрквы для праваслаўных і ўніятаў, сінагогі для іўдзеяў.

Насупраць уніяцкіх базыльянскіх муроў стаіць мой праваслаўны шэдэўр. Звонку — звычайная строгая царква. А вы зайдзіце ў яе! Тут на завіткі і ўпрыгожанні я не скупіўся, запраектаваў на сценах усё, што люблю. А галоўнае — звярніце ўвагу на алтар, самае важнае месца ў храме. Такога зялёнага алтара, прысягаюся, вы ні ў адной царкве не знойдзеце. Прыдумаў яго пасля чарговага пажару. Усе сады ў горадзе пагарэлі, і мне хацелася, каб людзі хоць недзе бачылі гэты колер жыцця.

Запрашаю цябе ў Вільню, дарагі чытач, а таксама прапаную паглядзець помнікі віленскага барока ў Беларусі.

## Дзе жыве віленскае барока?

Баруны,
Варняны,
Васілішкі,
Віцебск,
Вольна,
Глыбокае*,
Гродна,
Дзятлава,
Івянец,
Лужкі,
Мінск,
Полацк,
Слонім,
Смаляны,
Сталавічы,
Талачын

* Царква ў Глыбокім унікальная: яна мае не дзве вежы, а чатыры. Таксама ў Глыбокім ёсць прыгожы барочны касцёл.

МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Беларуская! 1919

выстава

# Рэспубліка

(да 100-годдзя абвяшчэння БССР і 95-годдзя абвяшчэння беларусізацыі)

## 27.03/12.05

АДРАС: Г. МІНСК, ВУЛ. КАРЛА МАРКСА, 12
ШТОДЗЁННА З 11.00 ДА 19.00
ТЭЛЕФОН: 327 43 22
HISTMUSEUM.BY